УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
Ш11

Ідэя кнігі і прадмова
Алеся Аркуша

**Шыдлоўскі С.**
Ш11 Музэюм **: эсэ, імпрэсіі** / Сяргей Шыдлоўскі ; ідэя кнігі і прадмова Алеся Аркуша. — Полацак : Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2016. — 156 с.

Ці можна райцэнтру Полацку вярнуць яго страчаны ў віры стагодзьдзяў сталічны статус? Прынамсі, нацыянальнай культурнай сталіцы. Сяргей Шыдлоўскі спрабуе пераасэнсаваць гісторыю роднага горада, паглядзець на яе вачыма сёньняшняга беларускацэнтрычнага чалавека. «Ёсьць недарэчнасьць у тым, што тэкст, годны мітам, прывідам, канцэнтраванаму літаратурнаму паветру Полацку дасюль не прад'яўлены сьвету». Піша аўтар кнігі ў эсэ «Зьбіраньне Полацку». Але які гэта мусіць быць тэкст? Пра гэта новая кніга Сяргея Шыдлоўскага.

# МРОІНЬНЕ ПОЛАЦКА

Усё паўтараецца. Усё ідзе па коле. У лёсе Сяргея Шыдлоўскага шмат агульнага зь лёсам самага вядомага полацкага пісьменьніка Уладзімера Арлова. Толькі з розніцай у 20 гадоў. Дзяцінства Сяргея таксама прайшло ў Полацку. У Экімані жыла яго бабуля, якая, па сьведчаньні Сяргея, моцна на яго паўплывала, прынамсі, беларускую мову ён чуў зь пялюшак. Дарэчы, і Арлоў у сваіх творах неаднойчы пісаў пра моцны ўплыў з боку сваёй бабулі Аўгіньні. «Наш беларускі нацыянальны код перадавалі нам нашыя бабулі. Без маёй бабулі Аўгіньні не было б мяне як пісьменьніка і гісторыка», — неяк на сустрэчы з чытачамі адзначыў Арлоў.

Як і Арлоў, Шыдлоўскі паступіў на гістфак Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэта і пад час вучобы актыўна далучыўся да беларушчыны. То бок ня толькі пачаў пісаць беларускамоўныя тэксты, але й прымаў удзел у розных нацыянальна-скіраваных імпрэзах, сустрэчах, суполках. Але гэта быў ужо зусім іншы час. Час нацыянальнага разьняволеньня і пакліканьня, абвяшчэньня незалежнасьці і развою ўсялякіх нацыянальных ініцыятываў. Зусім юным, у 20-гадовым узросьце, Шыдлоўскі робіцца сталым аўтарам газэты «Наша Ніва», выхад якой аднавіў Сяргей Дубавец, і зрабіў яе культавым пэрыёдыкам для беларускіх інтэлектуалаў «новай хвалі» і нацыянальных культуртрэгераў. У гэты ж час Сяргей Шыдлоўскі далучыўся да літаратурнай суполкі Таварыства Вольных Літаратараў, якая паўстала ў 1993 годзе на Полаччыне. Пачаў актыўна друкавацца ў тэвэлаўскіх выданьнях — альманаху «Ксэракс Беларускі» і часопісе «Калосьсе».

Гэты зборнік эсэ і імпрэсіяў, галоўным чынам, і складаюць тэксты Сяргея Шылоўскага, якія свойчас друкаваліся ў выданьнях ТВЛ і газэце «Наша Ніва».

Шыдлоўскі пісаў сваю кнігу пра Полацак. Цяпер яе старонкі нарэшце сабраныя пад адну вокладку. Толькі гэтая кніга не пра гісторыю роднага горада, а пра яго, Полацак, разуменьне, асэнсаваньне і мроіньне. Увогуле гэта філязофская кніга. Яе так не ставала для крыўскай сталіцы. Цяпер яна ёсьць.

*Алесь Аркуш*

# ЗЬБІРАНЬНЕ ПОЛАЦКУ

## 1

Ілюстрацыі з полацкімі храмамі прысутнічалі нават у атэістычных падручніках савецкай эпохі. Полацкая тэма будзе захоўваць актуальнасьць, пакуль існуе патрэба глёрыфікацыі ўлады, незалежна ад яе цывілізацыйных арыентацый. Полацк — цырыманіяльная прастора для тысячагадовай дзеі ўсходнеэўрапейскай гісторыі. Адсюль драматызм закляцьця на крыжы Ефрасіньні, урачыстай клятвы Баторыя. Авансцэна гісторыі вымагае высокага стылю. Адсюль пышныя полацкія трыюмфаваньні маскоўскіх цароў, ілюмінацыі для імпэратрыцы, адсюль Сімяон. Прызначэньне Полацку — каранаваць.

Каму належыць гэта спадчына? Палачане на вуліцах роднага гораду могуць падацца статыстамі: дзея скончылася, галоўныя героі сышлі пад воплескі са сцэны. Магчыма, гэтак жа адчуваюць сябе сучасныя грэкі, якія вымушаны з годнасьцю несьці ўласныя комплексы ў атачэньні бездакорных элінскіх Вэнэр ды Апалёнаў.

Крывіцкая, як і старагрэчаская, Антычнасьць належыць агульначалавечай цывілізацыі, што ёсьць і гонарам, і адказнасьцю, і смуткам цяперашніх кватарантаў гэтых легендарных руінаў. У дзяржаўніцкіх дэкарацыях Полацку, па меры таго як прасякаесься іх мэсыджамі, робіцца няўтульна. Нават любоўныя полацкія гісторыі пераплецены з жарсьцю ўладараньня ці служэньня вышэйшым рацыям. У Полацку, які паўстае зь ілюстраваных старонак патрыятычных кніжак, нельга жыць. У крэпасьці,

крамлі, манастыры вяршыцца дзея. Гэтым Полацкам можна гандляваць, гэтаму Полацку можна служыць, трымаць тут аблогу.

У сучасных палачан, мяркую, няма настальгіі па зруйнаванай княжацкай рэзыдэнцыі — ім не хапае кавярняў. Але руіны, страты, прывіды, цені, двайнікі — абавязковая частка гульні, тая $^2/_3$ айсбэргу, аснова, на якой будуюцца міталёгіі й пэрспэктывы турыстычнага бізнэсу. Ці засталося ў жыхароў Полацку энэргіі, каб пазьбегнуць ролі музэйшчыкаў-гідаў і абжыць руіны наноў?

Полацк — культурная велічыня, якая ня ставіцца пад пытаньне. Іншая справа палачане. Ёсьць полацкія архетыпы, іконы, героі, але што сабой уяўляюць сучасныя палачане? Можна адрозьніць палачаніна па спэцыфічнаму маўленьню, стылю паводзін, поглядам? Малаверагодна. І між тым палачане існуюць. Мусяць існаваць як канстанта беларускай рэчаіснасьці. Як мусяць быць магілёўцы, мінчане, гарадзенцы. У адваротным выпадку этнонімы ды палітычныя рэаліі гэтай краіны будуць мяняцца з катастрафічнасьцю мімікрыі хамэлеона.

Значная частка сучаснага насельніцтва Полацку — палачане ў першым-другім калене. Полацкае прамаўляе празь дзяцей рускіх, украінцаў, яўрэяў. Як спрацоўвае мэханізм гістарычнай пераемнасьці? Хіба ў пакрыўленым штыкетніку — візуальны генатып полацкай спадчыны? Ці цяперашні раённы статус гораду — залог непарыўнасьці дзяржаўных традыцый палачан?

Полацкія архетыпы старэйшыя за нацыянальную ды сацыяльную каньюнктуру, якая народжана XIX стагодзьдзем. Яны апэлююць да старажытных інстынктаў, спрадвечнай жарсьці — волі да ўлады, славы, непарыўнасьці роду. Іх прымаюць без пасярэдніцтва граматычных ці канфэсійных сымпа-

тый. Таму праваднікамі полацкіх рацый так лёгка робяцца людзі розных канфэсій ды крывей.

Спробы зьвесьці Полацк да рэзэрвацыі язычніцкага сьветаадчуваньня ці апірышча нейкай адной канфэсіі — азначае рэдукцыю яго месца ў гісторыі. Амбівалентнасьць Сьвятога гораду-ваўкалаку прыкмеціў яшчэ Власт. Пад Полацкам — мэтафізычныя Лябірынты, падпольле, двайное дно, ён мае выхадылёхі ва ўсе бакі — да езуітаў, у Бізантыю і ў пракаветныя паганскія лясы. Дзедам сьвятой Ефрасіньні быў «ваўкалак» Усяслаў, зьняўшы званы з наўгародзкай Сафіі; Скарына вучыўся ў каталіцкіх унівэрсытэтах; Цяпінскі быў антытрынітарыем; Сімяон кім толькі ня быў. І ўсё гэта Сьвяты Полацк — горад-воўк, якога колькі не прыкормлівай, пільнуе свой лес. Гэта купецкае прагматычнае месца, і галоўная крыніца экспарту тут — легітымнасьць, міты, цыыманіял, прэстыж, генэалёгіі.

На полацкім гербе — караблік. Яго гушкалі хвалі сусьветных цывілізацыйных плыняў. Гэты горад не зьяўляўся апошнім пунктам на шляху, якім калісьці выправіліся продкі. Уласна толькі за мурамі гораду палачане і робяцца самімі сабой — вандроўнікамі, піянэрамі — варагамі, пакліканымі на княжаньне. Полацк — нацягнутая цеціва, адпраўны пункт калянізацыі. На поўнач — для Бізантыі, на поўдзень — для скандынаваў. Маяк, сьвечка ў завею на акне хаты шляхціца Завальні. Полацк вядзе. На Поўнач, на Захад, на Ўсход. Усё залежыць ад таго, зь якой кропкі вы заўважылі яго праблескі.

Брэнд кшталтуецца стагоддзямі. Імя Полацку на слыху ўжо тысячу год. У Полацку няма вядомых піўных ці кілбасных гатункаў. У гэтым горадзе прызвычаіліся ствараць нематэрыяльнае — кроіць пурпур, а не кажухі. Полацкае імя маркіруе духоўнае — лёсы, а не кар’еры.

## 2

Ёсьць недарэчнасьць у тым, што тэкст, годны мітам, прывідам, канцэнтраванаму літаратурнаму паветру Полацку, дасюль не прад'яўлены сьвету. Гэтага тэксту ня можа ня быць. Магчыма, ім зьяўляецца Полацкі летапіс, раньняя рэдакцыя «Слова пра полк Ігаравы», чарнавік «Крывічаў» Зарэцкага, дзёньнікі Арлова або раскіданыя па інтэрнэт-форумам пасты Аркуша. Ідзецца не пра тое, каб напісаць тэкст, а толькі выявіць яго. Патрэбна дасьледаваньне, выхад у поле, экспэдыцыя за Полацкім раманам. Дзея ў стылі рэал-шоў, з той розьніцай, што «бягучым па лязу» будзе сам рэжысёр падобнага пачынаньня.

Складаньні полацкіх літаратурных анталёгіяў, задумы гарадзкой энцыкляпэдыі могуць быць адным з магчымых шляхоў выяўленьня падобнага тэксту. Але тут мы ўжо маем пэўны нэгатыўны вопыт — хто б не зьяўляўся складальнікам беларускіх хрэстаматый, якімі б правільнымі ідэалягемамі ён не кіраваўся, усё адно гэтыя тэксты пакуль так і ня скláліся ў Вялікую літаратуру. А Раман пра Полацк ужо існуе, мы даведаемся пра гэта апошнімі, бо самі ёсьць яго пэрсанажамі.

## 3

Зямля Полацку ўгноеная касьцямі князёў, манахаў і паэтаў. Княжацкага праху будзе замала, каб істотна палепшыць сельскагаспадарчую вартасьць тутэйшых суглінак, але міты на іх родзяць добра.

Наведваньне васьмі сотак лецішча пад Полацкам можа спарадзіць дэпрэсіўныя думкі. Ад жоўценькага прыдзьвінскага пясочку павявае хранічным недародам. Як патрапілі продкі збудаваць і падтрымліваць у балоцістай полацкай нізіне гэты горад, легенду,

культуру, калі нават цяпер, з усімі пэстыцыдамі, тэхнікай і парнікамі, змаганьне за ўраджай у тутэйшым краі выглядае мазахізмам?

Адказ просты. Продкі сучасных палачан не завіхаліся на палетках. Дзяды бавіліся гандлем, дойлідзтвам і малітвай. Сеялі слова, а ня жыта. Абраблялі розум, а не суглінку.

Гэта вузкая спэцыялізацыя вымагала строгай арганізацыі — наяўнасьці дзяржавы. Полацк і быў дзяржавай у чыстым выглядзе, квінтэсэнцыяй дзяржаўнасьці. І нават калі яго падпарадкавалі больш драпежныя суседзі, палачане і надалей прадаўжалі займацца тым, што лепш за ўсё ведалі, — вырабам дзяржавы.

**4**

Полацк не аднаўлялі пасьля Вялікай Айчыннай вайны піцерскія архітэктары. Пэўныя куткі гораду прымушаюць думаць, што іх не аднаўлялі і пасьля вайны 1654–1667-га. Лёс памежнага краю. Мы здавалі гарады ворагу, лес не здавалі. Дзеці паўднёвых стэпаў заклікалі да чэснага бою ў чыстым полі, але больш пачэсна для нас было вітаць ворага ў ельніку пазмрачней.

Базар, Вакзал, Прамзона, штыкетнік выцьвілы... А Полацк дзе? «Падманулі, як падманвалі варагаў з грэкамі пятнаццаць стагодзьдзяў, прад’явіце Полацк зараз».

А горад пачатку XXI стагодзьдзя хаваецца за таніраваным шклом аўто, зачыняецца на кодавыя замкі. На самым вялікім беларускім сьметніку, які археолягі называюць культурным слоем Полацку, 2004-ы маглі б маркіраваць сінія пачкі LM, калі б папера не парахнела. Горад пераходзіць на лёгкія цыгарэты, завязвае з кавай, п’е зялёную гарбату,

вяртае студэнтаў у езуіцкія муры. Засвойвае новыя каноны спажывальніцтва. І ўсё ж застаецца сабой.

І праўда, што Полацк? Міт, залатая легенда, «так было»?

Так будзе. Гэта open source, футурыстычны праект, створаны дзядамі, праекцыя іх мараў і трызьненьня — намі.

Гэта Полацк — наша. Абяцаньне. Пазнаваньне-угадваньне сябе. Твой і мой імгненны адбітак на стужцы Дзьвіны. Такое кіно. Цягам паўтара тысячагодзьдзя.

Яно толькі пачынаецца. За павароткай гэтай вясны. Ёсьць ты і я, а Полацк будзе. Дзе сустрэнемся — будзе Полацк. Назавуць Полацкам месца нашай сустрэчы.

*Arche, 2004*

# ПАН ТАДЭВУШ І ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ

У літаратуры няма абсалютных велічынь. Ацэнка творчасьці носіць збольшага суб’ектыўны характар і залежыць ня толькі ад ступені таленавітасьці аўтара, але і ад культурна-гістарычнага кантэксту, у які ўключаны чытач. Як прыклад, рэцэпцыя польскамоўных твораў Я. Баршчэўскага і А. Міцкевіча ў сучаснай беларускай культуры.

Баршчэўскі і Міцкевіч патрапілі выявіць пазнавальныя тыпы айчыннай арыстакратыі. І першы, і другі апявалі мінулае і краявід тутэйшай зямлі. Але вобразы Радзімы, створаныя імі, для нас пакуль не зьнітаваліся. І дасюль айчынная грамадзкая думка не вызначылася напэўна — чым ёсьць «Літва» Міцкевіча і «Беларусь» Баршчэўскага — сынонімамі або альтэрнатыўнымі сусьветамі?

Польскамоўны пан і беларускі літаратар патраплялі спалучацца ў адной асобе, не зьнітоўваючыся, бо апэлявалі да розных культурных кодаў. Так было з Дуніным-Марцінкевічам і Багушэвічам. Разам з польскімі тэкстамі яны пакінулі нам і ўзоры сваіх беларускіх літаратурных практык. Міцкевіч жа азваўся пра беларусаў адно колькімі радкамі.

Паводле вядомай у беларускай літаратурнай крытыцы шкалы паэтычнага тэмпэрамэнту Адам Міцкевіч — «пясьняр». Паэту не хапіла прарочай празорлівасьці, каб разгледзець гістарычныя пэрспэктывы для беларускага (русінскага, адпаведна даўняй тэрміналёгіі) этнасу. Пра гэтую сьлепату паэта пісалі многія беларускія дасьледчыкі, пачынаючы з М. Каяловіча і не заканчваючы С. Яновічам. Час беларускага этнічнага нацыяналізму ў першай па-

лове XIX стагодзьдзя не прысьпеў? Але ж Я. Чачот ужо зьбіраў «крывіцкую» лексыку і песьні. У гэты ж час крышталізаваўся сьветапогляд Я. Баршчэўскага. Урэшце, быў прыклад Т. Шаўчэнкі. Няма прарока ў сваёй Айчыне? Але якая Айчына ў Адама Міцкевіча? Польшча, Беларусь, Летува... Літва, яго Айчына, выглядае ў наш час настолькі ж міталягізаванай, як тая Элада. Яе можна абагаўляць, але выводзіць зь вялікага княства ўласныя радаводы — гэтак жа рызыкоўна, што і будаваць замкі зь пяску.

Якой паўстае на старонках «Пана Тадэвуша» Літва, што агульнага і адрознага ў яе зь Беларусьсю? Які сьветапогляд, стыль жыцьця ў ліцьвінскага пана Тадэвуша і беларускага шляхціца Завальні?

Краявід — вось спэцыфічны беларускі элемэнт у паэме А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Што датычыць апісаньня ляндшафту, флёры і фаўны, гукаў і водараў — тут мы можам быць пэўнымі ў падабенстве нашых з Міцкевічам адчуваньняў Радзімы. Розначытаньні паміж вобразамі нашай Бацькаўшчыны ўзьнікаюць, калі гаворка ў паэме зварочвае на сацыяльны складнік яе гістарычнага краявіду. На старонках «Пана Тадэвуша», немалой эпічнай паэмы, ня знойдзеш разгорнутага паказу ані гораду, ані вёскі. Паэт апісвае маёнтак ды засьценак. Паэма Міцкевіча «Пан Тадэвуш» — сапраўдны хваласьпеў лесу, літоўскай пушчы. Але нівы, урobленай сялянскай працай, тут ня знойдзеш. Няма на старонках паэмы месца ані селяніну, ані гараджаніну. З павагай апісваецца яўрэйскі побыт, але праваслаўныя суайчыньнікі, складваецца ўражаньне, былі вядомыя паэту адно пад неаўтэнтычным назовам «схізматыкі».

Паэма «Пан Тадэвуш» — гімн аднаму саслоўю, рэтраспэктыўны позірк у мінулае ваеннай арыстакратыі, эпітафія рыцарскаму этасу. Адсюль адчуваньне

няўлоўнага падабенства пафасу герояў Міцкевіча зь сьветапоглядам галоўнага героя знанага рамана Сэрвантэса.

Народ шляхецкі эканамічна неаднародны. Ён ведае жорсткую герархію, падзел на заможных і бедных, паноў і засьцянкоўцаў, землеўласьнікаў і арандатараў. Герархію падкрэсьлівае складаная сыстэма сацыяльнага рытуалу, які вызначае парадак вітаньня, называньня, шэсьця, месца шляхціца за сталом. Крытэр — заможнасьць, радавітасьць, сувязі, пасада. Заходнеэўрапейскую ганаровую тытулатуру замяняюць назвы пасадаў — «кашталян», «возны», «войскі», «абозны», «стольнік», «падчашы», «падкаморы», «асэсар». Разам з тым дэкляруецца роўнасьць шляхты («кожны можа быць абраны на караля»; і засьцянкоўца Радзівіл можа назваць у гуморы «панам-братам»).

Другім бокам герархічнасьці шляхецкага грамадзтва зьяўляецца спаборнасьць, што праяўлялася ў вызначэньні лепшага, здатнейшага — на паляваньні, у бойках ці бяседзе. Паляваньне — ці не адзіная адмена квазіэканамічнай дзейнасьці, якой шляхціц у паэме Міцкевіча мае за гонар пэрсанальна бавіцца. Любы канфлікт шляхта схільная разьвязваць сілай, але, з другога боку, гэтыя збройныя сутычкі выглядаюць на рытуальнае тэатралізаванае відовішча, калі вайсковае сутыкненьне перапыняецца двубоем камандзіраў варагуючых бакоў. Двубой — таксама сапраўдная дзея, якая суправаджаецца расповедамі анэкдотаў і пошукамі гістарычных аналёгій.

У жыцьці шляхты скрозь прасочваецца элемэнт гульні. Шляхціцы ў паэме Міцкевіча нагадваюць гэтым сучасных удзельнікаў клюбаў гістарычнай рэканструкцыі, — яны часта разважаюць над тым, што значыць быць шляхціцам, наколькі яны рыцары і гэтак далей. За ўзор бяруцца старажытныя постаці

і рыцарскія ўчынкі ранейшых часоў. Дыхтоўная вопратка і зброя, конская і сабачая збруя, бяседны стол заклікаяны рэпрэзэнтаваць ня столькі багацьце, колькі старажытнасьць роду, таму цэняцца рэчы «з гісторыяй». Адсюль пагарда да ашчаднасьці. Шчодрасьць, гасьціннасьць — адзнака шляхетнасьці. Шляхціц увесь час адчувае сябе нібыта пад пагрозай выкрыцьця законнасьці сваіх прэтэнзій на шляхецтва, паглядае на сябе збоку ў люстэрка мінулага. Адсюль спрэчкі аб навіцыяцкіх гербах і праўдзівых спосабах паляваньня, адсюль крызыс сацыяльна-культурнай ідэнтычнасьці. Ідэал рыцара, да якога заляцаецца шляхціц-ліцьвін, не адпавядае новым патрабаваньням часу. Сармацкі ідэал страціў сваю функцыянальнасьць, як страцілі практычнае значэньне тытулы «возных», «войскіх» ды іншых. Адсюль імкненьне да бутафорыі, тэатралізацыя ўзаемаадносінаў, любоў да дзедаўскай кулінарыі, апалягетыка руінаў, байранічны плашч. Адсюль у шляхціцаў Міцкевіча боязь новых людзей, здольных заўважыць іх бутафорны побыт.

Ліцьвінская шляхта Міцкевіча мае вялікі гістарычны капітал, але ў яе няма сучаснасьці, як вынік — эміграцыя герояў паэмы з краю. І прычына тут ня толькі ў маскоўскай акупацыі, але і ў анахранізьме самой шляхецкай ліцьвінскай ідэнтычнасьці, «сармацкай» ідэалёгіі, яе няздольнасьці зьмяняцца. Адсюль адчуваньне ўласнай нятоеснасьці, адрыў ад этнічных каранёў, «эміграцыя» у пальшчызну.

Літва Міцкевіча — гэта архіпэляг выспаў шляхецкіх сядзіб. Народ Міцкевіча — шляхта. Шляхта, прычым выключна каталіцкая. Але ж існавала праваслаўнае і пратэстанцкае дваранства. Ва ўяўленьні Міцкевіча апошнія — здраднікі «айчыны-Літвы»? Дык можа «айчына-Літва» была ім мачахай, калі нават інтэлектуалы, кшталту Міцкевіча, бачылі гі-

сторыю краіны праз прызму старадаўніх мітаў аб рымскім паходжаньні літоўскага набілітэту? Дзе месца беларусам-русінам у гэтай ідыліі? Адказу ў паэме не знаходзім. Літва Міцкевіча выглядае канфэдэрацыяй маёнткаў ды засьценкаў у моры непраходных пушчаў, дзе сярод разнастайнага зьвяр'я зрэдчас пракідаецца «селянін-іншаверац», непазьбежны прыдатак літоўскага пэйзажу. Да элемэнту пэйзажу можна мець сантымэнты, але для шляхецкай сармацкай псыхалёгіі непамысна шукаць свае вытокі ў вясковай песьні ці легендзе. Зрэшты, апошняе не выключае культурнага перасячэньня зь селянінам-русінам. Дзеля гэтага дастаткова падняць яго на свой узровень, гэта значыць зрабіць шляхціцам: «Я раю пану: як дасі свайму сялянству // Свабоду, то, па даўнім звычаі, дваранства // Таксама дай і прыпішы свой герб...». Сам па сабе, у сваім самабытным культурным асяродку селянін шляхціцу-ліцьвіну нецікавы.

Калі Міцкевіч быў абыякава да сялянскага і мяшчанскага побыту, магчыма, мы хаця б можам рэканструяваць паводле тэксту яго эпічнай паэмы побытавую культуру ліцьвінскай шляхты? Аднак, напрыклад, сучасную яму кулінарыю ліцьвінскіх маёнткаў Міцкевіч узнаўляў паводле кнігі старапольскай кухні «Compendium ferculorum» 1682 года выданьня. Магчыма, этнаграфічная дакладнасьць у апісаньні любай сэрцу паэта Літвы — нішто перад ідэалам адзінства Рэчы Паспалітай? Але што ў такім выпадку застаецца ад Літвы Міцкевіча аўтэнтычнага акрамя краявіду?

* * *

Беларусь, маці-Беларусь, пачынаецца там, дзе заканчваецца паэма Міцкевіча, яго айчына-Літва, ліцьвінская культура і ліцьвінская палітычная традыцыя. Варта згадзіцца з тэзай Алега Латышонка: «мы

не можам лічыць літоўскі сэпаратызм, у адносінах да палітычнай дамінацыі польскае Кароны, папярэднікам беларускай нацыянальнай сьвядомасьці». Зрэшты, гэтае разуменьне ня мусіць перашкаджаць рэцэпцыі шматмоўнай культурнай спадчыны, якая ствaралася на этнічных землях сучаснай Беларусі ў мінулыя эпохі. Напрыклад, польскамоўнасьць «Шляхціца Завальні» Яна Баршчэўскага ня робіць яго меней беларускім. Ян Баршчэўскі, знаходзячыся ў засені славы Адама Міцкевіча, выявіў большую інтэлектуальную сьмеласьць за свайго знакамітага сучасьніка. Празаічныя творы Яна Баршчэўскага зьяўляюцца адной зь першых прэзэнтацый Беларусі ў польскамоўнай літаратуры XIX стагодзьдзя. У адрозьненьне ад большасьці аналягічных спробаў таго часу, у якіх ідэя беларускасьці паўстае як рэдукаваны і зьніжаны варыянт краёвага ліцьвінскага патрыятызму, прызначанага паспалітым — «Літва для бедных», Беларусь Яна Баршчэўскага — самадастатковая каштоўнасьць.

І мова твора, і выбар герояў (шляхціцы, студэнты полацкай езуіцкай акадэміі) сьведчаць на карысьць таго, што проза Яна Баршчэўскага адрасавалася чытачам шляхецкага паходжаньня. Толькі пяць першых апавяданьняў (маецца на ўвазе «Шляхціц Завальня») Я. Баршчэўскага — «сялянскія», «простанародныя», — канстатуе дасьледчык творчасьці Я. Баршчэўскага Мікола Хаўстовіч, — усе астатнія (а таксама аповесьці «Драўляны Дзядок і кабета Інсэкта», «Душа не ў сваім целе») апавядаюць пра вышэйшы кляс беларускага грамадзтва, пра найбольш характэрных яго прадстаўнікоў другой паловы XVIII — першай паловы XIX стагодзьдзя. Творы Яна Баршчэўскага ствараліся для шляхты і пра шляхту. Баршчэўскі не адкрываў новую экзатычную краіну ці сялянскі народ, як гэта рабілі літаратары-

рамантыкі. Галоўнае «адкрыцьцё» пісьменьніка з Полаччыны — беларускае дваранства, пра існаваньне якога ў першай палове XIX стагодзьдзя ўжо пасьпелі забыцца. У сваіх творах Ян Баршчэўскі фармулюе рацыі і абавязкі шляхецкага саслоўя перад грамадзтвам, стварае ідэал беларускага шляхціца — патрыёта Беларусі. Менавіта гэта задача арганізуе ідэйнае поле «Шляхціца Завальні».

Беларускі патрыятызм Яна Баршчэўскага, калі зважаць на небагаты беларускі літаратурны кантэкст эпохі, здаецца беспрэцэдэнтным. Але яго творчасьць паўстала не на пустым месцы. Яна бачыцца вынікам разьвіцьця традыцыйных рэгіянальных замілаваньняў краёвай шляхты, а таксама культурнай фронды ў асяродку праваслаўнай і ўніяцкай інтэлігенцыі, якая не забывалася на высокую пісьмовую культуру і дзяржаўную спадчыну русінаў.

З «новай» назвай краіны Ян Баршчэўскі вяртае свайму чытачу «старыя» — традыцыйна-патрыярхальныя — узоры ды ідэалы насьледаваньня, гераізаваныя і легітымаваныя спасылкамі на крывіцкую архаіку (згадайма, напрыклад, аповед пра князя Боя). Крытыкуючы арыстакратыю, пісьменьнік супрацьпастаўляе сармацкаму кансэрватызму беларускі традыцыяналізм, блізкі як сялянству, так і дробнай шляхце. «Аканом быў з засьцянковае шляхты, заможны гаспадар, але верыў у тое самае, што і просты люд» — тое ж можна было сказаць пра пераважную большасьць засьцянковай беларускай шляхты пачатку XIX стагодзьдзя. Паводле гаспадарчых інтарэсаў, эканамічных магчымасьцяў і штодзённага побыту яна стаяла бліжэй да сялянства, чым да магнатаў.

У крытыцы арыстакратыі Ян Баршчэўскі быў не самотны. Усьведамленьне адзінства гістарычнага лёсу з простым народам, пачуцьцё віны за тыя неразважлівыя дзеяньні эліты, якія прывялі

Рэч Паспалітую да страты дзяржаўнасьці, — сталі часткай сьвядомасьці шляхты пачатку XIX стагодзьдзя. Прыходзіла разуменьне таго, што спагада да селяніна — ня проста патрабаваньне рэлігійнага выхаваньня, але і прыкмета мудрасьці, выяўленьне клопату аб дзяржаве, якой з гледзішча пагрозы зьнешняй агрэсіі напрыканцы XVIII — пачатку XIX стагодзьдзя была патрэбна сацыяльная згода.

Радзіму-Беларусь Я. Баршчэўскі пэрсаніфікуе ў вобразе Плачкі — жанчыны ў сялянскім строі, якая аплаквае герояў мінулага, забытых сучаснымі панамі: «Калі некаторыя нашы багатыя і вучоныя паны падарожнічаюць у шыкоўных фаэтонах або на ловах гойсаюць з ганчакамі па лясах, гарах і пустках, гэта Плачка часта сустракае іх, нібы сірата, ва ўбогім сялянскім уборы, моўчкі падымае на іх блакітныя, сьлязьмі залітыя вочы, быццам просячы ў іх літасьці, але з гэтых паноў ніхто на яе не зважае». Стаўленьне да простага народу і адносіны да радзімы ў Яна Баршчэўскага збліжаюцца. «Яны не разумеюць, што значыць быць добрым чалавекам, а думаюць толькі пра заслугі і гербы сваіх продкаў», — па лёгіцы Баршчэўскага люты ў дачыненьні сваіх падданых пан наўрад ці здольны пераадолець саслоўны эгаізм і ўзьняцца да агульнадзяржаўных рацый. Адказнасьць за краіну і народ — складовыя часткі шляхецкага этасу. Ян Баршчэўскі вуснамі сваіх герояў заклікае шляхту не марнасловіць, абмяркоўваючы вартасьці коней, ганчакоў ды жанчын у застольных размовах, а займацца пошукам спосабаў паляпшэньня эканамічнага становішча краю і павелічэньня дабрабыту грамадзян.

Шляхціц зь «ніжэйшага дваранства» — чалавек з сацыяльнай місіяй. Ён мэдыятар паміж вуснай традыцыяй і пісьмовай культурай. Рэфлексія вымагае адмысловых здольнасьцяў. Адна з важных

перадумоваў для яе — веданьне гісторыі. Шляхціц Яна Баршчэўскага — носьбіт гістарычнай памяці. Прычым традыцыя разумеецца шырока — ад спосабаў гаспадараньня да ўменьня гатаваць нацыянальныя напоі. Як гаспадар маёнтку, арганізатар вясковай працы, шляхціц павінен быць назіральным і шмат вучыцца. Веды, якія нястомна здабываліся ім, носяць практычны характар і часьцяком зьліваюцца з комплексам «народных ведаў»: «Каб гаспадарыць у маёнтку — мала стараньня, трэба быць чалавекам дасьведчаным, добра ведаць якасьць зямлі, дзе што пасеяць; ведаць час, калі сеяць гарох, пшаніцу, ячмень ці авёс, а што цяжэй — прадбачыць перамену надвор'я, калі прыйдзе час сенакосу».

Калі шляхціц XVII–XVIII стагодзьдзя — гэта рыцар, «чалавек гонару», то героя-шляхціца твораў Баршчэўскага можна ахарактарызаваць як «чалавека сумленьня». Яго этычныя перакананьні рэгулюе абсуд нашчадкаў, сялян і слуг. Дзе б не фармiравалася грамадзкая думка (у карчме ці ў касьцёле) і што б не палягала ў яе подзе (хрысьціянская мараль ці суседзкая зайздрасьць), небагаты шляхціц мусіць датрымлівацца кампрамісу з меркаваньнямі грамады, бо большай часткай свайго дабрабыту ён абавязаны цывільнай службе ў прыватных асобаў, гэта значыць добрым рэкамэндацыям, а не асабістай вайсковай доблесьці, як было раней. Прадстаўнікі беларускага «ніжэйшага дваранства» свой хлеб здабывалі суладна біблейнаму запавету «у поце твару свайго». «Як бачу, вашэць любіць спаць па-панску; уставай, у простых людзей гэта грэх, і цябе назавуць гультаём», — кажа пан Завальня апавядальніку. Гэтым эпізодам акцэнтуецца скразная думка твору: беларускаму грамадзтву — ад селяніна да шляхціца — варта разьлічваць толькі на ўласныя сілы

і працу, не спадзеючыся на хуткае абагачэньне ці абяцанкі «чарнакніжнікаў»-чужынцаў.

Такім чынам, аналізуючы творы Я. Баршчэўскага і А. Міцкевіча, мы бачым не супрацьлеглыя тэндэнцыі, а розныя этапы развіцьця айчыннай грамадзкай думкі. Нацыянальныя і саслоўныя стэрэатыпы А. Міцкевіча былі «закансэрваваныя» эміграцыяй, пачуцьці ж Я. Баршчэўскага жывіла непасрэдная далучанасьць да свайго народу і роднай зямлі.

*Калосьсе, 2006*

# КААРДЫНАТЫ ПОЛАЦКАГА

## 1. ГЕРОЙ У ЧАСЕ

Прамэтэеўская постаць Ф. Скарыны, надзвычай папулярная ў адраджэнскіх 80-х, на пераломе стагодзьдзяў, зь яго блізу барокавым адчуваньнем часу, выглядае задужа рэнэсансна, каб выклікаць асабістыя пачуцьці. Актуальным героем сучаснасьці паўстае Сімяон Полацкі, узорны беларус, «калябарант», пілігрым у краіну Ўсходу. Вобраз Сімяона Полацкага слаба акцэптаваны беларускай мітаграфіяй, але яго прысутнасьць у айчыннай гісторыі не падлягае рэдукцыі. Ф. Скарына — больш спадручная постаць для канструктараў мітаў, яго вобраз падпадае рэдагаваньню і кіраваньню палітычнай каньюнктурай. У залежнасьці ад пануючай ідэалягічнай моды ў яго зьмяняецца нават імя Георгій на Францыск — і наадварот. Ф. Скарына вучыцца і пытаецца, С. Полацкі вучыць і адказвае. Апошняе — прыкмета часу — чым больш няпэўныя навакольныя абставіны, тым больш катэгарычная дыдактыка. Францыск застанецца ў падсьвядомасьці беларускай культуры яе вечным студэнтам, галоўную інтрыгу біяграфіі якога складаюць абароны дысэртацыяў — чым не пэрсанаж для фабліо ці навэлі. Балазе, рэнэсансная па духу п’еса «Нагавіцы сьвятога Георгія» ўжо напісана нашымі сучасьнікамі М. Адамчыкам і М. Клімковічам. Каб стварыць нешта адэкватнае ў дачыненьні біяграфіі Сімяона, патрэбна зьяўленьне айчыннага Грымэльсгаўзэна.

Ф. Скарына быў садоўнікам караля, С. Полацкі — царскім радцам. Ф. Скарына шукаў на Захадзе,

С. Полацкі знайшоў на Ўсходзе — Імя. Практыкі Ф. Скарыны і С. Полацкага сфарміравалі мадэль культурнага пасярэдніцтва, якая і зрабіла магчымай ідэю Беларусі. Ф. Скарына і С. Полацкі — два роўнавялікія архетыпы, два ўзоры прэтэнзіяў для беларускіх культурнікаў. Без Ф. Скарыны, а дакладней — імпартаваных з Захаду тэхналёгіяў не было б «кідку на Ўсход» С. Полацкага. Без С. Полацкага ня ўзьнікла б сучасная Беларусь як гістарычная пераемніца Полаччыны — краіны культуртрэгераў і асьветнікаў, краіны-масту паміж Захадам і Ўсходам.

Некалі Фаўст, апошні герой традыцыяналізму, спрабаваў выратаваць міта-паэтычны час, даруючы чалавеку адчуваньне тоеснасьці з родам, ад дыскрэтнасьці «часу купцоў» і хронік. Яго хвалявала, як можна сказаць «спыніся, імгненьне» і ня быць расьціснутым д'ябальскім вынаходзтвам — гісторыяй. Беларускі Фаўст мусіў бы змагацца і супраць новага гістарычнага часу, і супраць новапаўсталай геапалітычнай прасторы, транзытная сутнасьць якой пазбаўляе тубыльную зямлю яе запаведнага статусу. Мо таму, як і Скарына, С. Полацкі палічыў для сябе мэтазгодным любіць Бацькаўшчыну з-за мяжы. Сьвятасьць — атрыбут адлегласьці. Зыход — як спроба вярнуцца да якасна новага адчуваньня Бацькаўшчыны. Радзіма купцоў, ваяроў, дойлідаў і асьветнікаў, Полацк ніколі ня быў абдзелены падобнай рэфлексіяй. У вандроўках летапісных палачан заўжды гучыць матыў Вяртаньня — цэнтральная полацкая калізія. Згадаем вяртаньне праз выгнаньне Рагнеды, пасьмяротнае вяртаньне Ефрасіньні, уцёкі Ўсяслава з Кіева.

Калі традыцыйныя стасункі разбураюцца, чалавек апынаецца сам-насам зь ірацыянальнасьцю часу. У гістарычным вымеры ня род гарантуе неўміручасьць індывіду, індывід — унесьмярочвае род.

У часы С. Полацкага, багатыя на ваенныя выпрабаваньні, традыцыйныя сувязі парушаюцца. Узяўшы ў якасьці свайго літаратурнага імя назву роднага гораду, Пятроўскі-Сітняновіч апэлюе ўжо не да рэальнай палітыка-эканамічнай сілы, а да мінулага Полацка, у адрозьненьне ад Ф. Скарыны, які ў сваіх прадмовах да Бібліі зьвяртаўся да патэнцыйных фундатараў — заможнага полацкага «паспольства». З-за адсутнасьці іншых прэтэндэнтаў паэты становяцца галоўнымі нашчадкамі Ўсяслававай спадчыны. Лёс і імя С. Полацкага робяцца той кропкай уводу, у якой страчаная эканамічная магутнасьць Полацку сублімуецца ў міт культурнай сталіцы. Сваім літаратурным прыдомкам Сімяон робіць прамоцыю полацкай мінуўшчыне. У месцах пераходу адной эпохі ў другую мастком могуць служыць лёсы асобных індывідаў. Не было б іх, на месцы Беларусі зеўраў бы сёньня пыльны транзытны ляндшафт, не пайменаваны на мапах.

Тое, што аб полацкім мінулым мы ведаем больш праз гандлёвыя дамовы, чым з палітычных хронік, — сымбалічна. Дынаміка развою гораду была прыстасавана ня столькі да ўзьлётаў-заняпадаў уладных дынастый, колькі да шматцерпнага працэсу назапашваньня купецкімі сем'ямі «маёмасьці і прэстыжу». Скарыны, Сітняновічы — усё гэта купецкія радзіны. Палітычнае кіраўніцтва на тутэйшых землях пасьля сьмерці Ўсяслава Брачыславіча залежала ад эканамічнага цэнтру ўлады, які ўвасабляла Веча. Для купецкіх полацкіх рацый патрабаваліся спакой і згода, але Рэч Паспалітая, у склад якой уваходзіў Полацк, у XVII стагодзьдзі загрузла ў хранічных памежных войнах.

Войны ня толькі зьмянілі эканамічнае ды дэмаграфічнае становішча Полаччыны XVII стагодзьдзя, але і адбіліся анамальным чынам на культурным па-

кліканьні гораду. Палачане-русіны, якія далі некалі літоўскім абшарам заканадаўства, распрацаваную пісьмовую мову, падмуркі дзяржаўнай і царкоўнай арганізацыі, былі ўрэшце зьведзены да стану памежнай варты, што з пэрыядычнасьцю ў дваццаць год сыстэматычна вынішчалася пад час войнаў. Жыцьцё на памежжы — суіснаваньне з «чужым» і немагчымасьць напоўніцу атаясамліваць сябе са «сваімі». У сытуацыі міжчасься, міждзяржаўя і міжвер'я С. Полацкі шукае аптымальнае для свайго індывідуальнага лёсу выйсьце. Урэшце, гэтае выйсьце зробіцца аптымальным для ўсяго постсармацкага дыскурсу — «усходні» вэктар сфармуе беларускую ідэю-місію вяртаньня праваслаўнай цывілізацыі ў агульнаеўрапейскі кантэкст. Пасьля разбору Рэчы Паспалітай полацкія езуіты будуць датрымлівацца ў дачыненьні з кацярынінскай Расіяй той жа лініі. Кацярынінскае XVIII стагодзьдзе стала часам росквіту Полацку — гэта быў той выпадак, калі імпэрыя спраўдзіла сваё гістарычнае наканаваньне, ліквідуючы «дэструкцыю межаў» (В. Акудовіч).

Імя «Беларусь» пасьлядоўна пачало ўжывацца ў дачыненьні сучаснай беларускай тэрыторыі менавіта пры маскоўскім двары. У тым, што гэта назва замацавалася за цяперашняй беларускай тэрыторыяй, магчыма, пэўную заслугу мае і С. Полацкі, настаўнік маскоўскіх цароў. Каб «Беларусь» зьявілася на палітычнай мапе, яе «вызвалялі» — гэта было актам ня толькі вайсковым, але і сэмантычным. «Вызвалялася» ня проста тэрыторыя, але і сэнс, місія для гэтай тэрыторыі, уканаваная і закладзеная ў тэрміне «Беларусь». Замала мець нацыянальную ідэю і нацыянальную мітаграфію — трэба, каб тваю ідэнтычнасьць прымаў на веру яшчэ нехта. Нацыя — гэта тое, што адбіваецца вонкі.

Заселеныя нашчадкамі палачан ды палешукоў тэрыторыі здолелі афарміцца адзіным цэлым як лякалізаваная на мясцовасьці магчымасьць міжцывілізацыйнага кампрамісу. Урэшце, Захад і Ўсход могуць нічога ня ведаць аб існаваньні Беларусі і нават не здагадвацца аб яе ўнікальнай культурнай ролі. Падобны трагікамічны момант ня ставіць пад пытаньне саму місію Беларусі, бо міжкультурны дыялёг адбываецца насамрэч ня толькі і ня столькі на дзяржаўным узроўні, узроўні інстытуцый або дыскурсаў, колькі на ўзроўні індывідуальных лёсаў. Быць беларусам — азначае браць удзел у гэтым дыялягічным праекце. Беларускасьць — гэта форум, палеміка. Беларусь была такім месцам, дзе выяўлялі і адкрывалі сябе як Расія, так і Захад. Беларусы ў Маскве рабіліся агентамі гісторыі, правакатарамі перамен. Такой была роля братоў Зізаніяў, П. Мсьціслаўца, Ф. Скарыны, М. Сматрыцкага, І. Хведаровіча і, безумоўна, С. Полацкага.

«Людзі доўгага сярэднявечча лёгка пакідалі радзіму, бо наўрацьці яна ў іх была» (Ж. Ле Гофф). Сама сацыяльная кляса, да якой належаў С. Полацкі, была, як піша М. Блок, па натуры сваёй унівэрсальнай. Варта таксама ўлічыць адрозьненьні паміж сучасным нацыянальным пачуцьцём і ўласьцівым часам С. Полацкага спосабам самаідэнтыфікацыі паводле краёва-канфэсійнай прыкметы. Калі для сучаснага нацыяналіста яго «радзімай» зьяўляецца мова, для чалавека XVII стагодзьдзя падобнай ідэалягічнай бацькаўшчынай была канфэсія ці нават абрад у выпадку «народнай веры».

Традыцыйнае для хрысьціянскай вучонасьці разуменьне гісторыі, якое ня страціла сваёй актуальнасьці на працягу XVII стагодзьдзя, вызначалася «эсхаталягічнай пэрспэктывай», гэта была гісторыя «кіруемага Богам руху ад граху да выратаваньня».

Паводле падобных перакананьняў, час належыць Богу і пераадоленьне дэструктыўнай уласьцівасьці часу магчыма толькі ў Бозе. Да гэтага павінны імкнуцца ня толькі асобныя індывіды, але і цэлыя народы. Узаемасувязь тэалёгіі і палітычнай думкі была прыкметай эпохі. Ідэя стварэньня сусьветнай хрысьціянскай дзяржавы рухала гісторыю Захаду з часоў Каралінгаў. У ёй знаходзіць рэлігійнае апраўданьне для сваёй сьвецкай кар'еры і С. Полацкі. Першааснову сусьветнай хрысьціянскай імпэрыі — «трэці Рым» — С. Полацкі бачыць у Маскоўскай дзяржаве. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова перачытаць віншаваньні паэта маскоўскім valадарам «Метры на пришествие во град отчистый Полоцк... царя и великого князя Алексия Михайловича» і іншыя, у якіх С. Полацкі прадракае маскоўскаму арлу панаваньне над іншымі дзяржавамі. Карона сусьветнай імпэрыі ўжо бачыцца паэту на галаве маскоўскага цара: «Прийми митру литовску, прийми и корону // Полскую, Алексею, под свою оброну. // Затым даст Бог тры шведских на остаток в небе, // Труда ради о веру увеньчают тебе». Дасягненьне падобнай вайскова-палітычнай мэты, паводле канцэпцыі стварэньня ўнівэрсальнай хрысьціянскай імпэрыі, і надае канчатковы сэнс чалавечай гісторыі, ліквідуе межы сьвецкіх дзяржаў.

У постаці маскоўскага цара паэт бачыў прыклад лідэра, які здольны аб'яднаць хрысьціянскі сьвет. У гістарычных экскурсах у часы Кіеўскай Русі С. Полацкі акцэнтуе ўвагу менавіта на рэлігійнай місіі рускай дзяржаўнасьці: «Иже от Владимира наследне царствует, // Всю дедичным Русь правом слушне обыймует. // Насадил князь Владимир винницу Христову // През крест во всей России, Алексий готову // Михайлович разшырил». Толькі праз належнае выкананьне хрысьціянскай місіі сьвецкая

ўлада можа захаваць сваю легітымнасьць. Наколькі блізкі быў гэты ідэал да маскоўскага арыгіналу? Ад жаданьня наблізіць рэлігійныя ідэалы рацыям сьвецкай улады ідзе тэндэнцыя «цэзарызацыі» вобразу Хрыста («Царь мира Христос», «царь всея твари»), які адаптуецца да этасу homo militaris. Адсюль і вобраз крыжа-мяча.

Творчасьць С. Полацкага дазваляе выявіць тыя зьмены, што адбываліся ў сьвядомасьці яго сучасьнікаў, у прыватнасьці, у іх адносінах да часу. У сваім творы «Год века образ» С. Полацкі атаясамлівае сэзоны году з узроставымі стадыямі чалавечага жыцьця. Паэт падзяляе чалавечы век на пяць пэрыядаў, у кожным зь якіх па шаснаццаць гадоў: «Пяць разоў па шаснаццаць год — канец веку». Вымярэньне чалавечага жыцьця на шаснаццацігодзьдзі, на думку сучасных гісторыкаў, можа сьведчыць аб пэўнай абыякавасьці тагачаснага грамадзтва да канцэпту ўзросту, што абумовілася адсутнасьцю ўніфікаваных узроставых вех, якімі для нашых сучасьнікаў зьяўляецца, напрыклад, набыцьцё адукацыі ці служба ў войску.

Погляды на выхаваньне дзяцей, якія выказвае С. Полацкі, збольшага адпавядаюць традыцыйным перакананьням. Паэт раіць: «Вздуй дитяти, пока еще молодо», бо «весна есть образ детства... отребляют вредная в ея время, ветви прицепляют полезныя к древесам». Гэта што да маральнага клімату эпохі і вытокаў яе харызмы.

Заслугоўвае ўвагі верш С. Полацкага «4 szesci dnia», у якім прасочваюцца каштоўнасныя адносіны паэта да часу: «kto madry, ma noc w nienawisc, // We dnie uciechy szuka y korzsci». Параўнайма з народнай формулай «яго час, яго воля», паводле якой «дабро ёсьць тое, што бывае ў свой час і на сваім месцы» (С. Санько). У вершы «4 swiata wieku» паэт вызна-

чае чатыры эпохі сусьветнай гісторыі — залаты, срэбны, медзяны і жалезны век. Такая канцэпцыя гістарычнага часу малюе карціну паступовага заняпаду. Матывамі заняпаду, хуткаплыннасьці і зьменлівасьці часу, няўмольнага адліку чалавечага веку прасякнутая паэзія і сьветаадчуваньне эпохі Барока. Полацк першай паловы XVII стагодзьдзя, дзякуючы дзейнасьці шэрагу творцаў, сярод якіх першай зоркай быў М. Сарбеўскі, робіцца важным ідэйным цэнтрам гэтай эстэтычнай і сьветапогляднай фармацыі. Полацкая сытуацыя вайсковага, рэлігійнага і цывілізацыйнага памежжа — удзячная глеба для трагічнага барокавага самапачуваньня. Эпітафія робіцца праграмным творам. У С. Полацкага мы знаходзім багата ўзораў гэтага жанру: «Дзень за днём плыве, як у рацэ вада, // Не ўзнавіць, дай веры мне, гэтую страту: // Прышласьць ненадзейная, і цяпершчына да вечара — // не зусім твае».

Гістарызацыя сьвядомасьці інтэлектуалаў адбылася напрыканцы XVIII стагодзьдзя. Прысьпешыць гэты працэс магло жыцьцё на памежжы з уласьцівай яму асаблівай інтэнсіўнасьцю падзей, што наглядна суадносяць ходу гісторыі са здарэньнямі асабістага лёсу. Сьветаадчуваньне барока як пераходнай сьветапогляднай фармацыі, міжэтнічныя і міжканфэсійныя кантакты і канфлікты ў памежнай Полаччыны — усё гэта зрабіла С. Полацкага прыналежным гістарычнаму адчуваньню сваёй эпохі, што і дазваляе суадносіць яго лёс з заканамернасьцю гісторыі, а ня міту. Пятроўскага-Сітняновіча, гэтага практыкуючага ля трону філёзафа, сучасьніка Кромвэля і Рышэлье, хочацца параўноўваць толькі з гістарычнымі героямі.

## 2. ПРАСТОРА ГЕРАІЧНАГА

Рака і мяжа — тыя полюсы, паміж якімі фарміравалася полацкае грамадзтва XVII стагодзьдзя. Ваеннае пamежжа — сьвет гераічна-эпічных кантрастаў, сьвет муроў. Рака ня дала гэтым мурам ператварыцца ў кітайскія. Дзьвіна ёсьць камунікацыяй, гандлем, асьветніцтвам — брамай у памежных мурах. Межы Полацк ніколі не любіў, адсоўваючы іх як надалей за свае ваколіцы — гэта была экспансія гандляроў, дойлідаў, асьветнікаў і сьвятых. Горад на сотні кілямэтраў пасунуў мяжу на захад — і паўстала Беларусь. Усходняя мяжа ВКЛ і рускай дзяржавы, чужая для Полацку, падрывала эканамічныя сувязі і культурную місію краю, але не адмяніла іх. Мяжа надала гэтаму сьвету мітаў і легенд гістарычнае вымярэньне, а рака ўключыла яго ў сусьветны кантэкст.

Сваёй мэтафарай «жыцьцё пры дарозе», апавядаючы аб лёсах беларускага, Алесь Аркуш выявіў пласт нэгатыўных значэньняў транзытнай прасторы-пусткі. «Жыцьцё пры дарозе» антыпод жыцьцю пры рацэ. Дарога арганізуе тэхнагенную пространь, рака — прастору культуры. Полацк, які паўстае з брамы чыгуначнага вакзалу, і Полацк з набярэжнай — розныя гарады. У першага лёс павятовай станцыі, другі — караблём-нэфам Сафіі пільнуе сустрэчнага ветру гісторыі.

Два Полацка нітуюцца ў нашай сьвядомасьці. Той, што мы ведаем зараз, — уласна горад, але нашы продкі адрозьнівалі таксама і Полацк як край. Гэта ўся лясная прыдзьвінская роўнядзь з прадмесьцямі-фарпостамі, адлеглымі адзін ад аднаго на сотні кілямэтраў. Чым ёсьць тады сучасная Полаччына, як ня ўсёй Беларусьсю ў яе этнаграфічных межах? Багаты сымбалічны капітал ня робіць з палачан

ранцье. Балазе, акрамя сымбалічнага капіталу ў Полацку ёсьць нафтаправод, наваполацкія хімічныя вытворчасьці ды ўнівэрсытэт — першапачаткова інстытут нафта-хімічнага профілю. Нафтавая рака дублюе раку прыродную.

Гамагеннасьць прыдзьвінскага ляндшафту, яго «дзьвінацэнтрычнасьць» (крыніцы і ручаіны краю імкнуць да галоўнага рэчышча) — ёсьць тым эмацыйным фактарам, што нараджае ўсьведамленьне супольнасьці гістарычнага лёсу. Вандроўкі па мясцоваму чарналесьсю Ўсяслава Чарадзея, Яна Баршчэўскага і Язэпа Драздовіча прасякнуты адчуваньнем свойскасьці. Гэта, мусіць, тое, што разумелі скандынавы пад паняцьцем «мідгард» — унармаваная абжытая прастора, як родны двор дзяцінства, у межах тыну якога знаходзілася столькі чароўнага, хвалюючага, але бясьпечнага.

Полацк штодзённасьці ніколі ня быў роўны сабе — ідэі Гораду, па ўзору якога ў гэтым лясным краі пачалася будова ўрбаністычнай цывілізацыі. Гэтую ідэю мы пазнаем цяпер у мурах суседзкіх сталіц, да будаўніцтва якіх далучыліся. Зь вежаў полацкіх бажніц можна ахапіць позіркам увесь край, а на берагах Нешчарды ў цішы («шорхнасьць моўкнасьці» Юхнаўца) праслухоўваецца праўда Беларусі. Тапаграфія папярэднічае гістарыяграфіі. Абмеры зямельных уладаньняў пад час рэформы каралевы Боны ўвыразьнілі абрысы літоўскай Сарматыі. З рэкагнасцыровак і памежных абмераў тэрыторый, здабытых кацярынінскімі генэраламі, паўсталі абрысы сучаснай Беларусі. Менавіта на падставе тапаграфічных даведак узьніклі першыя ўзоры айчыннай гістарыяграфіі — «Апісаньне Віцебскай губэрні» Пятра Катлоўскага, «Исторические сведения о примечательных местах Белоруссии» М. Без-Карніловіча. М. Гарэцкі ды К. Вераніцын (аў-

тар паэмы «Тарас на Парнасе» з Гарадку) былі каморнікамі-землямерамі. Перад тым як прамовіць сваю формулу беларушчыны — яны выхадзілі яе пешшу. Вось і першы айчынны падручнік геаграфіі А. Смоліча заслугоўвае цяпер на пачэснае месца ў анталёгіі беларускай гісторыі ідэй.

Побач з традыцыяй-тэкстам заўжды прысутнічае традыцыя-ляндшафт. Гэта канфлікт дзьвюх розных моваў, якія, гаворачы аб аднолькавых рэчах, ствараюць адрозныя рэальнасьці. Адраджэнская традыцыя, угрунтаваная на формулах сваіх сакральных тэкстаў, паходжаньне якіх узыходзіць да віленскіх краявідаў XIX ст., адмаўляе ў культуратворчай каштоўнасьці сучаснаму сацыяльнаму ляндшафту Беларусі. На жаль, тарашкевіца не валодае дастатковай крэатыўнасьцю, каб спарадзіць з уласнай літары «абяцаную зямлю» — рэальнасьць альтэрнатыўную.

Полацк знаходзіцца ў тым шчасным пункце, дзе ляндшафт выходзіць на паверхню сэмантычнай уцямнасьці. Рака, лес, багны, азёры, дарогі, камяністыя палі ангажуюцца тут гісторыяй, гарызанталь краявіду трансфармуецца ў вэртыкаль сылюэту бажніц. Гісторыя існуе ў полацкім пэйзажы як патэнцыя, як працяг ляндшафту ў сацыяльнае. Ляндшафт акумулюе ў сабе набор магчымых гістарычных падзеяў, якія «ўпісаны» ў краявід (напрыклад, «палі баёў»), — павароткі дарогі нясуць у сабе патэнцыі гістарычных пэрыпэтый, а пагоркі, лагчыны, азёры выконваюць мнэматычную функцыю. Вакол гэтых дамінантаў канцэнтруюцца легенды і паданьні. Паміж швэдзкай інтэрвэнцыяй і вайной з французамі 1812 года ў прызвычаеным успрыманьні палягаюць не стагодзьдзі, а кілямэтры, якія падзяляюць «швэдзкія могілкі» ад возера, дзе пахаваны «Напалеонаў скарб». Зьнікненьне летапісных крыніц не пазбаўляе нас памяці, бо ляндшафт, апасродкаваны тапанімі-

кай, ёсьць падкладкай гістарычных падзеяў, што тут адбываліся ці адбудуцца.

Лес зьяўляецца тым топасам, які наглядна дэманструе асаблівасьці прасторавых уяўленьняў традыцыйнай беларускай культуры. У яе кодзе ён «сэмантычна маркіруе Поўнач і Верх» — «лес аказваецца максымальна прыцягнутым да сфэры сакральнага» (С. Санько). Для заходнееўрапейскай традыцыі характэрна хоць і дыфэрэнцыраванае ў залежнасьці ад сацыяльнага становішча і культурнага цэнзу, але збольшага насьцярожанае стаўленьне да лесу. Гэта амплітуда вагаецца ад вобразу нетраў-пустэльні, поўных інфэрнальных сіл, у якіх выпрабоўвалі сваю веру клірыкі, і да лесу-вольніцы браканьераў-віланаў. І для тых, і для другіх лес быў «унівэрсумам чароўных і пужаючых легендаў» (Ж. Ле Гофф). Заходнееўрапейскія лясы поўняць звыродлівыя пачвары, калі ж знаёмісься зь беларускімі паданьнямі, складваецца ўражаньне, што самымі мацёрымі насельнікамі прыдзьвінскіх нетраў былі самі крывічы, князі якіх зьяўляліся ваўкалакамі. «Зачараваны сьвет» пратрываў у гэтым лясным краі як надаўжэй. Выбар становучага ці адмоўнага знаку ў заніраваньні тэрыторыі ў традыцыйным грамадзтве залежаў ад ступені яе абжытасьці — для нашых продкаў лес быў не чужой прасторай: «і жыцьцё, і сьмерць родняць чалавека зь лесам; лёс рэдзіць людзей, людзі рэдзяць лес» (Р. Барадулін).

Кніжнік Сімяон ня мог прайсьці паўз такога тэксту, якім зьяўляецца «кніга прыроды». «Кніга прыроды» — адна з «мэтафар барока», адсюль і назва энцыкляпэдычнай працы С. Полацкага «Вертоград многоцветный». У тэкстах апошняга алівы, фігавыя дрэвы і вінаградныя лозы дамінуюць па колькасьці згадак над тубыльнымі крушынамі і соснамі. Пабожны паэт лепш арыентуецца ў тапаграфіі і ба-

таніцы Эдэму, чым роднай зямлі. Нетры яго «вертаграду» насяляюць ільвы, малпы і іншыя вучоныя зьвяры, валодаючыя мастацтвам палымянай казані. Уяўленьні аб ляндшафце — люстра суб'ектыўнасьці эпохі, яе грамадзкага краявіду. Зь якой кропкі сацыяльнага бачыўся С. Полацкаму яго Вертаград? Поле сацыяльнага як «гістарычна склаўшаяся прастрань» ёсьць вытворным ад прасторы прыроднай і адначасова месцам, дзе фарміруюцца прасторавыя ўяўленьні і спосабы трансфармаваньня ляндшафту (П. Бурдзьё). Лес для С. Полацкага — сфэра язычніцкага, у адрозьненьне ад вертаграду, саду — канцэнтраванай мэтафары культуры, культуры ў ачышчанай ад больш позных напластаваньняў форме — культуры як апрацоўкі зямлі, прыроды. Прыроднае, «калючае», як крушына ў творы паэта «Презрение достоинства и желание почета», — мусіць належыць агню — смалістаму цяпельцу, на якім смажацца свавольнікі «в темной пропасти, в огненном океане». Сад С. Полацкага — гэта дыдактычная катэгорыя, чужая пастаральным сэнтымэнтам. «Дзікі» аўтэнтычны ляндшафт, як і яго насельнікі — нацыі, — яшчэ ня вынайдзеныя.

Сьвет у творах Сімяона Полацкага — гэта «кунсткамэра» цудоўных праяў і марнасьці чалавечай: Егіпет, Мэмфіс, вежа Фарос, Элада, слаўная Алімпам і стодам Зэўса, Калёс у Радосе, Эфэс і храм Дыяны, Маўзалей Артэмізія, Бабілён, Амфітэатар Рыму. Аддаючы даніну пашаны «Сямі цудам» мінуўшчыны, С. Полацкі не забываецца і на рэаліі новых часоў: «Христофор Колумб вокруг света обошел, // От чудовищ морских мучений натерпелся», «Мудрый Америго, плывя по воде, // Немало ужасов от морских животных // Претерпел, пока достиг неизвестных стран». У гэтых радках чуецца пракаветнае «за трыдзявятай зямлёй». «Чудовища морские», ад якіх

«натерпелись» слаўны Калюмб ды мудры Амэрыга, выплылі ў творы С. Полацкага з глыбінь архетыпічнага. У гэтай новай пераніцоўцы гісторыі пра Іёну і кіта капэрнікаўская карціна сьвету мірыцца праз эпічны расьпеў з царкоўнай дактрынай. Геаграфія, як і гісторыя, доўгі час заставалася біблейнай дысцыплінай. Гэта была геаграфія этычнага — канглямэрат памятных мясьцін грэхападзеньня і кантактаў з Боскім, аксыялёгія, атрымаўшая працяг у тапаграфію, дзе ўсход і захад, поўдзень і поўнач, поле і лес, левае і правае маюць свае эквіваленты на шкале дабра і зла. Вандроўка Калюмба ў «паўднёвыя краіны» асацыявалася для носьбітаў сярэднявечнай вучонасьці зь біблейнай сымболікай, а традыцыйная сьвядомасьць, у сваю чаргу, учытвала ў калюмбаву вандроўку свае знакі.

Геапалітычныя арыентацыі Полацку традыцыйна палягалі ў плоскасьці «Поўнач–Поўдзень». Гэта ня толькі шлях «з вараг у грэкі», што нітаваў у Полацку Скандынавію зь Бізантыяй, але таксама і пасярэдніцкая роля паміж Вялікім Ноўгарадам і Кіевам. Альгердаў шлях, суладна народным паданьням, таксама арыентаваны падобным чынам, што адпавядае ня столькі тапаграфічнай, колькі міта-паэтычнай праўдзе — у беларускай традыцыйнай мадэлі сьвету зьвязка «Поўнач–Поўдзень» мае каштоўнасныя нагрузкі, зьвязаныя з апазыцыямі «верх–ніз», «сакральнае–інфэрнальнае», дзе Поўнач адпаведна верх, а дол — Поўдзень (С. Санько). Сама сабой згадваецца гіпотэза А. Латышонка аб паходжаньні назвы Беларусь, паводле якой белы колер — гэта маркер верху на картах.

Калі «Поўнач–Поўдзень» былі для Полацку кірункам эканамічнага разьвіцьця і культурных кантактаў, то геапалітычная вось «Захад–Усход» стала спадарожніцай войнаў, вытокі якіх палягалі далёка

ад мясцовых інтарэсаў. Да распрацоўкі міталягемы Ўсходу прычыніўся і С. Полацкі. «Океан восточной власти ти годует // А юж западны тобе ся готует. // Слонцу Восток, Запад ровне подлегают, // Даст Бог тебе, слонце, вси царем узнают», — дэклямуе паэт. Ідэалягема ўсходу распрацоўваецца С. Полацкім з дапамогай антычных узораў глёрыфікацыі. Так, маскоўскага цара паэт прыпадабняе Аляксандру Македонскаму.

Ідэю чалавечай годнасьці Сімяон Полацкі вырашае ў рэчышчы рэнэсанснай канцэпцыі, паводле якой чалавек створаны па вобразу і падабенству Боскаму. Паэт сьцьвярджае: «Все мы по образу Божьему, все мы — адамиты». Кожны нараджаецца роўным і годным, але, маючы свабоду маральнага выбару, чалавек можа згубіць падставу гэтай годнасьці — вобраз Бога ў душы. Шляхціц — гэта перадусім той, хто патрапіў захаваць сувязь з Боскім першаўзорам. Адсюль высновa С. Полацкага: «Кто богат достоинствами, по праву может быть наречен // Дворянином, хоть бы был рожден от простецов неизвестных. // А кмет і дворянин без достоинств — холоп, хотя рожден от благородных». Факт нараджэньня ад высакароднага продка ня можа даваць перавагі на вагах шляхецкай годнасьці: «всякая кровь портится і невечна». Вайсковая шляхецкая служба разглядаецца паэтам не як прывілея, а як адно са шматлікіх рамёстваў.

Пэўную пазыцыю займае С. Полацкі і ў дачыненьні багацьця: «Богатство три некия имут вещи в себе, // яже не попущают вселится в небе». Адзіным памысным спосабам прымяненьня грошаў, на думку паэта-манаха, зьяўляецца дабрачыннасьць. Сьвецкая ўлада таксама ня робіць яе ўладальнікаў высакароднымі: «Рад отказаться, порой откупиться // От больших чинов, кто не дурак», — прыдворны паэта мусіць ведаў, аб чым пісаў.

Фармулююючы сацыяльны ідэал, С. Полацкі дэкляруе яго адкрытым для памкненьняў любога чалавека, незалежна ад паходжаньня, наяўнасьці чына ці маёмасьці. У асяродзьдзі рамесьнікаў, беднаты і клірыкаў С. Полацкі бачыць апірышча боскім і царскім справам. Галоўны цэнз: верная служба царкве і манарху, што мае на ўвазе індывідуальную высакароднасьць і працу-служэньне, працу як служэньне. У тропы антыквізуючай сьвецкай модзе, С. Полацкі, каб зацьвердзіць высакароднасьць працы агулам і рамесьніцкай працы ў прыватнасьці, выводзіць яе паходжаньне ад антычных багоў: «Сметливая Арахна пряжу придумала, // Чтоб наготу нашу удобно укрыть. // Также і ткачей всякими изделиями // Благодаря ее изобретению мы облагодетельствованы». Прыёмам вывядзеньня генэалёгій з антычнай гісторыі карысталіся і шляхецкія ідэолягі. Гэта была агульнавядомая стратэгія глёрыфікацыі (згадайма францускі прыдворны культ Геркулеса Гальскага ці айчынную мітагістарычную вынаходку, дзякуючы якой валадары ВКЛ выводзілі свой радавод ад рымскага патрыцыя Палямона). Ідэал С. Полацкага — гэта шляхецтва без гербоў, генэалёгій і радавых замкаў. Рыцарам сутаны ды прастолу і бачыў сябе С. Полацкі: «мечь ё азъ, подражая Христу Госпаду, отъ устъ моихъ испущаю, не человеки убивающій, но злобы ихъ, і лукавства ихъ посецающій, сухія ветви от древа отрезающій... Мечь духовный, на духовныя извлекаю, і секу нещадно ихъ злобы».

С. Полацкі, зразумела, аддаваў належнае і традыцыйнай канцэпцыі трохчасткавага падзелу грамадзтва на сьвятароў, воінаў і земляробаў: «Блюди свое сословие: молитва Симу // Дана, плуг — Хаму, а меч — Иафету», але само грамадзтва, сучаснае паэту, зламала гэтую статыку акурат у той ступені, якая і дазваляла сыну купца рабіць кар’еру клiры-

ка і дзяржаўнага дзеяча. «Паэтычныя вольнасьці» С. Полацкага былі санкцыянаваны часам. Эксцэсы шляхецкіх вольнасьцяў змушалі многіх палітычных мысьляроў Рэчы Паспалітай знаходзіць ідэальныя грамадзкія ўзоры ў самых нечаканых месцах, у асяродзьдзі іншых сацыяльных клясаў і нават іншаверцаў. Падобная стратэгія патрабавала перафармуляраваньня сацыяльнага ідэалу, падпарадкаваньня яго новым рэаліям. С. Полацкі сваім паходжаньнем і выхаваньнем быў да гэтага падрыхтаваны.

Існуе сапраўдны інстытут полацкіх страт і нязьдзейсьненых праектаў. Гэта вельмі аптымістычны інстытут — ён дэманструе вымер тутэйшых амбіцый. «Страты» — неабходная драпіроўка гістарычнай дыскрэтнасьці, без падобнага маскіраваньня гамагеннасьць традыцыі не была б відавочнай. Тое, што мы не патрапілі яўна залічыць у свае набыткі, можна правесьці па графе «свайго страчанага». З расьцярушаных і непрачытаных архіваў, з раскіданых камянёў-бажніц прарастае сучасная беларуская самасьвядомасьць, пачатак якой далі археалягічныя і археаграфічныя вышукі. Накіраваўшыся колькі дзесяцігодзьдзяў таму на пошукі полацкага крыжа Ефрасіньні, мы ў працэсе гэтых росшукаў набылі беларускую незалежнасьць, выяўляючы большую рупнасьць хутчэй у вяртаньні крыжа, чым дзяржаўнасьці.

Полацкі лябірынт — ці ня самая амбітная «страта», бо яна прэтэндуе на ляндшафт і на асаблівыя дачыненьні з прасторава-часавым кантынуўмам (згадайма «Лябірынт» В. Ластоўскага). Хтанічная прырода лябірынту-сутарэньня вымагае наяўнасьці свайго салярнага спадарожніка. І ён, гэты айчынны Эдэм, існуе. У адрозьненьне ад Лябірынту, адносна тапаграфіі і месцазнаходжаньня Саду ёсьць больш пэўныя зьвесткі. Ян Баршчэўскі, напрыклад, ля-

калізуе яго месцазнаходжаньне ў экіманскіх уладаньнях паноў Беліковічаў. Урэшце, «Вертаград» С. Полацкага можна лічыць яго віртуальным філіялам, заўжды гатовым разгарнуцца на прасторы айчыннага гуманітарнага дыскурсу.

*Калосьсе–Правінцыя, 2001–2002*

## ПАДСТАВЫ ПАВЕТАЛІЗМУ

*Алесь Аркуш. Выпрабаваньне развоем. Полацак, 2000.*

На працягу 1996–1997 гадоў, стагнацыйных для культуры, Таварыства Вольных Літаратараў (ТВЛ) згарнула свае сталічныя праекты, каб засяродзіцца на стварэньні рэгіянальнага культурнага кантэксту. Як выявілася, Эўропа рэгіёнаў — значна больш дасяжная для Беларусі рэальнасьць, чым Эўропа нацый. Каб салідарызавацца сёньня з падставамі эўрапейскага паветалізму, зусім не абавязкова пакідаць Малінаўку — на паліцах сяброў ужо зьявілася новая кніга А. Аркуша «Выпрабаваньне развоем», паветалізм зь першых рук. У адным з анонсаў зьмест згаданай кнігі быў вызначаны як «падкрэсьленая апазыцыйнасьць да сталіцы», але рэгіяналізм у выкананьні ТВЛ насамрэч не зьяўляецца спробай паўстаць новым Цэнтрам. Рэгіяналізацыя, разгорнутая ў тэвээлаўскім праекце, зьяўляецца руйнаваньнем Правінцыі.

Пад час свайго нядаўняга наведваньня Полацку філёзаф і паэт Ігар Бабкоў сфармуляваў праблему рэгіяналаў як непрыняцьце Цэнтрам спробы самарэфлексіі Пэрыфэрыі. Аднак з пэўнага часу гэта ня ёсьць праблемай рэгіяналаў. Аб чым і сьведчыць кніга Алеся Аркуша — яна знаходзіць свайго чытача бяз санкцыі сталічных пасярэднікаў. Для высьпяваньня гэтай сытуацыі шмат зрабіў менавіта Аркуш, дзякуючы сваім праектам. Ключавое слова «развой» у назьве кнігі выяўляе сутнасьць інтарэсаў лідэра ТВЛ, якія выходзяць за межы пэўных жанраў ды

эстэтычных ідэй. Аркуша цікавіць жывая плынь літаратуры, яе рух. Літаратурны працэс складаецца ня толькі з творчых актаў, выдавецкай дзейнасьці, але і кухонных спрэчак з запарваньнем гарбаты, абмеркаваньня, рэцэнзаваньня і прэзэнтацый новых твораў, імён, праектаў. Штодзённая апантаная заангажаванасьць сяброў ТВЛ літаратурай ва ўсіх яе выяўленьнях дае добры плён. ТВЛ застаецца ўзорам пасьпяховай рэгіянальнай культурнай прамоцыі. У чым сакрэт гэтай пасьпяховасьці? Магчыма, у тым, што «нонканфармізм» для Аркуша быў ня проста рэклямным слоганам. Артыкулы «Спроба маніфэсту», «Выпрабаваньне развоем», «Шлях да вольнай літаратуры» — паўставалі на палёх ужо зьдзейсьненых праектаў. Аркуш рэалізаваўся як ідэоляг беларускай альтэрнатыўнай літаратуры рэтраспэктыўна — камэнтарамі да яго тэкстаў служаць зьдзейсьненыя праекты. Удзельнічаючы ў кожнай больш-менш істотнай літаратурнай дыскусіі апошняга дзесяцігодзьдзя, аўтар «Выпрабаваньня развоем» стаў пасьлядоўным выразьнікам рацыі рэгіёнаў. Што да апошняй кнігі, то яна зьяўляецца пазнавальным, але кампліментарным партрэтам прамінулага дзесяцігодзьдзя — засвоіўшы ілюзіі пакаленьня «самазанятых інтэлектуалаў», аўтар кнігі пазьбегнуў іх расчараваньняў.

Вопыт Аркуша заслугоўвае вывучэньня. Алімпійскі прынцып «не перамагаць, а ўдзельнічаць» робіцца актуальным і для літаратуры. Да творчага фінішу, як у аўтагонках, пераможцам прыходзіць той, хто элемэнтарна даходзіць да гэтага фінішу. Прамежкавы вынік робіцца вызначальным, бо як ніколі сучасныя літаратары разьлічваюць на Вечнасьць, а ў апошняй па самім вызначэньні ня можа існаваць канцавой асады. Той, хто выходзіць рэгулярна на прамежкавыя фінішы, у сукупнасьці будзе першы. Ужо можна

меркавацьь — Алесь Аркуш ёсьць першым вольным літаратарам XXI стагодзьдзя. Покуль іншыя зьбіраюцца бегчы, ён нясьпешна ідзе. Аркуш дойдзе.

*Правінцыя, 2002*

# ДАЖЫНКІ

*Сяргей Красьнята. Душа зямлі. — Віцебск: Фонд Льва Сапегі, 1999. — 32 с. — 50 асоб.*

Красьнята паспрабаваў стварыць гераічны беларускі эпас, што засьведчана ім у прадмове да кнігі «Душа зямлі». З увагай на падобныя памкненьні Янка Брыль неяк адзначыў: «усе народы ўжо даўно адбразгацелі ў літаратуры рыцарскімі мячамі ды латамі, а мы цяпер — наўздагон». Але для аўтара «Душы зямлі» усё толькі пачынаецца, а пэрсанажы айчыннай гісторыі — жывей усіх жывых. У першых жа радках сваёй кнігі С. Красьнята выклікае на паэтычны турнір цень Гала Ананіма — цені адказваюць паэту ўзаемнасьцю.

Кнігу складаюць гісторыка-гераічныя паэмы «Душа зямлі» і «Быліны Дзьвіны», зьмест якіх — рэканструкцыя яцьвязкіх паданьняў і легендаў аб Усяславе Чарадзею. Лучыць паэмы паганскі зацін. Змагаючыся з прывідамі мінулага, паэт выпрацаваў харызматычны зык, жарсьцю сваёй нагадваючы паэтычныя практыкаваньні Л. Кэрала з «Алісы ў Залюстэр'і». Такі ўжо лёс гераічнага патасу ў наш цынічны век — ані Красьнята, ані Гамэр тут не выключэньне.

Можна заўважыць аналёгію паміж творчасьцю аўтара «Душы зямлі» і Язэпам Драздовічам у іх супольным зацікаўленьні архаічнымі кодамі. Пераклічка прысутнічае і ў лёсах — як і знаны айчынны Вандроўнік, Красьнята таксама бянтэжыць сумленьне аселых суайчыньнікаў сваімі падарожжамі. Што гоніць «паэтаў-цароў» па Краю, што трымае

іх тут — пра гэта С. Красьнята мог распавесьці і за сябе, і за Драздовіча, і за «таго хлопца».

Кожнае пакаленьне мае сваіх герояў — адны фігуруюць у хрэстаматыях, іншыя — у показках. Дзякуючы апошнім і зьдзяйсьняюцца нэафітаўскія мары чарговых бурапеньнікаў. Вось і Красьнята рэалізаваў на свой капыл праграмную ўстаноўку «Тутэйшых» аб стварэньні нацыянальнага гераічнага эпасу. Зрэшты, кропку ставіць рана — покуль будзе ў полацкім чарналесьсі жыць воўк, будуць складаць і вершы аб ваўкалаку. Ані крытыкі, ані ўнівэрсытэцкая адукацыя гэтаму не замінаюць. Так і Красьнята — атрэсься ад асьпіранцкай навукі ды памкнуў у нетры фальклору. Магчыма, учэпістая на вершы вясковая памяць будзе больш літасьцівай да ягоных твораў, чым да маляванак Драздовіча. І тады — у чарговы палявы сэзон студэнты-гісторыкі з Полацку ўзбагацяць навуку адкрыцьцём гераічнага народнага эпасу «Душа зямлі», калі не ўсплыве толькі дзесь на сялянскім гарышчы ценькая кніжка з аднайменнай назвай. Зрэшты, заўжды знойдзецца крытык, які абвесьціць рарытэт містыфікацыяй. У кожным разе, айчынная фальклярыстыка не застанецца без сэнсацый. Душа зямлі — жывая.

*Пятро Васючэнка, Антоні Вырвіч. Прыгоды аднаго Губашлёпа. (Аповеды пра Валентага). — Мінск: ПП «Рэдакцыя газеты “Частный детектив”», 1999. — 64 с. — 1000 асоб.*

Сусьветная гумарыстычная літаратура мае ўласны пантэон герояў: тут і чэскі салдат Швэйк, і эстонскі памешчык Тооц, і ангелійскія «афіцэры ды джэнтэльмэны». Падобны разнабой саслоўяў невыпадковасьць — па-сяброўску пакеплівацць можна толькі над тымі, хто адэкватна рэагуе на жарты.

Відавочна, што ў нашага народа — гэта студэнцтва. Студэнцкім фальклорам прасякнуты хрэстаматыйныя старонкі «Сібірскай аповесьці» Ул. Арлова і «Палоннага Чорнага стэпу» В. Мудрова, зь інтэрнацкага побыту паўсталі ліхтугі «Бацькі ў калаўроце» Р. Семашкевіча. У гэты шэраг варта залічыць і «Прыгоды» Пятра Васючэнкі. Галоўны герой апавяданьняў Васючэнкі — студэнт Валенты Крукоўскі, як сьведчыць анатацыя да кнігі, — «здае зь пераменным посьпехам іспыты, гуляе ў храпа і “Спортлато”, тушыць неіснуючыя пажары, поіць адмысловай гарбатай нямецкага генэрала, кахае і расчароўваецца, і, на жаль, дзюбае гарэлачку ды “чарніла”». Першая часопісная публікацыя апавяданьняў Васючэнкі зь ягонага «студэнцкага» цыклю зьявілася дзесь у сярэдзіне 90-х. Эвалюцыя, якую зазнала за гэты час айчынная літаратура, ня толькі не абясцэніла творчыя пошукі П. Васючэнкі, але і перамясьціла іх плён у «мэйнстрым» сучаснай прозы, побач з творамі Ўл. Арлова, Л. Вашкі, В. Мудрова. Характэрнымі рысамі гэтай плыні зьяўляюцца навэлістычны фармат і тэхналягічнасьць пісьма, зьвернутага да чытача, а ня крытыка — адсюль перавага побытавай гумарыстычнай фабулы. І ў сваіх «Полацкіх лябірынтах», «Крыўскім слоўніку паводле Я. Баршчэўскага» — Васючэнка патрапляе сумяшчаць эрудыцыю з чытэльнасьцю. Гэта адзнака нашага часу — Адраджэньне пачынаецца з дэмакратычнай паліграфіі і масавых сэрый у «мяккай» вокладцы.

*Рыгор Барадулін. Здубавецьця. — Мінск: Паліфакт. — 1996. — 160 с. — 3000 асоб.*

Ушацкія досьціпы, сабраныя ў гэтай кнізе, характарам свайго гумару нагадваюць латыскія дайны. Апошнія, дарэчы, сталі даступныя беларускамоў-

наму чытачу праз пасярэдніцтва менавіта дзядзькі Рыгора. Народная сьмехавая культура — заўжды дыялёг, вымагаючы таленавітых апавядальніка і слухача. Гэта і дэманструе Р. Барадулін, прапануючы нам не застылыя анэкдоты, а жывыя галасы, сумоўе — традыцыйнай культуры і сучаснасьці, латыскага і беларускага народаў.

Акрамя паспалітага чытацкага інтарэсу гэтая кніга патрапіць задаволіць і акадэмічныя запатрабаваньні аматараў беларускага слова. Галоўным героям у барадулінскіх карацельках робіцца часта само маўленьне — амаль у традыцыі філялягічных абразкоў Ф. Янкоўскага. Гэтыя мініятуры актуалізуюць ня проста дыялектную лексыку, але і старажытную этыку суіснаваньня чалавека з навакольным асяродзьдзем-прыродай, суседзямі, космасам. Падобнага адчуваньня зьнітаванасьці нацыянальнай ідэі зь ляндшафтам штодзённай культуры нам бракуе ад часоў Багдановіча ды Канчэўскага. Таму сваім словам Барадулін здольны легітымаваць ня толькі сучасныя культурныя пачынаньні, але, рэтраспэктыўным парадкам, і ўвесь літаратурны дыскурс Беларусі XX стагодзьдзя, якому часам не хапае жыцьцёвай сапраўднасьці. Чытайце Барадуліна і пераканаецеся самі: «Здубавецьця» — гэта сьмешна.

*І. Сідарук. Квадратная варона: аповеды. — Полацк–Горадня–Кобрынь: Полацкае ляда, 2000.*

«І як тыдзень, другі, трэці таму сыпаў дробны, няспынны, халаднаваты дождж ды нясьцерпна пахла бярозамі» («Каравайчык–34») — думаецца, дзеля гэтага фінальнага сказу, вылучанага як мараль у асобны абзац, апавяданьне і пісалася. Сказ мог паўстаць сам па сабе, як асобна і самадастаткова, безадносна чалавеку, існуе водар бяроз. Аднак толькі

чалавек здольны адчуць, што бярозы могуць пахнуць нясьцерпна. Пах бяроз як індыкатар нармальнасьці. Рэзьніцкія сцэны на тле гэтага бярэзьніку падаюцца неабавязковымі. Навошта самазьнішчэньне героя ў аповеду? Каб чытач яшчэ вастрэй разам з пахам гэтых бяроз адчуў крохкасьць і неабавязковасьць свайго існаваньня, сваёй здольнасьці адчуваць навакольны сьвет? Бярэзьнік у дождж прыўкрасны і без чалавека? Ці ня гэтае адчуваньне і робіць апавяданьні Ігара Сідарука падобнымі да натурмортаў, у якіх чалавечая плоць навалена на пярэднім пляне як бітая дзічына.

Герой апавяданьня «Піца коткам не наедак» разьбірае сябе, «вобраз і падабенства Боскае», па частках, як дзіцячы канструктар. Што насамрэч адбываецца ў гэтым «анатамічным тэатры» І. Сідарука — дэканструкцыя ідэалёгіі гуманізму, расчалавечваньне ці спроба абудзіць чалавечае ў гэтым цудоўным новым сьвеце? Лейтматыў скону чалавечага прасочваецца на працягу ўсёй кнігі. Такая пунктуальнасьць, безадносна таго, зьяўляецеся вы прыхільнікам падобных экспэрымэнтаў ці не, — заварожвае. Як гэта назваць — «вернасьцю мастака тэме» ці насланьнем?

Апавяданьні са зборніку «Квадратная варона» ужо друкаваліся ў розных айчынных выданьнях — гэта, відаць, найбольш поўны збор празаічнага даробку І. Сідарука. Кніга атрымалася, і частка посьпеху належыць таксама людзям, якія спрыялі яе выхаду і афармленьню, — мастаку Аляксею Лунёву і выдаўцу Алесю Аркушу.

*Калосьсе, 2000, 2001*

# ПОЛАЦКІЯ АМБІЦЫІ

Сябры выпрабоўваюцца ў шчасьці. Соладка было любіць Полацк шэрых пакрыўленых парканаў, дзівосы якога адкрываліся толькі абраным. Зараз Полацк, аблашчаны ўладай і бізнэсам, Полацк з палацамі-базарамі і адноўленымі цэрквамі пакідае ў старых патрыётаў дваістае ўражаньне. Інтэлігенцыі аказалася цяжка канкураваць у любові да гораду з уладай. Гэтаксама як і складаць яму вершаваныя прысьвячэньні — сёньня з большым маральным правам гэтым займаецца сам полацкі мэр-будаўнік Уладзімір Тачыла.

Ёсьць спакуса, паводле заходняй культуралягічнай традыцыі, супрацьпаставіць на прыкладзе сёньняшняга Полацка духоўную культуру матэрыяльнай цывілізацыі, вершаваныя зборнікі ТВЛ ды «Полоцкой ветви» — брукаваным ходнікам, зробленым у горадзе перад Дажынкамі. Але брукаванка, ліхтары ды газоны ўтвараюць настолькі арганічны і шчыльны сымбіёз з айчыннай гарадзкой паэзіяй, што падзяліць іх на сучасным этапе не ўяўляецца магчымым.

Шматлікія полацкія фэсты апошніх гадоў не прамінулі дарма. Колішнія вяскоўцы набываюць густ да гарадзкога жыцьця. Бабулькі новай фармацыі насуперак сваёй клептаманскай звычцы выкопваць тульпаны з гарадзкіх кветнікаў пачалі прывозіць расаду кветак з уласных лецішчаў і высаджваць яе ў гарадзкіх дварах. Гэта не ідылія, гэта сучасны Полацк.

У горад вярнулася тое, на чым ён спачатку паўставаў, — амбіцыі і грошы. У гістарычных раёнах гораду неяк раптоўна вуліцы апанавалі прыватныя

ўладаньні за высокімі агароджамі. У горад вярнуліся гаспадары. Полацкая старажытнасьць у модзе. Але яна запатрабавана ня як гісторыя, а ў выглядзе антычнасьці — абстрактных уяўленьняў аб мінулым без гістарычнай дакладнасьці, без прывязкі да факту, калі нараджаюцца крамы з адвольнымі назвамі кшталту «Замкавая», «Стралецкая», ці рэстарацыя «Манастырскі паграбок» (дарэчы, гатуюць там добра, аўтар сьцьвярджае гэта на падставе вопыту правядзеньня там уласнага вяселья).

Магчыма, для спазнанага турыстычнага вока сучасны Полацк выглядае сьціпла. Але ня варта рабіць хуткіх высноваў. Гэта той выпадак, калі старая форма цяжарная новым зьместам. Сымбалем такой мэтамарфозы бачыцца запалоцкая сядзіба Алеся Аркуша і Тацьцяны Козік, новая легенда Полацку. Гэта вясковы драўляны дамок, за парогам якога сьцены і столь самым непасрэдным чароўным чынам рассоўваюцца ўшыркі, нібыта законы эстэтыкі здольныя адмяняць фізычныя законы, выяўляючы чацьвёртае вымярэньне — прастору мастацкай духоўнай працы.

Статус Полацку зьмяняўся неаднойчы, але амбіцыі палачан ніколі ня ведалі дэвальвацыі. Полацк нагадвае зорку, якая згарэла безьліч часу таму, але сьвеціць нам дасюль, — засталося нешта нематэрыяльнае і дзейснае — сьвет духоўнай працы.

Полацк — гэта рынкі, цэрквы, унівэрсытэт, прамзона. У такім парадку. Горад з купецкімі амбіцыямі.

Шмат грошай — шмат згрызотаў, адсюль цэрквы. Гандляры з разнастайных базараў ня хочуць, каб іх дзеці стаялі ў ралетах, адсюль унівэрсытэт.

Прамзона — як паплаўкі бясьпекі па бартах старога чоўна — полацкага купецкага карабліка, які асталяваўся ў выглядзе гербу на прыватных таксоўках-маршрутках гораду. Хто ведае, магчыма, прамзона Наваполацку з калёнамі закураных комінаў

Паліміра і Нафтана зробіцца калісь архітэктурна-ляндшафтным запаведнікам індустрыяльнай эпохі. Бэтонныя парканы, абкручаныя калючым дротам, будуць раскалупвацца на сувэніры. Пад час адмысловых фэстаў на вялікія сьвяты па гарадзкой радыёсетцы будзе ўключацца трывожная сырэна, што будзе перарывацца настальгічным абвешчаньнем: «Гаворыць Штаб грамадзянскай абароны, гаворыць Штаб грамадзянскай абароны, адбыўся выкід небясьпечных рэчываў, просім падтрымліваць спакой...». Для большага падабенства над горадам расьцярушаць у гэты момант серавадародны спрэй.

Полацк — гэта таксама і вакзал, перакрыжаваньне на старым шляху «з вараг у грэкі». Палачане раскіданыя па сьвету, і цяпер, каб даведацца аб сапраўдных памерах полацкай амбітнасьці, трэба выправіцца ў маскоўскі Крэмль. Маскву будавалі палачане.

Задужа амбітнае заява? Усё пазнаецца ў параўнаньні. Палачанка Рагнеда не захацела пабрацца шлюбам з «рабынічам» Уладзімірам, полацкі князь Усяслаў Брачыславіч збудаваў Сафію — сымбаль дзяржаўнасьці, палачанін Францыск Скарына, перакладчык і першадрукар біблейных тэкстаў на старабеларускую мову, зьмясьціў свой партрэт у кнізе Сьвятога Пісаньня, сучасны мэр Полацка Ўладзімір Тачыла марыць аб конным помніку Ўсяславу.

* * *

Днём палачане — гандляры, таксоўшчыкі, сьлесары, студэнты, увечары ж ці раніцой мужчынская частка Полацку перакідаецца ў рыбароў. Самая ўнівэрсальная амбіцыя прыдзьвінскіх мальцаў — рыба.

Хрыстос хадзіў па вадзе аднойчы, а мы палову году ходзім, — жартуюць аматары зімовай рыбалкі. Каб здохла ваша рыба, — уздыхаюць маладыя гаспадыні, разносячы за сьвяточным сталом гарачую

бульбу. Але ты, сястрычка, упадабала бляск крывіцкіх вачэй, у якіх калючы ёрш паляўнічага заціну і загадкавая летуценнасьць — мары пра Вялікую рыбу, дзьвінскага сама.

На бязрыб'і ідуць шашлыкі, яны пахнуць цыбуляй і любошчамі. Дранікі? Бульба па супастаўленьню ўкладзеных сродкаў з вынікам — тамагучы айчынных лецішчаў. Славай нацыянальнага прадукту абавязана знанаму меху, зь якім на карку беларусы штурмавалі саюзныя здраўніцы ды сталічныя інтэрнаты. Заплечнік з бульбай для беларуса на чужыне — аналяг мяшэчка роднай зямлі, попел Кляаса. Па меры зьмяншэньня аб'ёму караняплодаў настальгія павялічваецца. Працягласьць прабываньня беларуса на чужыне такім чынам наўпрост абумоўлена памерам ягонага бульбянога меха. Бульбяныя лехі запрыгоньваюць, вызваляе рыбалка.

Апошні буйны ўлоў — пятнаццацісантымэтровы шчупак — быў выцягнуты мной у сямігадовым узросьце. Паплавок губляецца ў рабацiньне, а падсьвядомасьць тым часам выкладае белым вапняком на супрацьлеглым беразе Дзьвіны КРЫЎЯ. Большасьць, з кім дзелісься праектам, дэманструючы прыдзьвінскі краявід з балькона, сьмяюцца, але сустракаюцца і патэнцыйныя інвэстары, якія ўдакладняюць — чаму? Дык жа Полацк ёсьць перамагаць. Полацк для ілюмінацый, каранацый, трыюмфатараў. Гэта пляцы і сцэны. Дарма шукаць у Полацку лёхі-схованы-лябірынты. Тут гісторыя выходзіць на вонкі, дзеецца відовішча, спэктакль, у залі — уся Беларусь.

*Arche, 2005*

## ІМЁНЫ ІДЭАЛЬНАГА

Пад тэрмінам «этнічная карціна сьвету» разумеецца пэўная «міталягема рэальнасьці», якая фарміруе лёгіку адаптацыйных паводзін этнасу, або, у нашым выпадку, часткі этнасу — традыцыйнага прывілеяванага саслоўя Беларускага Падзьвіньня. Карціна сьвету асэнсоўваецца яе носьбітамі часткова і фрагмэнтарна, яна ня дадзена ў пэўнай лягічнай цэласнасьці, тым больш у гатовым тэксьце (С. В. Лур’е). Узнавіць падобныя ўяўленьні магчыма карыстаючыся ўскоснымі зьвесткамі і крыніцамі, да якіх можна аднесьці і ўласныя імёны.

Уласныя імёны людзей і звышнатуральных істот, якія сустракаюцца ў кнізе Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня», можна ўмоўна падзяліць на некалькі груп. Па-першае, гэта беларускія міталягічныя імёны. Пэрсанажаў, якія яны пазначаюць, налічваецца 26. Сярод іх вылучаюцца *легендарныя героі* (5 пэрсанажаў — Княжа, Цярэшка, князь Бой, пан Твардоўскі, дзяўчына Ганна) і *звышнатуральныя істоты* (21 — Купала, Вужыны Кароль, Варгін, Будзімір, Паднор, Пруд, Дубіна, Гарыня, Чур, сабакі Стаўры і Гаўры, Пярун, Баба Яга і восем цыганскіх духаў — Нікітрон, Ярон, Ірон, Кітрон, Фараон, Фаразон, Сталідон, Лідон). Фігуруюць у тэксьце таксама русалкі, ваўкалакі, цмокі, чума, трасца або фэбра, лесуны (Лясны Бог), вадзянік, хляўнік, дамавік, волат і вупыр. Збольшага гэтыя імёны ўзыходзяць да язычніцкага пласту беларускай традыцыйнай сьвядомасьці, агульнай, відавочна, і для сялянства, і для прадстаўнікоў ніжэйшага дваранства. Суіснаваньне язычніцкіх і хрысьціянскіх элемэнтаў — вынік гі-

старычнага кампрамісу на беларускіх землях паміж язычніцтвам і хрысьціянствам.

Антычных уласных імён у кнізе налічваецца 27 адзінак. Сярод іх можна вылучыць *імёны гістарычных асобаў* (7 — Аляксандр Македонскі, Гамэр, Вергілій, цар Спарты Леанід, Цыцэрон, Гарацый, Цэзар), *мітычных герояў* (12 — Парыс, Уліс, Цырцэя, Цыклёп, Эней, Прока, Амулій, Нумітор, Рэя Сільвія, Ромул, Рэм, Фаўстул) і *язычніцкіх багоў* (8 — Фартуна, Апалён, Трытон, Нэптун, Амфітрыта, Марс, Акіян, Вэнэра). Намэнклятуру грэка-рымскіх імён можна пашырыць з улікам безназоўных німф, сатыраў, муз, купідонаў і вясталак. Досыць прадстаўнічая група антычных уласных імён сьведчыць аб клясычным характары адукацыі, якую атрымаў Я. Баршчэўскі ў Полацкім езуіцкім калегіюме. Карыстаньне зьвесткамі з антычнай гісторыі і міталёгіі мусіла дэманстраваць адукаванасьць як аўтара тэксту, так і героя-апавядальніка. Зрэшты, кніжныя веды часам маглі і не выклікаць асаблівага эмацыйнага водгуку ў шляхецкім грамадзтве. Так, шляхціца Завальню змарыў сон, пакуль пляменьнік Янка пераказваў сюжэты грэка-рымскай міталёгіі. Яшчэ адзін высокаадукаваны выхаванец езуітаў арганіст з Расонаў, запэўніўшы грамадзтва ў тым, што ведае на памяць тэксты Цыцэрона і Гарацыя, прызнае, што ўсё гэта vanitas vanitatis (марнасьць марнасьцяў).

Наступная група ўласных імён у тэксьце «Шляхціц Завальня» — гэта імёны, якія адносяцца да хрысьціянскай рэлігійнай традыцыі. Нягледзячы на высокую частотнасьць згадваньня хрысьціянскіх імёнаў (гэта пераважна звароты да Бога, Айца і Сына, а таксама найсьвяцейшай Маці, кшталту «з Богам», «дзякуй Богу», «Божа», «Божы»), сама іх намэнклятура досыць сьціплая. Налічваецца каля 20 пэрсанажаў з улікам імён, што згадваюцца ў зьвязку

са сьвятамі ці назвамі ікон, малітваў і касьцёлаў (Бог-Айцец, Ісус, Матка Божая, сьв. Пётр, Тры вешчуны, Адам, Ева, Каін, сьв. Ян, сьв. Ксаверы, сьв. Казімір, сьв. Стафан, сьв. Сафія, сьв. Барыс і Глеб, Ігнацы Ляёла, Абрам, д'ябал). Аднак пэўныя хрысьціянскія імёны маюць вялікую колькасьць варыянтаў (гэта датычыць перадусім упамінаньняў у тэксьце Бога-Айца, Ісуса, дзевы Марыі і д'ябла). Напрыклад, згадваецца Бог, Творца, Айцец і Сын, Хрыстос, Збавіцель, Пан, Спас, сьвяты Немаўляці. Шматварыянтнасьць, як і высокая частотнасьць згадваньня рэлігійных пэрсанажаў, сьведчыць аб эмацыйнай хрысьціянскай заангажаванасьці герояў Я. Баршчэўскага. Асобы хрысьціянскага пантэону праз назвы бажніц і мясцовашануемых ікон (Прачыстая Маці Сірацінская) зрабіліся часткай паўночнабеларускага ляндшафту — геаграфічнага і культурнага. Аднак зьвяртае на сябе ўвагу мінімальная прысутнасьць у тэксьце Я. Баршчэўскага пэрсанажаў Старога Запавету. Гістарычныя прыклады ён больш ахвотна запазычвае з антычных крыніц, а дэманалягічную намэнклятуру скарыстоўвае мясцовую, ігнаруючы гісторыка-міталягічны патэнцыял Старога Запавету.

Пералік мясцовых імпрэз і ўрачыстасьцяў — Вялікдзень, Чысты Чацьвер, Сёмуха, Купальле, урачыстасьці сьв. Ігнацыя Ляёлы, працэсіі з абразам Сьвятога Немаўляці, Юбілей у Юхавічах, Каляды, сьвята Трох вешчуноў, Чырвоны полацкі кірмаш, конскія кірмашы ў Бешанковічах і Асьвеі — таксама ўказвае на пэўны парытэт паміж язычніцкім і хрысьціянскім.

Надзвычай мізэрнай зьяўляецца група замежных імён. У творы Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня» згадваецца толькі пяць іншаземцаў — Дагер, адзін са стваральнікаў фатаграфіі, Напалеон і тры дзеячы

ордэна езуітаў: Ігнацы Ляёла, Кляўбер і кс. Порэ. Такая нязначная колькасьць замежных імён можа быць патлумачаная як бракам актуальнай інфармацыі, інфармацыйнай самадастатковасьцю правінцыялаў, так і праграмным традыцыяналізмам самога Я. Баршчэўскага, які ў прадмове да сваёй кнігі дэкляраваў, што англійскія, нямецкія або францускія літаратурныя (і, відавочна, культурныя) узоры не пасуюць мясцоваму густу.

Рускія гістарычныя і культурныя пэрсанажы наўпрост у тэксьце «Шляхціца Завальні» ня згадваюцца. Але ў іншасказальнай форме, паводле меркаваньняў М. Хаўстовіча, пад іменем Белай Сарокі выводзіцца постаць Кацярыны II. У зносцы да тэксту, зробленай Я. Баршчэўскім, называецца генэрал Кульнёў. Згадваюцца ў тэксьце Я. Баршчэўскага таксама *асташы*, прадстаўнікі горада Асташкава, якія арандавалі частку азёраў у паўночнай Беларусі.

Яшчэ адна вялікая група назваў — гэта беларускія антрапонімы, што пазначаюць гістарычных асоб або пэрсанажаў, якія з вялікай доляй верагоднасьці маглі мець рэальных прататыпаў.

Па-першае, гэта ўласныя імёны людзей, якія маюць гістарычныя карані (11), — паны Снарскія, уладальнікі Краснаполя, Беліковічы, уладары Экіманіі, князі Агінскія, уладары Магільна, Храпавіцкія, паны Кошка, Цяліца, Жук, Жаба, Грэбніцкі, гаспадар віцебскай карчмы Карлісан. Па-другое, уласныя імёны літаратурных пэрсанажаў, прадстаўнікоў прывілеяваных саслоўяў (13), рэальнае існаваньне якіх не даведзена, — паны Завальня, Сіваха, Латышэвіч, Марагоўскі, Стась і Юзік, сыны Завальні, Янка, пляменьнік Завальні, пані Мальгрэта, гаспадыня Завальні, ксёндз Буда, айцец Попэ, пан Чубкевіч, пан Скамароха, судзьдзя Дадэмуха. Па-трэцяе, шляхецкія імёны, што раскрытыя аўтарам ня поўнась-

цю (24), — пан Андрэй (арганіст з Расонаў), сьляпы Францішак, пан К. Г., пан З., пан Б., пан М., пан Л., пан С., пані Тэрэза, Атон, Аліна, Альберт і Мальвіна, Гугон, пан Генрык, Амелія, пан ***, Адольф, Альма, Севярын, пан Дамінік, пан Н., Антося, Зося. Па-чацьвёртае, простанародныя імёны (37): сялянскія і мяшчанскія (32) — Карпа, Гарасім, Агапка, Парамон, Акім, Грышка, Антон, Васіль, Арына, Алюта, Марцін, Максім, Сямён, Марыся, Якуш, Марка, Алена, Ільля, Арцём, Ганка, Аксіня, Родзька, Аўгіня, Варка, Якуб Плаксун, Праксэда, Міхась, Ахрэм, Лукаш, Марынка, Тамаш, Алешка, яўрэйскія (3) — Хаім, Ёсель, Сора, цыганскія (2) — Базыль, Шылка. І ўрэшце, алегарычныя істоты — Чарнакніжнік (Вялікі Чарнакніжнік), Плачка, Сын Буры, Сын Шчасьця, Сын Цярпеньня, Вогненныя духі, Белая Сарока, Чорны госьць. (У кнізе сустракаюцца і ўласныя назвы расьлін, што таксама выступаюць у Я. Баршчэўскага як пэўная алегорыя, — гэта Разрыў-трава, Пералёт-трава, Жабер-трава, трава росічка.)

Такім чынам, найбольш прадстаўнічымі групамі сярод беларускіх антрапонімаў кнігі Я. Баршчэўскага паўстаюць простанародныя імёны і імёны, якія зь вялікай доляй верагоднасьці належаць прадстаўнікам дробнага дваранства. Імёны арыстакратыі зьяўляюцца эпізадычна.

У кнізе Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня» ўтрымліваецца 30 *айконімаў*. Па частотнасьці згадваньня зь вялікім адрывам лідзіруе Полацк (разам з утворанымі ад яго назвамі) — 38 згадак, потым — Рыга (7) і Віцебск (5). Згадкі астатніх айконімаў не перавышаюць трох разоў. Беларускіх айконімаў — 21 адзінка. У вызначэньні атрыбута «беларускі» мы мусім прытрымлівацца меркаваньняў самога Я. Баршчэўскага, які пашыраў гэтае азначэньне на

тэрыторыю Невельскага і Себежскага паветаў. Такім чынам, да беларускіх мы аднесьлі наступныя назвы гарадоў, вёсак і маёнткаў: Полацк, Невель, Себеж, Юхавічы, Клішкова, Магільна, Віцебск, Казуліна, Клясьціцы, Галубова, Струнь, Экіманія, Расоны, Краснапольле, Альбрахтоў, Ушачы, Гарбачова, Бешанковічы, Асьвея, Сітна, Сіроцін. Большасьць зь іх лякалізуюцца на правым беразе Дзьвіны. Сярод небеларускіх айконімаў — 6 рускіх (Пскоў, Вялікія Лукі, Ноўгарад, Старая Руса, Пецярбург, Нарва) і ўрэшце — Рыга. Дадзеная група айконімаў досыць красамоўна пазначае вэктары эканамічных і культурных сувязяў жыхароў Паўночнай Беларусі. Арганічнай бачыцца ў тэксьце Я. Баршчэўскага прысутнасьць айконімаў, зьвязаных з грэка-рымскай цывілізацыяй (Троя і Рым). З назваў краін (гісторыка-культурных рэгіёнаў) найчасьцей згадваецца Беларусь (24) і адзін-два разы — Інфлянты, Курляндыя, Расія, Турцыя, Егіпет.

Прадстаўнічай зьяўляецца група *гідронімаў*, сярод якіх — 12 назваў азёр (Нешчарда — 20 згадак, Шэвіна — 2, Валовая азярына — 1, Расоны — 2, Глухое — 5, Рабло — 4, Язна — 2, Сітнянскае — 2, Глыбокае — 1, Скобрыя – 1, Няведра — 1, Невельскае — 1), 9 — рэк (Дзьвіна — 13, Дрыса — 10, Палата — 5, Ловаць — 1, Обаль — 1, Страдань — 1, Тыбр — 1, Нява — 1), адной крыніцы (Дзявочая) і мора (Балтыйскае, Фінская затока). Згадваецца ў тэксьце Я. Баршчэўскага таксама 7 назваў гор (Пачаноўская – 3, Магіла Княжа, Ласіная гара, Алімп, замкавая гара ў Полацку, Гарадзецкая, Рабшчызна). З тапонімаў таксама варта згадаць назвы «Сітнянскі лес» і «Пецярбургскі гасьцінец». З урбонімаў пераважаюць полацкія імёны — назвы бажніц (сьв. Стафана, сьв. Сафіі, Спас, сьв. Ксаверыя, сьв. Казіміра, царква Барыса і Глеба), могілак (ля

сьв. Ксаверыя) і садоў (Спаса і Экіманіі). Да гэтага надзвычай сьціплага сьпісу можна хіба дадаць такія назвы гарадзкіх аб'ектаў, як сьвятыні Перуна і Бабы Ягі, Полацкая езуіцкая акадэмія, мураваны слуп у Полацку са статуяй сьв. Яна. Гарадзкая прастора, міталягема гарадзкой прасторы відавочна не была добра засвоена ні традыцыйнай сялянскай, ні шляхецкай сьвядомасьцю.

Аналіз тапаніміі кнігі Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданьнях» дазваляе выявіць шматслойны характар прасторы, якую апісвае дадзены тэкст.

Найперш, гэта *прастора культуры* — прастора ідэальнага, галоўнай мэтафарай якой зьяўляецца Сад — аднначасова антычная Аркадыя і полацкія сады (Спаса і Экіманіі), у якіх бавіўся малады Баршчэўскі пад час сваёй вучобы ў езуітаў. Алімп, Тампейскую даліну, Фармапілы герой Я. Баршчэўскага шукае і знаходзіць у ляндшафтах Полаччыны, падсьвечаных успамінамі юнацтва.

Яшчэ адзін пласт — *прастора гісторыі*, мэмарыяльныя мясьціны, зьвязаныя з гістарычнымі падзеямі, напрыклад Клясьціцы. Збольшага яна перакрываецца прасторай міталягічнай — напрыклад, паходжаньню курганоў, зьвязаных з гістарычнымі падзеямі, надаецца мітапаэтычнае тлумачэньне. Мясцовая гісторыя падпадае міталягізацыі ня тольκі з боку народнай традыцыі, але і высілкамі самога Я. Баршчэўскага.

Прастора міталягічнага — гэта таксама і *прастора сакральнага*. Яна пазначана назвамі курганоў (Магіла Княжа), крыніц (Дзявочая), камянёў (Зьмяёвы), дрэў (Дзьве Бярозы) і пагоркаў. Можна дапусьціць, што сакралізацыя мясьціны зьвязана з функцыяй мэмарыялізацыі. Міт, прывязаны да пэўнага прыроднага аб'екта, мусіць фіксаваць значы-

мыя для народа гістарычныя падзеі ва ўмовах браку пісьмовай летапіснай традыцыі ці немагчымасьці свабодна сьцьвярджаць уласную вэрсію гісторыі. Прасторы сакральнага — прасторы памяці (як гістарычнай, так і мітапаэтычнай) — супрацьпастаўленая *прастора цывілізацыі* або штодзённасьці, якая маркіраваная назвамі гарадоў, вёсак і маёнткаў.

Найменш стабільна рэальнасьць у раёне азёр — вокнаў паміж рэальным ды ірэальным. Аднак дастаткова аднаго толькі адлюстраваньня храма ў азёрнай вадзе, каб суцішыць інфэрнальнае. Беларускія азёры часта пазначаюць месцы агіджанай сьвятасьці — цэрквы, званы і цэлыя гарады, што праваліліся скрозь зямлю, — у Я. Баршчэўскага такім чынам праглядаецца тапаграфія беларускіх нетраў, прынамсі ўваходаў у прадоньне Беларусі. Азёры — гэта месца лёсаваньня, розыгрышу шанцаў. Няўстойлівасьць рэальнасьці, балянсаваньне паміж сапраўднасьцю і тагабочным, можа прыводзіць тут як да нечуваных катастроф, так і выйгрышаў. Таму ў сьвеце шляхціца Завальні ідзе барацьба за азёры з прыхаднямі і чарнакніжнікамі.

У гарадах адбываецца стабілізацыя рэальнасьці ці здаровага сэнсу. Чыньнікам стабілізацыі паводле перакананьняў герояў кнігі Я. Баршчэўскага зьяўляецца наяўнасьць у гарадах божых храмаў і сьвятых айцоў. Прычым эфэкт стабілізацыі рэальнасьці залежыць ад пэўных колькасна-якасных парамэтраў. Чым больш храмаў, тым лепш. Асабліва добра на стабілізацыю рэальнасьці ўзьдзейнічае наяўнасьць у месцы айцоў-езуітаў.

Паветра горада вызваляе чалавека ад прымхаў. Дакладней, пераводзіць містычныя інфэрнальныя эпізоды ў разрад баек. Так, віцябляне высьмейваюць містычную гісторыю з панам Генрыкам, у якога крычалі на галаве валасы. У Полацку зьмяняецца

да лепшага, робіцца нармальнай і ўрэшце памірае па-хрысьціянску Варка Плаксуніха — дачка вясковай варажбіткі. Аднак падобнае ўзьдзеяньне гарадоў выяўляецца ў дачыненьні інфэрнальнага, што мае мясцовае паходжаньне. Перад замежнымі фармазонамі і чарнакніжнікамі насельніцтва беларускага гораду безабароннае.

*2009*

# МАЛЕНЬКІ СШЫТАК

*Маленькі сшытак Лявона Вашка: Першы выпуск. — Масты–Полацак–Менск, 2000. — 200 с.*

«Маленькі сшытак Лявона Вашка» — альманах аднаго аўтара. Падобная ініцыятыва мае сталую традыцыю — і «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага, і «Крывіч» В. Ластоўскага былі аўтарскім прадуктам. Сама Беларусь паўставала як індывідуалістычны праект, народжаны ў шляхецкіх засьценках ды «літхутарах», — тканка культуры вынікала зь ідэальнай субстанцыі «сноў пра Беларусь». Менавіта «сны» складаюць першы разьдзел «Маленькага сшытку Лявона Вашка». Неспакойнае сьненьне ў мастоўскага аўтара, поўніцца яно акрутнымі сцэнамі зь беларускага літаратурнага жыцьця. Апошняе дае Лявону Вашко досыць матэрыялу для містычных разваг на ягоныя ўлюбёныя тэмы — «богадэманізм» і «трупалюбства». Можа падацца, што ў Л. Вашка імя д’ябла згадваецца часьцей, чым Бог, але паводле аўтарскай лёгікі — Мова, Радзіма, Душа — таксама імёны боскага: «Нават калі ў мастацкім творы анічога няма апрача, як у-кароткага, ці проста коскі, але коскі, напісанай па-наску, па-беларуску, дык твор гэты ўжо сьвятакаштоўны». Гэта як бы яшчэ адна варыяцыя дыдактычна-школьнага «не пакідайма мовы беларускай». Зрэшты, «Сшытак» атрымаўся кнігай анты-клясычнай і анты-хрэстаматыйнай, што выяўляецца ў шырокім дыяпазоне ад экспэрымэнтаў з граматыкай і да стылістычных навацый. Нававынайдзены экспэрымэнтальны жанр «снатворчасьці» прадстаўляе Вашку надзвычайныя магчымасьці для неабмежаванага самавыяўленьня. Але, мажліва, мае рацыю

клясык македонскай літаратуры Слаўка Янеўскі: «Сны — частка цябе, аднак унікай іх, калі поўняцца яны цемрай». Нельга не спачуваць сатырычнаму патасу «Сшытка», скіраванаму супраць манаполіі ў культуры — манаполіі намініраваць, легітыміраваць ды расстаўляць акцэнты. Ня важна, адкуль ідзе такая тэндэнцыя — ад дзяржавы або андэрграўнду. Аднак манаполіі на «простыя ды ясныя» ісьціны відавочна не можа больш трываць, — у наша жыцьцё ўвайшоў Інтэрнэт. Варта адзначыць, Лявон Вашко зьяўляецца адным зь піянэраў беларускай літаратурнай віртуальнай прасторы.

У наступным за «снамі» разьдзеле «Сшытку» паўстаюць «лісты» Лявона Вашка да знаных асобаў Беларусі і сьвету. Сярод яго адрасатаў — А. Аркуш, Б. Клінтан, кіраўнік «Дайновы» А. Палюховіч і шэраг іншых. Адной з галоўных інфармацыйных нагод ліставаньня зьяўляецца «скарынаўская ініцыятыва». Вашко лабіруе ў самых шырокіх колах ідэю ўтварэньня выдавецкага каапэратыву. Апошні, паводле задумы аўтара, можа паўстаць на складкі ўсяго дваццаці аматараў прыгожага. Што ж, будзем пільна сачыць за разьвіцьцём падзей і чакаць наступнага выпуску «Сшытка».

*Калосьсе, 2000*

# ХЭПЭНІНГ «ПРЫСУД»

*Ф. Кафка. Прысуд: апавяданьні і мініятуры / Пер. Л. Баршчэўскага, прадм. П. Васючэнкі. — Мінск, 1996.*

Ужо колькі стагоддзяў мінула, як вынайшлі кнігадрукаваньне, але посьпех і друкарская фарба ўсё яшчэ маюць аднолькавы пах. Няма, здаецца, гэткай журбы, якая не дэзадаравалася б гэтым старасьвецкім водарам славы, — не ўлагодзілася б, адбіўшыся ў друкаваных радках. Таму, калі рукапіс ператвараецца ў кнігу, яе старонкі неўнікнёна насычаюцца духам жыцьцесьцьвярджэньня.

Якім змрочным і гермэтычным не падаваўся б тэкст, сам факт яго зьяўленьня сьведчыць аб чарговай перамозе творчасьці над паняверкай, дэпрэсіяй, нябытам. Апошняе гледзішча ня мог не ўлічыць Макс Брод, калі, насуперак пажаданьню Франца Кафкі, наважыўся друкаваць яго творы.

Кожная кніга мае свой лёс, і таму, мусіць, не выпадкова беларускім перакладчыкам Ф. Кафкі стаў менавіта Лявон Баршчэўскі, а, да прыкладу, не Васіль Сёмуха. Л. Баршчэўскі спэцыялізуецца на перакладах нямецкамоўнай клясыкі, ігнаруючы літаратурную моду. Зразумела, што і гэты пераклад Ф. Кафкі ня зробіцца той Кнігай, якую панясе ў сваіх заплечніках легендарны мільён. Аднак калі Л. Б. узяўся за перастварэньне Ф. Кафкі, дык можна быць упэўненым, што творы апошняга ўжо пазбавіліся сэнсацыйнай аўры і надзейна асталяваліся на залатой паліцы сусьветнай клясыкі.

З гэткай сапраўды самаахвярнай для перакладчыка пазыцыяй можа працаваць толькі чалавек, які

непахісна ўпэўнены ў будучыні беларускага слова і ўважае за лепшае не падпадаць кан'юнктуры, а фарміраваць яе самому. Магчыма, таму Л. Баршчэўскі не абмяжоўваецца толькі культурніцкім чынам і прымае сталы ўдзел у палітычным жыцьці сучаснай Беларусі.

Лявону Баршчэўскаму нельга закінуць абвінавачаньне, што ён зьяўляецца палітыкам у культуры або культурнікам у палітыцы; ва ўсіх сваіх праявах Л. Б. — аўтэнтычны, але яго грамадзкая дзейнасьць усё ж адбіваецца на літаратурных занятках і ўтварае нейкую новую практыку — дзею-хэпэнінг у межах асобнай краіны.

*Калосьсе, 1998*

# БЕЛАРУСЬ ЯК РАМАН

*С. Дубавец. Вострая Брама. Беларускі культурны кантэкст на мяжы стагоддзяў. Выбраныя перадачы Радыё Свабода (1997–2004). — Радыё Свабода, 2005. — 520 с.*

Гісторыю Францыі ведаюць па раманах А. Дзюма. На польскую мінуўшчыну глядзяць вачыма Г. Сянкевіча. Так стваральнікі «лёгкага жанру» далучыліся да праектаваньня сучасных нацыянальных ідэнтычнасьцяў. Хіба толькі два народы прыкметна выпадаюць з мэйнстрыму: рускія, загадкавасьць нацыянальнай душы каторых фундуюць раманы Ф. Дастаеўскага, і беларусы, сьвядомасьць якіх дагэтуль агортвае паэтычная смуга, што маскіруе часам няведаньне свайго. Вялікае бачыцца на адлегласьці, упершыню цэласна і дэтальна Беларусь удалося ахапіць паэтычным зрокам з рускага Яраслаўля Максіму Багдановічу. Пазьней калегі з «Нашай Нівы» зладзілі для паэта экскурсію на Радзіму, паказалі музэйныя сховы Вільні. Вось прыкладна ў аб'ёме ўбачаных паэтам на гэтай экскурсіі экспанатаў беларускі нацыяналіст і ведае сваю Радзіму.

Гэта паэтычная рэчаіснасьць мае два полюсы: сакральнае, урачыстае і супрацьлегласьць — прафаннае, блюзьнерскае. Мы знаходзім сябе недзе пасярод — паміж беларускім небам і беларускай багнай — у хлудзе чужынскай мас-культуры. Пагражаць небу ці асушаць балоты недарэчна, пакуль не вымецены з хаты хлуд. Не стварыўшы ўласны «лёгкі жанр», прадукт «сярэдняга ўзроўню», мас-культ, мы будзем асуджаны заставацца ў смузе паэтычнай няпэўнасьці, якая маскіруе няведаньне свайго.

Як бачыцца, Сяргей Дубавец займаецца праектаваньнем культурнай прасторы для разгортваньня падобнага праекту — ён выхоўвае айчынны буржуазны густ. Прынамсі ў падобным ракурсе прачытваецца яго алегорыя аб эўрарамонце ў «хрушчоўцы». Нават яго тэза аб арыстакратызьме беларускай культуры таксама слугуе кшталтаваньню сьветапогляду сярэдняй клясы. Арыстакратызм — прадмет прэтэнзій буржуазіі.

Што супольнага паміж гістарычным чытвом Дзюма і творчасьцю Дубаўца? Перадусім, мітатворчасьць. Па-другое, індустрыяльны размах — «Вострая Брама» выходзіць на хвалях «Свабоды» ужо восьмы год. Вядома, у XXI стагодзьдзі прадуцыраваць раманы ў стылі Дзюма — несамавіта. На зьмену жанру «плашча і шпагі» прыйшоў «інтэлектуальны дэтэктыў». І тут беларусы не спазьніліся. Мы маем дыхтоўныя тэксты, якія трымаюцца на інтэлектуальнай інтрызе, — «Шукаецца клясык» Г. Кісялёва, «Загадка Багдановіча» М. Стральцова. І ў гэтым шэрагу «Вострая Брама» Дубаўца — інтэрактыўны раман з працягам, галоўнай гераіняй якога ёсьць Беларусь. Дэтэктыўная інтрыга трымаецца на таямніцы яе паходжаньня. Як і ў крымінальна-авантурным аповедзе, у гэтай гісторыі не абыходзіцца без ахвяраў, катаў і герояў. Яна мае містычна-авантурны падтэкст, у кулюарах фігуруюць рыцары, масоны, езуіты.

Раман-фэльетон XIX стагодзьдзя, ускосным наступствам стварэньня якога ў Францыі зьявілася фармаваньне масавай гістарычнай сьвядомасьці, быў ня толькі новым папулярным жанрам, але і наватарскай тэхналёгіяй. «Вострая Брама» — таксама экспэрымэнт у імя прарыву да незаангажаванага нацыянальна-культурнай тэматыкай спажыўца, пасярэднік паміж айчыннай гуманітарнай навукай і масавай сьвядомасьцю.

Дубавец адпрэчвае ляўры ідэоляга беларускага нацыяналізму, прэзэнтуючы сябе як літаратара. Але праўдзівы партрэт беларускага нацыяналіста пакаленьня next без дубаўцоўскай «Нашай Нівы» ў руцэ будзе няпоўным. Мы памятаем нашаніўскую публіцыстыку другой паловы 90-х, якую можна аб'яднаць пад адзіным гаслам — «Ня зломіш!». І цяперашнія тэксты гэтага аўтара вызначаюцца выразнай грамадзянскай інтанацыяй.

Беларусь Дубаўца цікавая і небясьпечная. Яе гісторыя — авантурнае чытво, інтэлектуальная прыгода. Верасовыя пусткі, якія зачароўваюць нас у тэкстах Стывэнсана, — тыповы паўночнабеларускі ляндшафт — асвойтваюцца айчыннымі героямі. Кансьпіралягічныя павароты беларускіх сюжэтаў анічым не саступаюць вастрынёй інтрыгам мушкетэрскіх показак Дзюма. Беларусь — гэта чытэльна. Яе насяляюць пэрсанажы, поўныя жарсьці, але рухае імі не карысьць, а фаўстаўская цікаўнасьць да сьвету. Беларусь — гэта не банальнае.

Разам з апавядальнікам мы выпраўляемся ў вандраваньні — Лёндан, Парыж, Нью-Ёрк, каб і там знайсьці Беларусь.

У суплёце разнастайных тэмаў ёсьць у кнізе Дубаўца важная сюжэтная лінія, якую можна назваць «сямейная хроніка». Яна прысьвечана гісторыі дужай беларускай радзіны на прозьвішча Карлеонэ. Яе шматлікія атожылкі бавяцца лірыкай, дзеляцца на гомельскіх і партызанаў, калекцыяніруюць замест скальпаў рукапісы палеглых апанэнтаў. Ня ўсё мы ведаем, многія таямніцы хавае ружовы туман. Такім паўстае на старонках «Вострай Брамы» карціна літаратурнага працэсу ў Беларусі 1920–1970-х гадоў.

Шматгалосьсе ў «Вострай Браме» падтрымліваецца рупнасьцю супрацоўнікаў праекту: Севярына Квяткоўскага, Сяргея Харэўскага, Зьмітра Бартосіка,

Андраніка Антаняна, а таксама хора мінакоў на менскіх вуліцах.

Аўтар уключае ў поле беларускай культуры знакавыя падзеі, герояў і ідэі сусьветнай культуры: Сэлінджэр, Кізі, Прэсьлі. Такім чынам ствараецца кантэкст, закладаюцца каардынаты нармальнасьці. Выбар пэрсанажаў і твораў абмяжоўваецца збольшага культурнымі іконамі 1960–1970-х. Дубавец застаецца адданы свайму пакаленьню, яго эстэтычным густам. Аўтару даюцца жаночыя вобразы: Арсеньнева, Сарот, Пэгі Лі, Беларусь.

Безумоўна, «Вострая Брама» — віленская кніга. Дубавец мае сантымэнты да Літвы. Але яго Вэкаэл, падаецца, была створана сынтэтычным шляхам як антытэза Бээсэсэру, нічога агульнага з краёвым ліцьвінскім патрыятызмам XIX — пачатку XX стагодзьдзя яна ня мае. Вядома, калі адбывалася лёсаваньне гістарычных шанцаў, у Літвы было болей падстаў перамагчы. Але менавіта Беларусь стала ўсё ж тым лятарэйным квітком, на які выпаў для нашага народу супэрпрыз — Незалежнасьць. Пад іменем Беларусі мы сталі вядомымі сьвету. Беларусь — імя нашага выйграўшага шанцу, і за яго нам трэба трымацца.

Чым больш чытаеш выказваньняў пра Беларусь, тым выразьней усьведамляеш, што гаворка ідзе пра розныя краіны. Сама мала іх дзьве. Адна — Беларусь як мэта. Другая Беларусь — дыягназ. Тых, хто спавядаюць першую Беларусь, адрозьнівае тэхналягічнасьць, праектнасьць мысьленьня, рацыяналізм. Яны вылучаюць з гісторыі ўзоры пасьпяховасьці, каб насьледаваць іх на беларускай глебе. Для другіх Беларусь — як радзімая пляма, таўро — імя іх бядот. Дубавец належыць да першых. Ён ведае сакрэт цуду і застаецца верным свайму алхімічнаму праекту.

*Arche, 2006*

## БОЛЬШ ЧЫМ ГОРАД

*Полацк. Фотаальбом // Аўтар-укладальнік І. Каліноўскі, фота Э. Цецярэўскага. — Мінск: Беларусь, 2004.*

Рэспубліка Беларусь паўстала на стыку двух тэкстаў: мастацкага — «Шляхціца Завальні» Яна Баршчэўскага ды юрыдычнага — «Дэклярацыі аб Незалежнасьці».

Пераход постсавецкага грамадзтва ад засваеньня гэтай тэкставай прасторы да асвойваньня прыроднага і сацыяльна-культурнага ляндшафту новай незалежнай краіны адбываецца паволі. Як вынік, звыклымі асацыяцыямі ў нашага суайчыньніка застаюцца наступныя ланцужкі: помнік архітэктуры — Крэмль, вежа — Астанкінская, дрэва — бяроза. Беларус — пан сахі і касы.

Разрыў паміж Беларусьсю, вядомай нам паводле паэтычна-ўзьнёслай рыторыцы папулярызатараў гісторыі, і Беларусьсю, бачнай за фіранкай экскурсійнага аўтобуса, уражвае. Мы ўжо ўмеем расказваць, але яшчэ не даем рады выгодна паказаць сябе. Беларуская ідэя паўстае ў бляску міталёгіі і мізэрнасьці іканаграфіі. Гэта Беларусь кніжная, Беларусь кніжнікаў.

Заклік «Тутэйшых» у 80-х мінулага стагодзьдзя да стварэньня папулярнага беларускамоўнага чытва сёньня варта было б перафармуляваць: кожнай вёсцы — па ўласнаму фотаальбому. Выдавайма паштоўкі зь беларускімі краявідамі, каб ня ўмёрлі. Візуалізацыя паэтычных нацыянальных сымбаляў, ідэалу незалежнай краіны — актуальная праграма дзеяньня для айчыннай індустрыі турызму ды мас-

культуры. Зямля пад белымі крыламі чакае кваліфікаваных у пытаньнях культуры ўласнай краіны вандроўнікаў з фотакамэрамі, балазе сучасная лічбавая тэхніка падобнае паломніцтва дужа спрашчае.

Полацку ў пэўнай ступені тут пашэнціла больш. Сафійскі сабор ды Барысаў камень даўно сталі айчынным эквівалентам Эйфэлевай вежы, прэзэнтуючы ў сьвеце беларускі стыль. Але побытавая культурная прастора гораду засталася ў засені манумэнтаў. Полацку як сыстэме самабытных лёкусаў яшчэ належыць у будучыні быць ня толькі асэнсаваным, але і «абжытым» айчыннай навуковай і мастацкай думкай.

Фотаальбом Івана Каліноўскага й Эрнста Цецярэўскага «Полацк», што выйшаў у выдавецтве «Беларусь» у 2004 годзе накладам 3000 асобнікаў, прадстаўляе новы фармат гэтага старажытнага месца.

На фотаздымках паўстае горад-загадка, горад-містэрыя, які шмат бачыў, шмат ведае, але не сьпяшаецца выдаваць свае таямніцы. Горад як інтэлектуальная прыгода, картаграфія якога падначалена ня столькі законам горадабудаўніцтва, колькі інтрыгам і фантазіям гісторыі.

Імпануе ракурс, у якім паўстаюць гарадзкія краявіды, сьцёртыя ад шматлікага тыражаваньня на паштовых марках, значках ды паштоўках і цяпер нібыта рэстаўраваныя фатографам. Падобны эфэкт ствараецца не ў апошнюю чаргу дзякуючы адмысловай падсьветцы на фотаздымках, крыніца якой знаходзіцца долу, нібыта сьвет ідзе з самой зямлі, полацкай зямлі, з глыбіні яе вякоў.

У альбоме не сустрэнеш эпатажу ці экзотыкі — маргінальнага, андэрграўнднага Полацку. Гэта парадны партрэт гораду, першай сталіцы беларускай дзяржавы, і дадзены жанр вытрыманы аўтарамі кнігі прафэсійна-бездакорна. Адпаведна няма на яе

старонках і стамляючай эрудыцыі. Горад паказаны ў межах, калі можна так сказаць, школьнай праграмы, яго прэзэнтуюць хрэстаматыйныя аб’екты, якія лёгка апазнаюцца сярэднім абывацелем: гэта культавыя пабудовы, помнікі вялікім землякам. Клясычны стыль места акцэнтаваны зьмешчанымі ў кнізе старымі паштоўкамі з калекцыі Вячкі Целеша.

Сучасныя культурныя актуаліі прадстаўлены факультатыўна — няма фотаздымкаў каменя ТВЛ, дуба Ластоўскага. Магчыма, тэхналягічныя абмежаваньні выхаду кнігі не дазваляюць пасьпяваць за дынамічнымі тэмпамі зьменаў культурных краявідаў сучаснага Полацку. Цяжка закінуць аўтарам фотаальбома ідэалягічную ці канфэсійную заангажаванасьць — на старонках кнігі прысутнічаюць праваслаўныя і каталіцкія сьвятыні, хрысьціянскія і язычніцкія артэфакты, крыжы і камяні.

Упрыгожваюць кнігу панарамныя здымкі. Вока сягае далёка за межы гораду, да ляснога далягляду, усьлед дзьвінскай плыні. І гэта сымбалічна — Полацк заўжды быў больш, чым толькі горад, маркіруючы сваім іменем прастору ад Смаленску да Рыгі.

Краязнаўцы з нагоды разбурэньня ў горадзе камяніц сярэдзіны мінулага стагодзьдзя наракаюць, што выгляд Полацку амаль цалкам зьмяняецца на працягу жыцьця аднаго пакаленьня. Мяркую, аўтары фотаальбома ўсё ж патрапілі паказаць тое, што нязьменна ў прыродзе Полацку, — яго пекнасьць, узяўшы ў сьведкі непадуладнае руйнаваньню — неба, Дзьвіну, бель сьнегу на стрэхах полацкіх дамкоў.

* * *

Вы з правінцыі і толькі нядаўна прыехалі ў старажытную сталіцу? Шукаеце праваднікa па месцах моцы, пунктаў таго-дзе-адбываецца? Адкладзіце кнігу ўбок. Вамі ніколі не патрапіць у Полацк такім чынам. Чакайце, горад прыйдзе ў вашы сны і вы самі станеце тады месцам-дзе-адбываецца-Полацк.

*Arche, 2006*

# ШТОДЗЁННАЕ ЖЫЦЬЦЁ СТУДЭНТАЎ ПОЛАЦКАЙ АКАДЭМІІ

Полацкая езуіцкая акадэмія (1812–1820) разам з Горы-Горацкім земляробчым інстытутам (1848–1864) — найстарэйшыя вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі. Менавіта ў іх мурах фарміраваліся традыцыі беларускага студэнцтва. Аднак дыскрэтны характар гісторыі вышэйшай адукацыі ў Беларусі прывёў да занядбаньня гэтага вопыту. Як вынік, сучасныя беларускія студэнты выкарыстоўваюць пераважна чужыя культурныя формы, кшталту сьвяткаваньня Тацьцянінага дня. Бачыцца таму актуальнай задача рэканструкцыі традыцыйных завядзёнак дадзенага пласту нашай сацыяльнай культуры.

На жаль, захавалася мала сьведчаньняў з побыту старога беларускага студэнцтва. Асабліва мізэрныя нашы веды аб жыцьці навучэнцаў Полацкай езуіцкай акадэміі. Таму кожная новая крыніца павінна найхутчэй даводзіцца да ведама як навуковых, так і шырокіх грамадзкіх колаў. Такім адкрыцьцём для айчыннага чытача могуць стаць мэмуары выхаванца Полацкай езуіцкай акадэміі Эдварда Тамаша Масальскага (1799–1879), вядомага пісьменьніка, аўтара «першага айчыннага сацыяльнага рамана» «Пан Падстоліч» (у 5 тамах на польскай мове ў 1831–1833, у 4 тамах у перакладзе на рускую мову — 1833–1834).

Э. Масальскі вучыўся ў Полацку з 1816 года і да закрыцьця Акадэміі ў 1820-м. Разам зь ім тут знаходзіліся і два яго родныя браты — малодшыя

Караль і Юзаф. Апошні вядомы сучасным гісторыкам літаратуры як аўтар паэтычнага зборніка «Паэзія». Пасьля закрыцьця полацкай Alma mater Э. Масальскі накіраваўся ў Віленскі ўнівэрсытэт. Параўноўваючы гэтыя дзьве ўстановы, аўтар мэмуараў адзначаў больш сучасны ўзровень выкладаньня ў Вільні, аднак падкрэсьліваў, што ў Полацку існавала прывабная маральная атмасфэра як сярод студэнтаў, так і выкладчыкаў. Менавіта ў рэакцыі на дэмаралізацыю акадэмічнага асяродка Вільні Э. Масальскі бачыў прычыну стварэньня філярэцка-філяматцкіх суполак. Масальскія прынялі актыўны ўдзел у гэтых нефармальных структурах і неўзабаве трапілі ў эпіцэнтар падзеяў, зьвязаных з урадавым перасьледам філяматцкай моладзі.

Э. Масальскі падкрэсьлівае вялікае значэньне вопыту і сяброўскіх сувязяў, набытых ім у Полацку, згадваючы з асаблівым лірызмам гэты пэрыяд свайго жыцьця. Сярод полацкіх студэнтаў, якія вучыліся з аўтарам мэмуараў і вызначаліся сваімі здольнасьцямі, называюцца імёны Даната Жаброўскага, Канстантыя Сербіновіча, Пятра Ельяшэвіча, Гаўдэнтыя Шапялевіча і Яна Баршчэўскага.

Штодзённы побыт студэнтаў Акадэміі адрозьніваўся ў залежнасьці ад эканамічных магчымасьцяў навучэнцаў. Студэнты, што валодалі дастатковымі сродкамі, каб здымаць прыватныя кватэры, мелі больш свабоды ў параўнаньні са сваімі таварышамі, якія жылі ў езуіцкім канвікце — кшталту недарагога пансіёна. У апошнім існавалі абавязковыя правілы ўнутранага распарадку, напрыклад, прадугледжваліся пазашкольныя заняткі, рэглямэнтаваўся час абуджэньня і адбою, прыняцьця ежы, малітваў і пасту.

Ураджэнец Міншчыны Э. Масальскі належаў да адносна заможнай сям'і. У першы год свайго навучаньня браты Масальскія знайшлі ў Полацку кватэру

і стол ва ўдавы кандытара італьянкі Машынскай, а на другі год да іх паслуг быў ужо амаль цэлы паверх вялікага дому — трохпакаёвая кватэра зь вітальняй, да якой прымыкала вялікая заля для танцаў. Гэта паспрыяла таму, што апартамэнты Масальскіх неўзабаве ператварыліся ў нефармальны студэнцкі клюб, заўсёднікамі якога зьяўлялася каля дваццаці навучэнцаў. Апошнія зьбіраліся тут для сумеснага цьвічэньня навук, аднак звычайна гэта была толькі нагода для забаваў.

Браты Масальскія пад пратэкцыяй сясьцёр прэфэкта ксяндза-езуіта Снарскага, непасрэднага кіраўніка навучальнага працэсу ў Акадэміі, і жонкі свайго знаёмага, наглядчыка полацкіх водных камунікацый на Дзьвіне Хведара Масальскага, арганізавалі «танцавальны гурток». Ад імя шаноўнай пані Масальскай для навучаньня танцам былі запрошаны палачанкі, жонкі мясцовага чыноўніцтва з дочкамі, а таксама мясцовыя немкі-купчыхі. Гэтыя закансьпіраваныя з увагай на строгі езуіцкі кантроль балі займелі вялікую папулярнасьць сярод полацкіх студэнтаў. Балі былі надзвычай прыстойныя і сьціплыя, пад час пасту яны касаваліся ўвогуле. Пары паважна танцавалі пад фартэпіяна. На агульныя складкі ладзіўся пачастунак: звычайна ў мізэрнай колькасьці віно, а таксама гарбата і здоба.

Былі сярод студэнтаў і заўзятыя шалапуты, аматары карт і розных іншых заганных у езуіцкіх мурах забаваў. У Акадэмію яны хадзілі толькі для формы, шукаючы прыгод і весялосьці. Апошнія былі ў асноўным выхадцамі з тутэйшых дробнашляхецкіх сямей, якія традыцыйна разглядалі езуіцкае навучаньне толькі як сродак набыцьця сьвецкага полеру.

Свой вольны час студэнты выдаткоўвалі, аднак, ня толькі на забавы. Жадаючыя бралі прыватныя курсы. Э. Масальскі апісвае падобныя зборні, якія таксама па зьбегу акалічнасьцяў адбываліся ў яго

кватэры. Да Масальскіх прыходзіў англійскі яўрэй, агент Біблейскага Таварыства Маркс і даваў жадаючым з дазволу езуітаў урокі англійскай і яўрэйскай моваў.

Сьціслы характар выкладу навук у езуітаў дазваляў старанным студэнтам наведваць адразу некалькі курсаў. Так, Э. Масальскі пасьля атрыманьня патэнту на ступень кандыдата на трэцім годзе свайго навучаньня праслухоўваў лекцыі на матэматычным і юрыдычным аддзяленьнях, працягваючы таксама студыі грэчаскай і яўрэйскай моў.

Сярод студэнтаў вылучалася некалькі груп паводле іх стаўленьня да навукі. Для адных навучаньне ў Акадэміі была сродкам зрабіць духоўную ці выкладчыцкую кар'еру. Яны былі згрупаваны ў асноўным на тэалягічным факультэце. Ступень доктара багаслоўя давала таксама права на чыноўніцкі ранг восьмага кляса. Сюды таксама запісваліся асобы, якія хацелі займацца навукай, — як лічылася, тут былі лепшыя лектары.

Другая «партыя» — моладзь, схільная да гуманітарных дысцыплін і мастацтва. Іх густам больш адпавядаў факультэт свабодных навук. Пад час навучаньня Э. Масальскага тут было тры аддзелы: 1) уласна «вызваленых навук» (выкладалася мастацтва рыфмаваньня, красамоўства, усеагульная гісторыя, гісторыя старажытнасьці, малюнак, музыка і іншае); 2) філязофскі аддзел (лёгіка, мэтафізыка, дыялектыка, этыка, натуральная тэалёгія разам з чыстай і практычнай матэматыкай, фізыка, хімія і натуральная гісторыя); 3) юрыдычны аддзел (натуральнае права, кананічнае права, рымскае, краёвае цывільнае і крымінальнае права разам з судовым працэсам). На першых двух аддзелах выкладаньне вялося на лаціне і вызначалася схалястычнасьцю. На юрыдычным — частка прадметаў («літоўскі статут»

і «судовы працэс») чыталіся па-польску, выкладчыцкі склад тут, як адзначае Э. Масальскі, быў найбольш слабым у Акадэміі.

Пасьля іспытаў першага году навучэнцы атрымлівалі ступень студэнта пэўнага факультэту і разьязджаліся на вакацыі па дамам. Пасьля іспытаў другога года пасьпяховыя студэнты атрымлівалі патэнт кандыдатаў абраных навук і частка на гэтым спыняла сваю адукацыю ў езуітаў. Пасьля трэцяга году здаваліся іспыты на годнасьць магістра. Навуковыя ступені Полацкай акадэміі прыраўноўваліся да адпаведных ступеняў расійскіх унівэрсытэтаў і давалі права на пэўныя рангі пры паступленьні на чыноўніцкія пасады. Аднак у 1819 годзе, калі Э. Масальскі атрымаў годнасьць магістра, царскім загадам гэтае палажэньне было адменена. Езуіты трапілі ў няміласьць. Аднак загад не агалошваўся шырока сярод чыноўніцтва, і, як сьведчыць Э. Масальскі, гэта давала студэнтам шанц атрымаць усё ж належны кляс на дзяржаўнай пасадзе. Гэтым пасьпелі скарыстацца шэраг полацкіх выпускнікоў, якія традыцыйна пасьля заканчэньня Акадэміі шукалі чыноўніцкія вакансіі ў Пецярбурзе. На чацьвёрты год навучаньня заставаліся пераважна асобы, якія зьбіраліся зьвязаць свой лёс з Ордэнам і атрымаць навуковую годнасьць доктара. Сярод апошніх быў і Э. Масальскі, хоць бацька і забараніў яму думаць аб духоўнай кар’еры.

На чацьвёртым годзе сваёй адукацыі ў першых тыднях 1820 года калегі абралі Э. Масальскага на пасаду прэфэкта садалісаў — кшталту студэнцкіх старастаў — лепшых вучняў. Гэта лічылася надзвычай ганаровай пасадай. Першым прэфэктам полацкіх садалісаў быў Стэфан Баторы, дзякуючы якому полацкі езуіцкі калегіюм быў заснаваны ў 1581 годзе — трэцім пасьля Віленскага і Нясьвіскага. Пасьля Баторыя гэту пасаду займалі буйныя мясцовыя чыноўнікі і выбітныя вучні.

Урачыста выглядала цырымонія ганараваньня прэфэкту садалісаў. Прэфэкта садзілі на трон у полацкім храме сьв. Стэфана. Перад ім на зэдліках сядзелі віцэ-прэфэкты і асыстэнты. Адзін з лепшых вучняў прамаўляў да прэфэкта арацыю. Прэфэкт меў права раздаваць патэнты новым садалісам. Ён таксама мусіў кантраляваць непасрэдна іх паводзіны. Прэфэкт садалісаў перадаваў езуіцкаму кіраўніцтву сьпісы беднай моладзі на стыпэндыю касы садалісаў, што зьбіралася на грошы ад продажу грамнічных сьвечак. Сьвечкі развозіліся прэфэктам разам з садалісамі па дварах мясцовага дваранства, і такім чынам зьбіраліся неабходныя сумы для стыпэндыі.

Напрыканцы зімы 1820 года памёр генэрал ордэна езуітаў Т. Бжазоўскі, што паскорыла працэс ліквідацыі дзейнасьці езуітаў на землях Расійскай імпэрыі. Мінула толькі некалькі дзён пасьля пахаваньня Т. Бжазоўскага, як вечарам перад вялікодным сьвятам, калі навучэнцы звычайна разьяжджаліся па дамам, у Полацку пачуўся гоман, і студэнты даведаліся, што рота жандараў атачыла муры езуітаў. Днём выявілася, што губэрнскім царскім чыноўнікам апячатаны ўсе езуіцкія ўстановы: бібліятэкі, фізычны кабінэт, музэй, друкарня, фабрыка сукна, склады, кладоўкі і рызьніцы. Езуітам абвясьцілі загад аб іх тэрміновай высылцы за мяжу. Студэнтаў распусьцілі па дамах. Як сьведчыць Э. Масальскі, выезд езуітаў з Полацку выклікаў узрушэньне сярод палачан, якія натоўпам зь лямантам суправаджалі кожную езуіцкую брычку. Пачаўся рабунак полацкага калегіюма губэрнскім віцебскім чыноўніцтвам, выкарыстоўваючы няпэўную сытуацыю, прысвойваліся матэрыяльныя запасы — збожжа, віны, сукно. Царкоўнае начыньне, кнігі, навучальны рыштунак перадаваліся дамініканам. Як піша Э. Масальскі, езуітам удалося схаваць архіў сваёй касы з расьпіскамі

даўжнікоў, якія складалі значную частку мясцовага дваранства, што дазволіла выратаваць ад экспрапрыяцыі аграмадныя багацьці.

Езуітам таксама, па сьведчаньню Э. Масальскага, удалося схаваць і вывесьці дванаццаць тысяч тамоў польскамоўнай бібліятэкі і кабінэт старажытнасьцяў, што ўтрымліваў каралеўскія рэгаліі розных часоў і народаў, прадметы ювэлірнага мастацтва і іншае. Перад сваім выездам езуіты выдалі вучням пасьведчаньні аб сканчэньні Акадэміі і прысваеньні навуковых ступеняў, залічыўшы ім няскончаны вучэбны год. Езуіты пакідалі на памяць сваім студэнтам сотні ўнікальных тамоў з уласных бібліятэк, якія не было магчымасьці вывезьці. Адзін толькі Э. Масальскі атрымаў цэлую падводу з кнігамі езуітаў, а таксама партрэт Баторыя ў поўны рост зь езуіцкай трапэзнай.

Сьведчаньні Э. Масальскага зьяўляюцца каштоўнай крыніцай, здатнай значна пашырыць нашы веды аб побыце беларускага студэнцтва першай чвэрці XIX стагодзьдзя. Пэўныя зьвесткі зьяўляюцца ўнікальнымі. Напрыклад, мы даведаліся, што ў 1819 годзе Э. Масальскі разам зь сябрамі пачаў выдаваць у Полацку літаратурны часопіс. Сярод аўтараў гэтага полацкага студэнцкага выданьня, невядомага сучасным гісторыкам беларускай літаратуры, Э. Масальскі называе імёны Генрыка Віткоўскага, Юзафа Сурына, дваіх братоў Шадурскіх, Багамольца, Аркадзя Ражкоўскага, Юзафа Касакоўскага, Рамана Лахніцкага, Караля Ваньковіча і сябе. Часопіс быў рукапісны, кожны выпуск звычайна налічваў некалькі дзесяткаў асобнікаў. На часопіс падпісваліся выкладчыкі Акадэміі і мясцовыя памешчыкі, бацькі полацкіх студэнтаў.

*Arche, 2009*

# ВЯСНА НАРОДУ

Першы нумар адноўленай «Нашай Нівы» пазначаны траўнем 1991 году. Гэта было веснавое выданьне. Орган беларускай вясны. Ня знойдзеш у газэце пачатку 90-х справаздач з фэрмэрскіх палёў ці каціровак валют. Нашаніўскія карэспандэнты спэцыялізаваліся на мэтафізыцы, паэзіі, гісторыі. І з такой пэрыядычнасьцю ды жанравым нефарматам «НН» заставалася надзённым выданьнем. З часам актуальнасьць старых нумароў толькі падвышалася — газэта выбудоўвалася навырост. Балазе, узораў футурыстычнай журналістыкі ў нашым мінулым хапала.

«НН» спачатку рабілася генэрацыяй «Тутэйшых», трыццаці-саракагадовымі, але яе аўдыторыя, для якой слова газэты гучала імпэратывам, была значна маладзейшая. Мяркую, гэта тлумачыць фэномэн выбуховай, у пляне новых імёнаў і ідэй, эпохі сярэдзіны 90-х — нашаніўскі чытач за пяць год дасягнуў паўналецьця і заявіў пра сябе. Гэта была першая дэ-факта генэрацыя грамадзян незалежнай Беларусі. Калі дагэтуль прыйсьце людзей у беларушчыну выглядала працэсам не шараговым, у кожным выпадку ўнікальным, то цяпер факт незалежнасьці краіны зрабіўся галоўным фундатарам беларускай ідэнтычнасьці. Урэшце, і «Наша Ніва» стала элемэнтам гэтай Новай Культурнай Сытуацыі. Новай для беларускага гістарычнага вопыту, шараговай для стала ўдзяржаўленых народаў.

У другой палове 90-х альманах ператварыўся ў штотыднёвік, але эсэістычны характар нашаніўскіх допісаў быў захаваны. Вопыт, а не аналітыка і надалей вызначае пазнавальны стыль нашаніўскага журналізму. Адрэналін грамадзянскага супраць-

стаяньня ператварыў многіх палітыкаў і публіцыстаў у «вечных дзяцей Беларусі», багему змаганьня. Інтуітыўныя прадчуваньні, сны аб Беларусі, а ня веда вызначалі характар іх эсэ. Ці ня гэтая ж эмоцыя вяла нас праз два прамінулыя стагодзьдзі і ператварала прадчуваньні адзінак у масавы рух? Нацыянальны рух — стыхія, пакуль ён ня зьдзейсьніць сваё прызначэньне. Быць беларусам ня вучыць сям'я, школа ці царква. Словы С. Дубаўца: «Быць беларусам — проста работа», — застаюцца актуальнымі. Быць беларусам — пэрманэнтная самаадукацыя. Хто лянуецца вучыцца быць грамадзянінам маладой незалежнай краіны, каму зацяжкія выдаткі яе першых юначых дзесяцігодзьдзяў, таго зносіць зь Беларусі і фізычна — на эміграцыю, і духоўна — у рэканструяваньне альтэрнатыўных казачных сусьветаў. Беларусь — гэта тое, што адбываецца з намі тут і зараз. Кшталт беларушчыны — сума ўсіх нашых высілкаў, ведаў, і — кампраміс, дамоўленае паміж усімі намі. Ідэальную Беларусь ніхто нам ня вінен, ідэальную Беларусь ніхто нам ня дасьць. Яна — вось, ёсьць такая, на якую заслужылі.

*2007*

# МАНСАРДЫ НАВАПОЛАЦКУ

Бульвар, які тэрасамі сыходзіць да Дзьвіны, — мара наваполацкай грамадзкасьці. Навапалачане прызвычаіліся нітаваць ідэалы зь ляндшафтам. Горад нафтахімікаў паўстаў як сфэра чыстых магчымасьцяў — на голым месцы пасярод прыдзьвінскіх сасоньнікаў. Першабудаўнік — гэта наваполацкі архетып, ён арыентаваны на выклік — прыродны, культурны, спартовы. Тут добра пачынаць новую справу. Гісторыя гораду, якая амаль цалкам зьмясьцілася паміж гадамі стварэньня «Блакітнага ліхтара» і аднаўленьнем «Калосься», — гэта летапіс пачаткаў. І пачаткоўцаў.

Ідэалягічны гештальт Наваполацку незавершаны. На яго вуліцах адсутнічаюць помнікі бальшавіцкім правадырам. Савецкая краіна мінулася, пакінуўшы ў спадчыну гораду пустыя пастамэнты. Фасад Наваполацку выходзіць на Дзьвіну тарцамі дзевяціпавярховікаў з мазаічнымі пано А. Кішчанкі — сацартаўскай познамкай, заклікаnай прэзэнтаваць індустрыяльны парыў сацыялістычнага гораду «80 нацыяў», якія мусілі легчы ў под новай, больш прагрэсіўнай 81-й — нацыі нафтахімікаў. У Наваполацку спраўдзілася Геаграфія Аркадзя Смоліча, касуючы канцэпцыю «дзьвюх Беларусяў» — Заходняй ды Ўсходняй. Менавіта гэты сплаў і дазволіў Наваполацку паўстаць адраджэнскай выспай у 80–90-х мінулага стагодзьдзя.

Гэты горад, нібы падлетак-аксэлерат, разьвіваецца ўдоўжкі, у шырыню яго можна прайсьці хвілін за дваццаць. Ён сьпярэшчаны, як тынэйджараўскімі графіці, легкадумнымі назвамі вуліц, кшталту Паркавай, Лясной, Школьнай, Дружбы — ласіных

сьцяжынаў, закатаных у асфальт. Збольшага незапатрабаванай засталася тапаніміка вёсак, на месцы якіх паўстаў Наваполацк, — Слабада, Плаксы, Васілеўцы, Падкасьцельцы, Дубрава, Козіна. Адкінуўшы заглыблены ў стагодзьдзі гісторыка-культурны кантэкст, горад пераймаецца мэсыджамі ляндшафту. У адсутнасьці артэфактаў культуры сасоньнік, працінаючы жылыя мікрараёны, робіцца чыньнікам эстэтычным, а дваровая пустка — кантэкстам гарадзкога фальклору.

Сказаць пра Наваполацк, што гэта малады горад, — нічога не сказаць. Гэта горад маладых і горад пра маладых. Горад, які мусіць зьнікнуць, зьнітаваўшыся з тысячагадовым Полацкам, мінуцца як маладосьць.

*Наша Ніва, 2000*

# ПОЛАЦКАЯ МАРКА

У індустрыі моды да 75 адсоткаў кошту прадукцыі прыходзіцца на гандлёвую марку. У мастацтве гэтыя лічбы відавочна яшчэ большыя. Колькі прыходзіцца на кошт фарбы ў агульнай цане карцін Ван Гога? Калекцыянэры набываюць ня проста палатно Пісаро, а міт парыскага fin du siecle. Мастак — прадавец паветра, каштоўнасьць якога вызначаецца тым, наколькі выразна перададзены водар часу і месца. Каб увідавочніць гэты няўлоўны аспэкт, прыходзіцца канцэнтраваць каларыт эпохі. Падобныя «кансэрвы часу» ў значнай ступені містыфікацыя.

На міт баварскага піва працуе кожны нямецкі шынок. У славе віцебскай мастацкай школы ўшаноўваецца супольны плён усёй местачковай культуры беларускага яўрэйства. Талент — вытворнае ад агульнага ўзроўню культуры свайго асяродзьдзя. Творчая рэалізацыя адпаведна залежыць ад таго, наколькі поўна патрапіць мастак сынтэзаваць традыцыю гэтай зямлі. Запатрабаваны ён будзе таксама з гледзішча на эксклюзыўнасьць. Сусьветнае мастацтва — мастацтва абарыгенаў, акцэнту. Сусьветныя сталіцы — ня столькі творчыя асяродкі, колькі біржы, на якіх вызначаюць арт-катыроўкі. Тое, што можна знайсьці ў Парыжы, ніхто не павязе з Полацку.

Бліскучая будучыня патрабуе годнага мінулага, міту пра «залатое стагодзьдзе». Самабытнасьць крыўскай сталіцы — сталіцы сьветароў, ваяроў, купцоў і студэнтаў — сэнсацыйны рэсурс, які яшчэ не актуалізаваны, але нават скрытае існаваньне гэтага ідэалягічнага комплексу ня можа не ўплываць на справы сучасных палачан. Полацк — горад жывых, і ўсе яго нэкропалі, руіны, лябірынты-клады набудуць

сапраўдную прагматычную вартасьць, закладзеную працай продкаў, толькі матэрыялізаваўшыся ў праекце сучаснага квітнеючага Гораду-краю, першай і найпершай сталіцы беларускага мастацтва, навукі і гандлю.

Клапаціцца пра славу свайго Імя, пра непарыўнасьць традыцый Роду, прэстыж уласнага Дому — найлепшае капіталаўкладаньне. Тысячагадовы Полацк быў сьведкам і перажыў усе дзяржаўныя фармацыі, што зьмяняліся стагодзьдзямі. Рагнеду, Усяслава, Ефрасіньню, Францыска, Сімяона аспрэчвалі адзін у аднаго палякі, ліцьвіны, рускія. Хто яшчэ? Між тым праўда навідавоку — яны Палачане.

*Арт-сезон, 1999*

# РЭЙД У РУЖОВЫМ МАСКХАЛАЦЕ

«Цывілізаваны сьвет», праўдзячы прароцтвы Маклюэна, усё больш нагадвае глядзельную залю правінцыйнага тэатру, збудаванага ад шатні да буфэту паводле сыстэмы Станіслаўскага. Беларусам яшчэ хопіць месцаў на галёрцы, пачакайма трэцяга званка. Але дарэмна: дапытлівыя беларускія жанчыны ўжо ўступілі ў сьвет татальнай літаратуры. Калі ласка — першыя ўражаньні: новая кніга Ганны Кісьліцынай «Blonde attack».

Non fiction — стандарт гэтага літаратурнага сэзону. Прафэсіяналы пяра апранаюць запатрабаваны камэрцыйным попытам камуфляж і выходзяць у поле. Ружовыя вушкі трусіка на вокладцы зборніка крытычных эсэ Ганны Кісьліцынай «Blonde attack» могуць падмануць толькі беларускага літаратара, што пэрманэнтна выпадае з кантэксту эпохі. Для назіральнага ж сучасьніка зразумела адразу — крытык выйшаў у ружовым маскхалаце на сьцяжыну вайны. Вайны? Хутчэй «ловаў ветру», што больш адпавядае прыродзе крытычнага занятку. Што было найперш — яйка ці курыца? У дачыненьні да сучаснай беларускай літаратуры гэтае пытаньне разьвязанае адназначна. Першым быў, ёсьць і будзе крытык. «Крытык-жанчына», удакладняе Ганна Кісьліцына. «Ці не паходзіць слова “крытыка” ад назову востраву Крыт — першарадзімы фэмінізму?» — пытаецца яна на старонках эсэ «Крытыка — жаночая справа», сеткавая вэрсія якога набыла папулярнасьць і спарадзіла розгалас задоўга да сваёй папяровай публікацыі.

Ладная частка імён, што сустракаюцца на старонках кнігі «Blonde attack», для чытача, неабазнанага

ў актуаліях менскага самвыдату, гучыць як адкрыцьцё. Балазе Кісьліцына шчодра цытуе рэцэнзаваных аўтараў. Гэта нагадвае футурызм, той выпадак, калі біяграфія паўстае паперадзе бібліяграфіі. І справа нават ня столькі ў тым, што героі крытычных эсэ Кісьліцынай недастаткова эксплёатавалі друкарскі варштат, колькі ў самой прыродзе іх творчасьці. Вішнёў, Сін, іншыя сябры літаратурнай суполкі «Бум-бам-літ», што патрапілі ў калекцыю літаратурных партрэтаў «Blonde attack», пазыцыянавалі сябе як пэрформэры. Пэрформанс — што дзірка ад абаранка; каб зафіксавацца сэнсам, гэтая пустата вымагае асады «цела» крытыка — крытыка-інсьпіратара, крытыка-супольніка, крытыка-гаспадыні, што смажыць і ўзнагароджвае сваіх пэрформэраў дранікамі.

Нават Генры Мілер па-беларуску — гэта Кісьліцына плюс Мілер. Зразумела, у такой пазыцыі шмат самаіроніі, якой вымагае сама тэхніка сучаснага эсэістычнага пісьма, у адваротным выпадку робіцца задужа відавочным першаўзор гэтага жанру на постсавецкай прасторы — расейскамоўныя пераклады ангельскіх эсэ Бродзкага з усёй іх некантраляванай двухсэнсавасьцю.

Бляск і галеча сучаснага бел-літу разьмеркаваныя паводле палавой прыкметы. Бліску акурат настолькі, наколькі ў літаратуры прысутнічае жаночага — экстравэртнай скіраванасьці за межы гета. Галеча як спадарожніца пурызму ды аскетызму — цалкам на сумленьні мужчын-літаратараў, што задоўга да нараджэньня знанай авечкі Долі навучыліся памнажаць уласныя шэрагі шляхам ідэалягічнага кланіраваньня. Іранічнае азначэньне «цяжарны супэрмэн» (назва аднаго з эсэ Ганны Кісьліцынай) — гучыць у гэтым зьвязку праграмна, як абагульнены вобраз беларускага літаратара.

«Blonde attack» чытаецца як раман. Яго пэрсанажы — «големы» беларускага літаратурнага працэсу. І сама Ганна Кісьліцына выглядае гераіняй сваіх жа артыкулаў. Дакладней, яе роля блізкая да функцыі жыхароў Алімпу ў старагрэчаскіх мітах. У гэтым спэцыфіка прафэсіі крытыка ў параўнаньні з рамяством гісторыка літаратуры. Крытык — прафэсійны сьведка, у ягоным пакліканьні нешта ад абавязку палявога арбітра, арбітра-тарэра. Крытыка і карыда ўжо ніколі ня будуць мужчынскай манаполіяй.

*Arche, 2003*

# ПОЛАЦК КАЯЛОВІЧА

На працягу разьвіцьця айчыннай гістарыяграфіі бачаньне ролі Полацка ў беларускіх дзяржаватворчых і этнакультурных працэсах не аднойчы зьмянялася і працягвае зьмяняцца ў наш час. У розных гістарыясофскіх схемах беларускага нацыятварэньня месца Полацка або трактуецца як цэнтральнае, або значна рэдуцыруецца. Наколькі ўплывае на амплітуду гэтых ваганьняў фактар накапленьня новых гістарычных фактаў, а таксама абнаўленьне мэтадалягічных падыходаў? Ці заўсёды прычыны падобных зьмен ляжаць у полі навукі? Адказ на гэтыя пытаньні вымагае спэцыяльнага дасьледаваньня. Мэта дадзенага артыкула больш сьціплая — прасачыць полацкія сюжэты ў працы М. В. Каяловіча «Чтения по истории западной России» (1864).

Пад тэрмінам «Заходняя Расія» М. В. Каяловіч разумее тэрыторыю «Белай Русі, Маларосіі і Літвы». Беларусаў гісторык лічыць нашчадкамі крывічаў і дрыгавічоў. «Галоўным горадам беларускага плямені» ён называе Полацк. Гісторык кваліфікуе як сэпаратысцкую палітыку полацкіх князёў у дачыненьні Кіева. Ён лічыць, што тэндэнцыя адасабленьня Полацка ад іншых усходнеславянскіх цэнтраў прасочваецца ўжо пры Рагвалодзе, якога ён называе князем «неизвестного происхождения». Як піша гісторык, «особенно надоедлив был русским князям и долго был памятен... Всеслав Брячиславич». М. В. Каяловіч выказвае шкадаваньне, што сілавыя акцыі ў дачыненьні Полацка, у тым ліку і высылкі Ізяславічаў у Бізантыю, не «образумили» полацкіх валадароў. М. В. Каяловіч не падзяляе захапленьняў некаторых рускіх славянафілаў полацкай даўнінай

і яе героямі. Ён скептычна ставіцца да рамантычнага вобразу «князя-ваўкалака» — «язва на челе» Усяслава Чарадзея, як піша гісторык, была верагодна «белорусским колтуном».

На думку гісторыка, ваенная актыўнасьць Полацкага княства тлумачыцца слабай заселенасьцю абшараў Полаччыны. Менавіта таму эканоміка Полацка засноўвалася на захопе рабоў і засяленьні імі крывіцкіх зямель. Па зьвестках М. В. Каяловіча, Менск быў цалкам заселены рабамі. Падобная стратэгія прывяла да стварэньня кшталту пірацкай дзяржавы. Аўтар наракае: «даже нужды своей православной церкви полоцкие князья задумывали иногда удовлетворять посредством грабежа». Аднак гісторык адзначае і шмат агульнага паміж Полацкай зямлёй і княствамі астатняй Русі: напрыклад, шанаваньне сьв. Барыса і Глеба. Гісторык, намагаючыся быць аб'ектыўным, згадвае і пазытыўныя зь яго пункту гледжаньня моманты полацкай гісторыі. Так, ён лічыць, што палачане ўнесьлі пэўны ўклад у фарміраваньне рускай культуры, дзякуючы ў першую чаргу дзейнасьці сьв. Параскевіі і сьв. Ефрасіньні. М. В. Каяловіч высока ацэньваў таксама і дзейнасьць полацкага веча і пазьнейшыя традыцыі грамадскай самаарганізацыі палачан, якія дазвалялі ім пасьпяхова канкураваць у гандлёвых апэрацыях з замежнымі купцамі і доўга супраціўляцца царкоўнай уніі.

Па перакананьні М. В. Каяловіча, Полацк страчвае сваё палітычнае значэньне яшчэ да мангола-татарскага нашэсьця на Кіеўскую Русь. Згубная, на думку гісторыка, палітыка Ізяславічаў прывяла да раздробленьня княства і падпарадкаваньня яго зямель у першай чвэрці XIII стагодзьдзя смаленскім князям. Па зьвестках гісторыка, ужо ў другой палове XII стагодзьдзя працэсы культурнай дыфузіі паміж літоўскімі і полацкімі землямі значна прасунуліся.

Як прыклад узаемаўплываў М. В. Каяловіч прыводзіць начныя рэйды палачан, якія, нібыта, былі ні чым іншым як «вайной літоўскім спосабам». Яшчэ адным аргумэнтам на карысьць «літоўска-полацкай» дыфузіі ён лічыць наяўнасьць полацкіх апорных пунктаў Герцыке і Кукенойс у Ніжнім Падзьвіньні: «в начале XIII века… какой-то полоцкий князь Владимир не только спокоен со стороны Литвы, но имеет по Двине ниже Динабурга русские колонии, нередко действовавшие заодно с литвинами в борьбе с ливонскими немцами…». Да часоў Міндоўга М. В. Каяловіч адносіць першыя спробы «основания литовской государственности в Новогородке литовском и даже в Полоцке». Татара-мангольскае нашэсьце, на думку гісторыка, паспрыяла далейшаму збліжэньню полацкіх і літоўскіх зямель.

Пры разглядзе гісторыі «западной России» часоў існаваньня ВКЛ і Рэчы Паспалітай М. В. Каяловіч больш не зьвяртаецца да дэтальнага разгляду полацкай даўніны, згадваючы Полацк ускосна ў кантэксьце больш шырокіх падзей. Так, разглядаючы ходу Лівонскай вайны, гісторык выказвае меркаваньне, што «жорсткая палітыка» цара Івана IV аказала дэмаралізуючы эфэкт на праваслаўнае насельніцтва занятых рускімі войскамі рэгіёнаў Беларусі, у тым ліку і Полацка. Аднак падкрэсьліваецца, што полацкае дваранства салідарна выступала супраць праекта польскага караля С. Баторыя па запрашэньню ў Полацк езуітаў. Апошні полацкі эпізод, які фігуруе ў гісторыі «заходняй Расіі» М. В. Каяловіча, зьвязаны з увядзеньнем царкоўнай уніі і дзейнасьцю грэка-каталіцкага біскупа І. Кунцэвіча.

Гісторык канстатуе страту беларусамі за часамі Рэчы Паспалітай свайго «вышэйшага клясу», як прыклад прыводзіцца інструкцыя паноў Полацкага ваяводзтва паслам на сейм, каб тыя змагаліся су-

праць плянаў паслабленьня прыгону. М. В. Каяловіч таксама наракае на тое, што беларускі просты народ у адрозьненьне ад украінцаў пазбыўся волі да супраціву. У той жа час дасьледчык у цэлым пазытыўна ацэньвае факт утварэньня літоўскай дзяржавы і ўваход у яе склад рускіх тэрыторый. Аднак адзіная лёгіка, якая вяла як да ўзьнікненьня ВКЛ, так і да маргіналізацыі ролі праваслаўных усходнеславянскіх эліт у гэтай дзяржаве, гісторыкам не прасочваецца або ігнаруецца. Хаця М. В. Каяловіч і прызнае значны ўплыў усходнеславянскіх цывілізацыйных інстытутаў на фарміраваньне ВКЛ, але абмяжоўваецца пры гэтым простай канстатацыяй факту, без удакладненьня мэханізмаў дадзенага ўзаемадзеяньня. М. В. Каяловіч не ўхваляе сэпаратызм усходнеславянскіх зямель у складзе ВКЛ. Ён крытычна ставіцца да паўстаньня полацкага князя Андрэя Альгердавіча супраць свайго брата Ягайлы. Гісторык, выкарыстоўваючы зьвесткі сярэднявечных польскіх крыніц, спасылаецца на тое, што Андрэй Полацкі ўцягнуў у канфлікт Лівонскі ордэн і жорстка паводзіў сябе зь мірнымі жыхарамі. У той жа час дзеяньні Ягайлы ў дадзеным эпізодзе знаходзяцца па-за крытыкай дасьледчыка.

Чаму для М. В. Каяловіча больш пажаданым цэнтрам аб’яднаньня «заходнерускіх» зямель бачылася Літва, а ня Полацк, напрыклад? Барацьба за гэтую ролю выразна прасочваецца ў айчыннай гісторыі. Яе эпізодамі зьяўляліся паўстаньні Андрэя Альгердавіча і Сьвідрыгайлы, падтрыманыя праваслаўнымі фэадаламі. У трактоўцы М. В. Каяловіча дадзеныя сюжэты ізноў жа выглядаюць прыкрым інцыдэнтам «сэпаратызму». Аднак менавіта вынікам паражэньня праваслаўных партый у гэтай барацьбе і зьявілася страта ўсходнеславянскімі элітамі свайго ўплыву, што ўрэшце і прывяло да іх дэнацыяналізацыі.

У адносінах да гісторыі Полацка ў шэрагу эпізодаў М. В. Каяловіч некрытычна насьледуе стэрэатыпы польскай гістарыяграфіі. Дасьледчыка найбольш цікавілі працэсы, якія былі зьвязаны з кансалідацыяй усходнеславянскіх зямель. Гісторыя полацкай дзяржаўнасьці і больш шырока — беларускіх зямель ляжалі ў разуменьні М. В. Каяловіча на пэрыфэрыі «зьбіраньня зямель рускіх». Адсюль станоўчая гістарычная ацэнка гісторыкам утварэньня і разьвіцьця літоўскай дзяржаўнасьці. Гісторык лічыў, што аслабленьне і раньняе палітычнае раздрабленьне Полацкай зямлі мела станоўчае значэньне, бо ўскосна спрыяла ўзвышэньню Літвы і стварэньню ВКЛ. Існаваньне незалежнай Полацкай зямлі бачыцца М. В. Каяловічу прыкрай перашкодай на шляху «гістарычнага прагрэсу», важнай вяхой на якім ён лічыў утварэньне «руска-літоўскай» дзяржавы. У гэтай «узыходзячай лініі гістарычнага разьвіцьця» ад Кіеўскай Русі праз ВКЛ да Расійскай імпэрыі няма месца сэпаратызму Полацка, а пазьней — беларусаў.

Разам з тым гісторык заставаўся патрыётам «малой радзімы», пад якой ён разумеў Беларусь, шанаваў «просты народ» і этнаграфічныя асаблівасьці сялянскай культуры, дазваляў сабе крытыку расійскага ўраду — аднак ізноў жа з пазыцый «агульнарускай карысьці». Аналіз гістарыясофскіх схем М. В. Каяловіча сьведчыць аб тым, што стэрэатып аб фундамэнтальным месцы полацкай ідэалягемы ў «заходнерускай» вэрсіі беларускай гісторыі не зьяўляецца слушным.

*2012*

## ТРЫ ЦЕЛЫ БЕЛАРУСКАГА КАРАЛЯ

Было прынамсі тры Быкавы. Першы — клясык савецкай літаратуры. Вялікі стыль, Рэалістычны канон, Духоўнасьць, Праўда, Народ — усё зь вялікай літары. Быкаў — адзін зь нямногіх, хто вытрымліваў бяз выдаткаў для творчасьці патас азначэньня «беларускі савецкі пісьменьнік». «Літаратары» ж за іроніяй маскіравалі разгубленасьць перад засьнежанымі вяршынямі школьных хрэстаматый ды лысагорскай легенды, крыўдавалі на гэтага Быкава за касмапалітызм, за русізмы і, што хаваць, нават за слова «хлопцы», а ня «мальцы», як гавораць у нас на Полаччыне-Вушаччыне. У пакаленьня «Фанты» былі свае рахубы да клясыка — нуда школьных урокаў, корпаньне ў «нацыянальным характары» Петрака і Стэпаніды, а насамрэч — комплексе самасьцьвярджэньня правінцыйнага літаратуразнаўства Беларусі.

Дабротна раскручаны па канонах савецкай літаратурнай іканаграфічнай традыцыі, Быкаў — савецкі клясык меў і ідэалягічны рэвэрс — рэпутацыю гнанага, рэжучага акопную праўду-матку салдата, калі піўшага, то «зь ідэяй». Бальшавікі ўмелі рабіць біяграфію паэту. Што магла заходняя сыстэма вырабляць з творцаў, дык гэта штампаваць. Бродзкіх жа і Салжаніцыных яна імпартавала ўжо ў сфармаваным як брэнд выглядзе. Сакрэт выпрабленьня паэтаў-прарокаў незваротна згублены.

Другая, перабудовачная, іпастась Быкава — апостал:

Час стагодзьдзі, як касой, сьцінае,
Веры, царства, догмы йдуць да ценяў...
Ўсё мінае — Гонар не мінае,
Бо народжаны адным сумленьнем.

Калі сонца выб’ецца з туману,
Толькі іх і ўспомніць хор народаў,
Воінаў сваіх, сьвятых і зраненых,
Рыцараў сумленьня і свабоды, —

праграмаваў далейшае разгортваньне беларускай гісторыі ў адным з сваіх апошніх вершаў, прысьвечаным дарэчы Быкаву, Уладзімер Караткевіч.

І неўзабаве зьяўляецца Зянон Станіслававіч Пазьняк. Але мэсіі патрэбны папярэднік, Іаан Хрысьціцель, які б злучыў сваім аўтарытэтам філялягічнае пакаленьне беларускай інтэлігенцыі з Добрай весткай геапалітычнай каньюнктуры. Новае пакліканьне трансфармуе творчасьць Быкава, якая набывае пазнавальную мабілізуючую інтанацыю тугі, вядомую і Багдановічу і Гарэцкаму. Гэты час быў плённы для пісьменьніка на публіцыстыку ды калектыўныя звароты.

Пасьля ад’езду Пазьняка за францір мэнэджэрам ідэалягічнага капіталу Быкава робіцца Дубавец. Прынамсі так выглядала збоку актыўнасьць з нобэлеўкай. З гэтага часу паўстае новы Быкаў, нашанівец ды экзыстэнцыяліст, выгнаньнік, канвэртабэльны аўтар. Сапраўды, аповесьці Быкава глядзеліся «акуратнымі эўрапейскімі раманамі» у кантэксьце заходняга літ-працэсу. Позьні Быкаў — гэта ляканізм і мэтафорыка прыпавесьці.

Сьмерць пісьменьніка скаланула грамадзтва. Пахавальная працэсія ператвараецца ў стыхійную дэманстрацыю. Нават форумы Байнэту, досыць індыфэрэнтныя да беларускай культурнай тэматыкі, адлюстравалі гэтую неабыякавасьць. Скончылася

эпоха. Мы ўглядаемся ў новыя групавыя здымкі беларускай эліты, але сучасьнікі пасьпелі неяк скукожыцца і састарэць у засені вялікіх імёнаў. Ці можа мы страцілі здатнасьць пазнаваць караля. Кароль памёр?

*Arche, 2003*

# АСІНАВЫ КОЛ ДЛЯ ГЕРОЯ

## МУДРОЎ-АЎТАР

Сьціпла выдадзеныя кнігі Мудрова разыходзяцца на сувэніры. Яго тэксты раскіданыя па нулявых выпусках літальманахаў ды брашурах самвыдату. Пад заклад удзелу Мудрова адкрываюцца праекты. Але мэнэджэры культуры рызыкуюць абмахнуцца, паставіўшы на Мудрова-прадукт. Гандлюе сам Мудроў, расфасаваўшы бел-рэчаіснасьць у раздроб па 20 старонак свайго ўлюбёнага апавядальнага фармату.

Мудроў — тэкставік, празаік, што рэдкасьць для «краіны паэтаў». Яго тэксты паўстаюць з гульні беларускім словам. Гэта шумавіньне, зьнятае з фантастычных слоўнікаў Власта ды Станкевіча. На такой мове ніхто ніколі не размаўляў, і наўрад ці калі будзе. Пачаткі аповедаў Мудрова прыгожыя і цьмяныя, як кнігі Фолкнэра, бессэнсоўна сачыць за лёгікай іх пабудовы, яны проста прываrожваюць рытмам.

Многія савецкія клясыкі зрабілі кар’еру на гераізацыі рэчаіснасьці. Дэсаветызацыя паводле Мудрова — гэта дэгераізацыя беларускай літаратурнай прасторы. Адсюль літаратурная стратэгія Мудрова — паляваньне на героя: героя-салдата («Зімовыя сны»), героя-каханка («Ведзьма»), героя-асілка («Узьлёт і падзеньне Адама Марштрупы»). Мудроў не пакідае патэнцыйнаму Паўліку Марозаву ніякага шанцу замацярэць, зрэшты як і Фаўсту, Дон-Жуану ці Чайльд-Гарольду.

Трагедыя беларускай культуры — у патрэбе маскіраваць задачы нацыянальнага абнаўленьня, ра-

мантычнае ірацыянальнае пакліканьне, сваю неадэкватнасьць сучаснаму глябальнаму парадку за лібэральнай тэрміналёгіяй. Паводле апошняй беларуская рэальнасьць называецца таталітарным ладам. Для незаангажаваных назіральнікаў відавочна недакладнасьць падобных трактовак, за якой адкрываецца інфляцыя сэнсаў. Аднак у асяродзьдзі беларускіх нацыянал-абнаўленцаў усё па Сартру: «словы — гэта пісталеты». Да таго ж беларускі літаратурны працэс пасьля скону СССР знаходзіцца збольшага на самаакупаемасьці. Разьвесьці «залаты мільярд» на пару «штук» — нац-ідэя апошняга дзесяцігодзьдзя — каб ня ўмёрлі. У дадзеным кірунку напінаюцца найясьнейшыя глузды нацыі. З тысяча і аднаго магчымага спосабу, таталітарызм — беларускі шанец зрабіць гэта прыгожа. Бракуе фактуры, — тым важнейшае заданьне Мудрова — перакласьці тугу бульбянога поля пасьля змаганьня за ўраджай у агульназразумелы альбанізм. Атмасфэра ідэальнага лябараторнага застою ў яго аповедах — той жыватворны глыток таталітарызму, што неабходны для камфорту змаганьня. Толькі ці носяць змагары ў сваіх заплечніках бэлетрыстыку?

## МУДРОЎ-ПЭРСАНАЖ

Калі пішуць пра Мудрова, згадваюць рукапісны альманах «Блакітны ліхтар», надзейна згублены недзе ў спэцсховішчах, кніжку з «клёвымі сьцішатамі» Багдановіча, выратаваную расейскамоўным школьнікам Віцем на сьметніку, жыцьцё пісьменьніка ў нямілай Расеі, любоў да Бітлз.

З чарговым пераказам гісторыі набываюць новыя рысы, але сам набор анэкдотаў застаецца кананічным і сьвежымі сюжэтамі амаль не папаўняецца. Большасьць іх акрэсьленая межамі 60–70-х — гэта

«Партрэт мастака ў юнацтве», народжаны калектыўным сумам па беларускай Біяграфіі й настальгіяй па мансардах, тым больш вострай, што мансардаў ды адмыслова-маляўнічых нягод у жыцьці апошніх двух пакаленьняў беларускай інтэлігенцыі не было.

Складана адшукаць першакрыніцу вандроўных літаратурных сюжэтаў. Але ў выпадку з апокрыфамі мудроўскага юнацтва спачатку адчувалася рука невыпадковага майстра, для якога вывучэньне і стварэньне полацкіх сьвятцаў — прафэсія. У пэрыпэтыях біяграфіі Мудрова прасочваецца той пазнавальны мікст дыдактычнай прыпавесьці пра беларускае абуджэньне і побытавага анэкдоту, які характарызуе прозу Ўладзіміра Арлова. Паказкі пра Мудрова — мо першы прарыў гэтага аўтара да стылістыкі сваіх позьніх эсэ.

Літаратурная кар'ера Мудрова — той выпадак, калі біяграфія пісьменьніка стала вядомай чытацкай публіцы паперадзе яго тэкстаў. Ён мала пісаў і яшчэ менш друкаваўся, і гэта было таксама адной з цаглінаў міту. Але Мудроў як пэрсанаж аказаўся кангеніяльным аўтару «Полацкіх апавяданьняў» і, адпрацоўваючы сяброўскія літаратурныя авансы, перарос асады багемнай легенды.

Мудроў актыўна друкуецца, плённа працуе. Толькі гэта частка ўжо іншага міту, што належыць ТВЛ. Гэта таксама і частка асабістага міту Алеся Аркуша, вядомага сваёй рэдактарскай учэпістасьцю і здатнасьцю «расьпісаць» каго хочаце.

Запомнілася адна зь першых сустрэч з пісьменьнікам. Мудроў сядзеў за рэдакцыйным сталом і пры зьяўленьні ў пакоі незнаёмца прыкрыў ускудлачаную бараду «Советской Белоруссией» у інстынктыўным жэсьце легенды, што бароніць уласную недатыкальнасьць. Партрэты пэўных людзей цяжка ўявіць у хрэстаматыі. Магчыма, мудроўская барада — на-

кладная. Для гісторыі. І акуляры патрэбны толькі каб адбіваць задужа цікаўныя позіркі нашчадкаў. Барада, таніраванае шкло акуляраў ды «Советская Белоруссия» — інсталяцыя для школьных хрэстаматый, як Багрымава жырандоля. Астатняе хай дамалёўваюць двоечнікі ў падручніках.

*Наша Ніва, 2002*

# БАЙКІ ЛОКІ

*С. Квяткоўскі. Фрашкі да пляшкі. — Менск, 2007.*

Локі — адзін са скандынаўскіх міталягічных багоў — спрытны вынаходлівы хітрун, трыкстэр, які парушае парадкі і законы прыроды, але пры тым, зазвычай, неасэнсавана дасягае якога-кольвек пазытыўнага эфэкту. Для яго адсутнічаюць паняцьці «ілжывасьць» і «праўдзівасьць». Бажок Локі — скандынаўскі прадстаўнік у інтэрнацыянале трыкстэраў. Гэтаму прыкольнаму чуваку з фіёрдаў ад старажытных вараскіх часоў і нашы землі не чужыя. Нашы землі, уласна, — землі яго, царства трыкстэра. Хто такі Дзёмка-селянін, Несьцерка ці дамавікі Адама Глёбуса як не інкарнацыя Локі — жартаўнікі-правакатары, «інтэлект без адказнасьці».

Пры тым што Севярын Квяткоўскі выглядае большым Локі, чым сам Локі, на старонках «Фрашак» паўсталі ня дробныя дэманы, а людзі. Нашы людзі, пра якіх гаворыцца з гумарам, але па-харошаму і нават цёпла. Больш за ўсё аўтар цьвеліць над сабой, што рэдкасьць для генэрацыі 30-гадовых прыпозьненых беларускіх постмадэрністых.

Побач зь іншымі азначэньнямі, кшталту «The Bestseller», я б надпісаў на вокладцы гэтай кнігі таксама «Friendly» — у «Фрашках» адсутнічае патас, пагарда і разьлік. Квяткоўскі быў у віры моладзевых акцыяў сярэдзіны 1990-х, але і для тых, хто быў на адваротным баку «барыкад», у кнізе знаходзіцца добрае слова.

Прычына памяркоўнага тону кнігі ў беларускай талерантнасьці? Мяркую, тут нешта іншае. Магчыма, гэта дух беларушчыны пачатку 1990-х,

калі Ўсё Толькі Пачыналася. Гэта былі першыя хвіліны, гадзіны, ночы і дні Незалежнасьці. Так, мы выдумлялі для Беларусі герб, ня ведаючы, што ён існуе, вымалёўвалі абрысы радзімы на контурных школьных мапах — у этнічных межах. Яе грамадзянамі мы зьяўляліся задоўга да таго, як атрымалі пашпарты з Пагоняй. Мяркую, ёсьць заканамерным, што гэты час знайшоў свайго летапісца ў асобе Кваткоўскага. Яму стае пазытыву і прынцыповасьці, каб адэкватна адлюстраваць атмасфэру 1990-х.

Навучка гісторыка даецца ў знакі — з «Фрашкамі» кантрабандай пад выглядам бяседных анэкдотаў мы займелі адмысловае антрапалягічнае дасьледаваньне.

Ступень посьпеху, свабоды, самарэалізацыі кожны вызначае сабе сам. Прыкрая і няўтульная праўда. Для яе спавяданьня мы пакідаем пакуль адно «закуткі паралельнай прасторы». Яны ёсьць і ў «нашых» і ў «калдыроў», у «казакоў» і ў «разбойнікаў». Магчыма, мы не перасякаемся ў часе, але мясьціны для душэўнага адхланьня ў нас адны і тыя ж.

*2007*

# ВУЧОНЫ, ЧАЛАВЕК, НАСТАЎНІК

Імя Ігара Ўсеваладавіча Чаквіна ведаю з 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя па школьных падручніках гісторыі, якія зьмяшчалі ілюстрацыі яго аўтарскіх антрапалягічных рэканструкцый, а таксама па экскурсіях у полацкім Сафійскім саборы, дзе дэманстраваліся скульптурныя партрэты крывічаў, выкананыя пры ўдзеле менскага вучонага. У першай палове 90-х, у гады навучаньня на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, імя І. У. Чаквіна ўжо стала асацыявалася з этналягічнай навукай. Падручнікам нам служыла калектыўная манаграфія «Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенэз, этнічная гісторыя», у напісаньні якой Ігар Усеваладавіч браў удзел. Іншымі словамі, Чаквін уяўляўся мне клясыкам, прадстаўніком высокіх акадэмічных сфэр — той прасторы чыстай навукі, дзе знаходзяцца Генрых Шліман ці Тур Хэердал. Неяк не ўсьведамлялася, што Ігар Усеваладавіч зьяўляецца нашым сучасьнікам, ён досыць малады, нягледзячы на свае заслугі перад навукай, і зь ім можна перасекчыся ў побытавай плоскасьці Менска другой паловы 90-х XX стагодзьдзя.

Ігар Усеваладавіч езьдзіў у менскім тралейбусе, карыстаўся ліфтам, калі падымаўся на 4 паверх інстытута мастацтвазнаўства, этналёгіі і фальклору. Па панядзелках і чацьвяргах, бываючы ў Менску, я заставаў яго ў аскетычным кабінэце ІМЭФ на вуліцы Сурганава. Ён прызнаваўся, што праца ў інстытуце для яго аптымальная, не імкнуўся выкладаць ва ўнівэрсытэце з-за напружаных графікаў. Любіў камунікаваць у кампаніі «пад каву і цыгарэту». Патомны гараджанін, інтэлігент у некалькіх пакаленьнях,

Ігар Усеваладавіч быў ня чужы земляробству. Калі бачыў яго на парозе драўлянай хаты ў прыватным сэктары Менска, згадвалася пра тое, што беларуская шляхта зьяўлялася сельскім саслоўем. Улетку яго можна было засьпець на дачы за земляробчымі клопатамі. Аднак у паўсядзённым Чаквіне заўсёды заставалася месца для эксклюзівы. Так, ён паліў, як многія, але пры гэтым любіў добры ліставы тытунь, меў калекцыю люлек, вырабляў іх уласнаручна. Сталярнае рамяство было яму не чужым. Гасьцінная ў хаце Ігара Ўсеваладавіча нагадвала бібліятэку эпохі барока. Цэнтральнае месца ў ёй займала манумэнтальная кніжная сьцяна з усходамі на антрэсолі — усё гэта было створана Чаквіным уласнымі рукамі.

Я бачыў шчасьлівы зьбег акалічнасьцяў у тым, што Ігар Усеваладавіч пагадзіўся быць маім навуковым кіраўніком. Прычым ён прыняў гэта рашэньне двойчы, у 1999 і ў 2005 годзе, пасьля таго, як я вырашыў вярнуцца да навукі пасьля некалькіх гадоў «дэзэрцірства». Чаквін аказаўся чалавекам адкрытым, абавязковым, што часам ішло на шкоду яго асабістым інтарэсам. Камунікацыя з Ігарам Усеваладавічам была камфортнай. Ён лёгка знаходзіў агульную мову з самымі рознымі людзьмі, рашуча касаваў дыстанцыю паміж сабой і суразмоўцам, якая аб’ектыўна існавала ў сілу яго ведаў, досьведу, статусу. Чаквін быў цярпімым да чужых памылак, даваў шанец выправіцца. Разам з тым не любіў крайнасьцяў, катэгарычных сьцьвярджэньняў нават тых ідэй, якія былі яму блізкія. Ігар Усеваладавіч часта выступаў у ролі пасрэдніка, злучальнага зьвяна паміж празнымі сьветапогляднымі і дысцыплінарнымі фракцыямі айчыннай навукі. Сваёй дзейнасьцю ён аб’ектыўна спрыяў стварэньню пэўнай сынтэтычнай якасьці беларусазнаўчай навукі. Ігара Ўсеваладавіча

шанавалі ня толькі прадстаўнікі беларускай навуковай супольнасьці, яго ведалі і замежныя калегі.

Ацэнкі Ігара Ўсеваладавіча насілі канцэптуальны характар. Менавіта ад яго я ўпершыню пачуў тэрмін «полацкая школа», да якой ён авансам адносіў маладых дасьледчыкаў з Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэта — этнолягаў, антраполягаў, гісторыкаў, якія на той момант нават не абаранілі кандыдацкіх дысэртацый. Зараз словы Ігара Ўсеваладавіча можна цалкам лічыць прарочымі — у 2013 годзе была афіцыйна зарэгістравана навуковая школа міждысцыплінарных дасьледаваньняў Беларускага Падзьвіньня. Уклад Ігара Ўсеваладавіча ў фарміраваньне полацкай навуковай этналягічнай супольнасьці, разам з удзелам шэрага іншых вядучых акадэмічных вучоных, несумнеўны.

Чаквіна адрозьнівала шырокая эрудыцыя, якая становіцца амаль зьнікаючай у нашу эпоху даступных адказаў з web-сеціва. Дарэчы, Ігар Усеваладавіч так і не перайшоў на кампутэрную тэхніку, яго апошні рукапіс, якую я трымаў у руках, набіраўся на друкавальнай машынцы. Навуковыя дасьледаваньні Ігара Ўсеваладавіча закраналі шырокае праблемнае поле, дыяпазон яго інтарэсаў не абмяжоўваўся пытаньнямі антрапалёгіі і этнічнай гісторыі беларусаў. Яго цікавіла чалавечая культура ва ўсёй яе дынаміцы і шматстатнасьці. Гэтак жа і з храналягічнымі рамкамі. На маё пытаньне, якое стагодзьдзе беларускай гісторыі яго захапляе больш, ён адказаў, што яму цікава ўсё ў беларускай гісторыі. Гэтая цікавасьць была зусім не павярхоўнай. І. У. Чаквін імкнуўся да паўнаты ведаў у любой вобласьці, якая прыцягвала яго ўвагу.

У значнай ступені цікавасьць Ігара Ўсеваладавіча да гісторыі насіла эстэтычны характар. І. У. Чаквін меў мастацкія здольнасьці, захапляўся дробнай пля-

стыкай. Ім была створана калекцыя гліняных цацак-сьвістулек, зробленых па народных узорах, якія выяўляў пад час сваіх экспэдыцый. Думаю, без унутранага артыстызму не адбыўся б і Чаквін-антраполяг — рэканструкцыя аблічча нашых продкаў, выкананая навукоўцам, вымагала таленту скульптара.

Гісторыя захапляла Ігара Ўсеваладавіча як адзін з відаў мастацтва. У навуковым тэксьце ён шанаваў, акрамя фактаграфічнай дакладнасьці і навізны, таксама і стыль. Чаквін прызнаўся, што імпульсам, які абудзіў яго цікавасьць да гісторыі, стала знаёмства ў школьным узросьце са старажытнаіндыйскім эпасам у рускім перакладзе, які ён знайшоў на стале свайго бацькі. Адкрыўшы гэты тэкст, зусім не дзіцячы, ён ня мог ад яго адарвацца, пакуль не прачытаў цалкам. Чаквіна зачаравалі праявы чужой культуры, праз яркія колеры якой прагляdaліся таямніца ўсеагульнай чалавечай еднасьці. Адшукваць у традыцыйнай культуры беларусаў водбліскі гэтых старажытных індаэўрапейскіх фарбаў стала паклíканьнем навукоўца-этноляга. Дзіцячая захопленасьць старажытнаіндыйскім эпасам нечакана адгукнулася пазьней у сталых навуковых дасьледаваньнях навукоўца, напрыклад, у яго дасьледаваньнях культуры цыган. Ігар Усеваладавіч на ўсё жыцьцё захаваў неспатольную інтэлектуальную цікаўнасьць, яго захаплялі самыя разнастайныя прадметы: шляхецкая «сармацкая» культура і беларускае звычаёвае права. Чаквіна захаплялі фарбы, выявы, — тое, што ажыўляе мінулае і надае яму выразнасьць.

У пэўным сэнсе Чаквін быў грамадзянінам сьвету — сьвету ўсеагульнай гісторыі. Разам з тым ён заставаўся патрыётам Беларусі, Менска. Рускамоўны ў побыце, ён, тым ня менш, рашуча спыніў мае нядоўгія ваганьні з нагоды выбару мовы дысэртацыі — на карысьць роднай, беларускай. Менскі кшталт быў

моцна выяўлены ў асобе Ігара Ўсеваладавіча, патомнага інтэлігента, «паповіча», як ён сябе сам часам характарызаваў, маючы на ўвазе свайго дзеда-сьвятара. Сям'я і род зьяўляліся значнымі каштоўнасьцямі для Ігара Ўсеваладавіча. Бацькі адыгралі вызначальную ролю ў станаўленьні ня толькі характару, але і навуковых інтарэсаў вучонага. Іх інтэлектуальныя інтарэсы, таленты маюць выразны працяг у працах І. У. Чаквіна. Ён заўсёды з любоўю і гонарам адзываўся аб сваёй дачцэ, верагодна, адгадваючы ў ёй рэалізацыю сваіх рамантычных рыс характару, магчыма, па-добраму зайздросьцячы яе магчымасьці вольна выбіраць свой лёс, падарожнічаць па сьвеце.

Ігар Усеваладавіч ня быў кабінэтным навукоўцам і добра ведаў Беларусь, актыўна ўдзельнічаючы ў палявых дасьледаваньнях, навуковых камандзіроўках, канфэрэнцыях. Магчыма, гэтая актыўнасьць палявога дасьледчыка доўгі час не давала Ігару Ўсеваладавічу ў поўнай меры рэалізаваць свой пэдагагічны патэнцыял. Аднак за апошнія гады ён здолеў падрыхтаваў шэраг маладых дасьледчыкаў-этнолягаў. Ігар Усеваладавіч сышоў з жыцьця, калі ўжо пачыналі фарміравацца абрысы яго ўласнай навуковай школы. Аб'ектыўна ўплыў Чаквіна-вучонага зазнала ўся сучасная айчынная этналягічная навука. Многія беларускія дасьледчыкі абавязаны Ігару Ўсеваладавічу высокакваліфікаванай экспэртнай дапамогай. Чаквін быў адным з тых, хто непасрэдна спрыяў абнаўленьню айчыннай этналягічнай навукі ў 80–90-х гадах XX стагодзьдзя. Гэты працэс быў адзначаны адыходам ад этнаграфізму і набыцьцём беларусазнаўствам аналітычнага характару.

Зьяўляючыся прызнаным у айчынных і замежных навуковых колах спэцыялістам, ён, безумоўна, ведаў сабе цану, і, разам з тым, яму была ўласьцівая сьціпласьць. Гэтым я тлумачу адсутнасьць у творчым на-

бытку Ігара Ўсеваладавіча пэрсанальнай манаграфіі. Ён аддаваў перавагу публікацыям у калектыўных працах. Як думаецца, Чаквін меў патрэбу ня гэтульк ў паблісіцы, колькі ў прынцыповай адзнацы сваёй навуковай дзейнасьці. Выйсьце зборніка прац Ігара Ўсеваладавіча дапаможа больш цэласна прадставіць творчасьць і жыцьцёвы шлях гэтага выдатнага вучонага і паспрыяе прынцыповаму асэнсаваньню ролі Чаквіна ў айчынным навуковым працэсе.

*2014*

## ПАДЗЕМНЫ ЧАЛАВЕК

*А. А. Соловьев. Усадебный комплекс «Домик Петра I в городе Полоцке»: История. Владельцы. Легенды. — Полоцк, 2015.*

Перад намі новая манаграфія магістра гістарычных навук Аляксандра Аляксандравіча Салаўёва. Дадзеная кніга — ня проста чарговае дасьледаваньне, прысьвечанае гісторыі матэрыяльнай культуры Полацку, — гэта таксама фэномэн самой найноўшай гісторыі горада. У асяродзьдзі полацкіх гісторыкаў вядомы анэкдот, які апавядае аб тым, як аднойчы ўдзельнікі сталічнай археалягічнай экспэдыцыі, прыбыўшы ў адзін зь летніх палявых сэзонаў да Полацкай Сафіі, са зьдзіўленьнем даведаліся, што П.А. Рапапорт і В.А. Булкін былі не апошнімі, хто апярэдзіў іх у дасьледаваньні гэтага старажытнага помніка, — ля муроў полацкага храма ім сустрэўся падлетак з рыдлёўкай і дапытлівай іскрай у вачах. Гэта быў Аляксандр Салаўёў, які незвычайна рана адчуў сваё пакліканьне да археалёгіі. Ужо тады ў яго была сабрана вялікая археалягічная калекцыя, якая пад час перадачы яе ў 2004 годзе ў краязнаўчы музэй налічвала больш тысячы знаходак.

Аляксандр Салаўёў нарадзіўся ў Полацку ў 1979 годзе, праз некалькі год сям'я пераехала ў Ленінград. У 1999 годзе Аляксандр вярнуўся ў Полацк, дзе да гэтага часта праводзіў свае летнія школьныя вакацыі. У асобе А. А. Салаўёва горад Рагвалода і Ўсяслава здабыў скрупулёзнага і нястомнага дасьледчыка. Увага да дэталяў, адмысловая вастрыня навуковага зроку, значны вопыт і навыкі палявых дасьледаваньняў, адданасьць любімай справе

дазваляюць А. А. Салаўёву, засяроджваючыся на лякальных аб'ектах гораду, дасягаць уражваючых вынікаў. Дадзеная манаграфія зьяўляецца ўжо трэцяй за апошнія тры гады працай маладога вучонага, прысьвечанай вывучэньню гісторыка-архітэктурнай спадчыны Полацку.

Кнігі, якія зьявіліся адна за адной на працягу гэтага невялікага прамежку часу, выходзяць у значнай ступені дзякуючы энтузіязму самога аўтара, працавітасьць якога не стымуляваная акадэмічнымі ці выдавецкімі плянамі. Аднак, безумоўна, вонкавыя стымулы існуюць. Першы і найбольш важны стымул для вучонага — нераспрацаванасьць навуковай праблемы, якая да таго ж спалучана з пагрозай зьнікненьня самага прадмета дасьледаваньня — архітэктурных помнікаў. А. А. Салаўёў таму заўсёды матываваны ў сваёй працы неабходнасьцю апэратыўнага выяўленьня і захаваньня гістарычнай інфармацыі аб Полацку. Самі дасьледаваньні А. А. Салаўёва можна разглядаць, такім чынам, як спосаб захаваньня ва ўсёй магчымай паўнаце параўнальна нешматлікіх аб'ектаў матэрыяльнай культуры горада.

Вонкавае стымуляваньне працы дасьледчыка аказвае таксама асяродзьдзе, якое ў першую чаргу запатрабуе плён яго навуковай творчасьці. Вядома, гэта блізкія аўтара, Яўген і Людміла Салаўёвы — дзядуля і бабуля, якія выхавалі Аляксандра і перадалі яму свае маральныя прынцыпы і любоў да горада, менавіта ім ён традыцыйна прысьвячае свае кнігі. Гэта таксама настаўнікі А. А. Салаўёва, пад кіраўніцтвам якіх ён зрабіў свае першыя крокі ў навуцы, — у першую чаргу варта назваць доктара гістарычных навук Дзяніса Ўладзіміравіч Дука. Дзяніс Уладзіміравіч падчас чарговых археалягічных раскопак у Полацку заўважыў шчырую цікавасьць Аляксандра да гісторыі і рэкамэндаваў яму паступаць на гісторыка-філялягічны факультэт Полацкага

дзяржаўнага ўнівэрсытэту. У далейшым навуковая біяграфія А. А. Салаўёва была зьвязана з катэдрай айчыннай і ўсеагульнай гісторыі Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Тут ён абараніў сваю магістэрскую працу. Малады вучоны фарміраваўся пад уплывам шэрагу таленавітых пэдагогаў катэдры, асобна трэба адзначыць магістра гістарычных навук Яўгена Ўладзіміравіча Глазырына, полацкага краязнаўца, старэйшага таварыша Аляксандра Салаўёва.

Безумоўна, праца ў Нацыянальным Полацкім гісторыка-культурным музэі-запаведніку, дзе пад кіраўніцтвам кандыдата культуралёгіі Тамары Аляксандраўны Джумантаевай склаўся творчы калектыў гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, краязнаўцаў, таксама можна аднесьці да спрыяльных фактараў, якія дапамагаюць творчай самарэалізацыі дасьледчыка. Важным цэнтрам крышталізацыі краязнаўчай працы ў горадзе зьяўляецца рэдакцыя Полацкага кніжнага выдавецтва. Яе калектыў, у першую чаргу галоўны рэдактар выдавецтва Аляксандр Іванавіч Суднік і пазаштатны навуковы рэдактар Леў Фёдаравіч Данько, аказваюць вялікую кансультатыўную падтрымку аўтару.

У вядомай фантастычнай аповесьці В. Ластоўскага «Лябірынты», у аснову якой пакладзены легенды аб існаваньні лёхаў пад Полацкам, існуе герой, якога завуць «Падземны чалавек». Верагодна, апошні мае прататып з асяродзьдзя полацкіх краязнаўцаў першай чвэрці XX стагодзьдзя. Менавіта Падземны чалавек ведаў і захоўваў таямніцу полацкіх лябірынтаў. Слухаючы аповеды Салаўёва аб яго дасьледаваньнях, часам здаецца, што ён зьяўляецца сучасным увасабленьнем героя аповесьці В. Ластоўскага, якога паклікала да вяртаньня энэргетыка старажытнай полацкай зямлі.

*2015*

# МУЗЭЮМ

Пасьля другой-трэцяй чаркі
Падземны чалавек пахінуўся
да мяне і пачаў даводзіць,
што гара, на якой стаіць
Верхні замак, — насыпная.

*В. Ластоўскі, «Лябірынты»*

Пераходзячы зь вёскі ў вёску, можна прайсьці Полацк наскрозь: Экімань, Бельчыцы, Кароўнікі, Ноўка, Грамы, Спас-Слабада, Лазоўка, Баравуха. Кожная з пэрсанальным уваходам у легендарныя сутарэньні. Горад з падмосьцем, горад у дублі. Дзе копія, а дзе арыгінал? Вуліцы — праекцыі лёхаў, ці лёхі — адлюстраваньні мокрых ходнікаў? Над лужынамі запальваюцца ліхтары, загараюцца паходні і ў лябірынце — горад варожыць: што будзе — было, было — будзе. Дзе сапраўдны Полацк? Там, дзе і полацкая Бібліятэка, Летапіс, Лябірынты. У снах, генэалёгіях і сьвятах.

Між Багаяўленкай і Сафійкай адлегласьць вымяраецца эпохамі, мэтрамі — час. Купала, Радаўніца, Ефрасіньня, Вялікдзень — сапраўдная тапаграфія Полацку, ваколіцы якога сягаюць на пятнаццаць стагодзьдзяў ушыркі. Барока — мэтафара гэтага гораду.

Вострыя сны — крышталёвыя ранкі верасьня. Горад станчаецца да празрыстасьці, увыразьняюцца абрысы Лябірынту. Сувіты з вуліцамі, ён раскрываецца ад дотыку позірку, захапіўшы небакрай. Падобнае можа надысьці ў кожны момант, сталай брамы не існуе — спружынаю-сьлімаком лябірынт разгортваецца вакол цябе, і ты робісься яго рухомым цэнтрам. Дасканалы лябірынт — з вывучкай

грыбніка выйсьці немагчыма. Грыбнікі, геадэзісты, тапографы сюды і не трапляюць. Гэты вопыт бліжэй скарбашукальнікам ды калекцыянэрам. Лазаходцы, захавальнікі мапаў з напалеонаўскімі пазначкамі, дзякуючы ім іржавыя наканечнікі полацкіх стрэлаў і праз стагодзьдзі лучаць у цэль. Яны носяць свае нябачныя лябірынты як смаўжовыя дамкі, станчыўшыся да празрыстасьці.

Я трапіў у лябірынт на правах нумізмата. Зьбіраю манэты ў куламесе абшчапітаўскага бою і сярэднявечнай керамікі. Наладоўваю кішэні керамічнымі аскепкамі, а калі знаходжу нешта цікавае, адсылаю раней назьбіраныя чарупіны па дзьвінскіх хвалях — з таго месца, дзе стаяць экіманскія лодкі. Трымціць лазьняк, плавок плёскаецца ў рабаціньні, Эдгара По перачытвае вецер. Сядаеш у лодку — і хаты зьнікаюць за пагоркам, насоўваецца парк. Краявід жывяць вежы Сафіі.

Парк доўжыцца амаль да Бэрнардынкі. Зялёныя жылы хмызьняку разыходзяцца ад ракі ўглыб кварталаў, вызначаючы абрысы вуліц, а часам — і пэрыпэтыі гарадзкой хронікі. Гэты сымбіёз — хутчэй помнік прыроды, чым культуры — называецца Задзьвіньнем. Тут Полацк нагадвае вялікі нерэгулярны парк. Палачане, культуртрэгеры і асьветнікі, любілі сады. Францыск Скарына быў садоўнікам. А Сімяон Полацкі назваў кнігу свайго жыцьця «Вертоградом многоцветным». У садах Экімані — маёнтку паноў Беліковічаў — Ян Баршчэўскі занатоўваў песьні, што даносіліся зь дзьвінскіх стругаў, якія плылі ў Рыгу. Парк мае бульварную вось, якая візуальна лучыць Курган Неўміручасьці з Сафійкай. Сабор месьціцца на супрацьлеглым беразе, але калі глядзець на яго з Кургану, ён нібы вырастае з парку. На вясельлі маладыя прыяжджаюць на Курган з кветкамі да Вечнага агню, каля якога замурава-

на камуністычнае пасланьне нашчадкам. На фоне Сафійскага сабору тут звычайна і фатаграфуюцца. На язычніцкім камяні — Барысаў крыж, на праваслаўным падмурку Сафіі — уніяцкая бажніца, а насупраць яе — савецкі Курган. У гэтай эклектыцы ёсьць лёгіка. Імпэрыі міналіся, Полацк заставаўся. Горад застанецца, прыйдуць археолягі, рассартуюць сьмецьце. На тле плыткай школьнай гісторыі Полацк — анкляў вечнасьці.

Пры ўсёй мешаніне напластаваньняў гісторыка-культурныя коды гораду прачытваюцца выразна. Полацкую сыстэму каардынатаў утварае гарызанталь Дзьвіны, што задае прыродныя парамэтры, мус ляндшафту, геапалітычныя арыенціры. Дзьвіна — вэктар полацкай гісторыі, кантактаў і камунікацый гораду. Дзьвінскае прыбярэжжа — авансцэна гэтай гісторыі. Фасадам старажытны Полацк з Сафіяй і Калегіюмам выходзіць на Дзьвіну. Вэртыкаль Сафіі ў сваю чаргу — гэта духоўная скіраванасьць, імпульс Богабудаўніцтва, цывілізацыйныя арыентацыі. На скрыжаваньні вэртыкалі Сафіі і гарызанталі Дзьвіны, як пункт адліку, ляжыць Барысаў камень — абярэг, што зьяднаў паганскую архаічную аўтэнтыку з хрысьціянскім пачаткам.

Сам горад, раскінуўшыся на двух берагах, стаў мостам «з варагаў у грэкі», што падтрымлівае гамагеннасьць беларускай культурнай прасторы, яе міфаў і гісторыі. Гэты горад не належыць цяперашчыне, ён трымаецца зь ёй пэўнага нэўтралітэту на ўмове «старыны ня рушыць», жыве з таго, што здае пад адсоткі чарговаму геапалітычнаму ўтварэньню свой сымбалічны капітал. Полацк застаўся купецкім местам — гандлюе ведай, прэстыжам, генэалёгіямі — тым, што так шануюць новапаўсталыя дзяржавы. Пасярэдніцтва, культуртрэгерства, пераклад — звычайны бізнэс для памежжа.

Што да Кургану Неўміручасьці, то ён упісаўся ў канцэпцыю «краіны валатовак». Гэтую савецкую філію полацкіх лябірынтаў насыпалі ўсім горадам падчас суботнікаў, зямлю прыносілі ў руках. «Сівагорбы» мясцовы пэйзаж асыміляваў яго абрысы. Абсаджаны разлапістымі хваінамі, Курган выглядае здалёк ланцугом горных пікаў. Зарослыя прысады Кургану — зацішак, зарэзэрваваны для сьвяткаваньня Дня Перамогі. Ён аджывае аднойчы на год па рэфлексе — пад какафонію гучнікаў. Ля кожнага хмызу з гарматнай стралянінай і сьпевамі народнага хору адпраўляюцца дыянісіі. Шашлыкі, папяровы посуд, квас і піва. Патрапіць восеньню ў гэты бязьлюдны парк раўназначна таму, што апынуцца ў забытым сьне. Ідзеш сярод жоўта-барвовых клёнаў, прысады даўно ўжо мусяць скончыцца, але асфальтоўка доўжыцца. Каб не губляць часу ў ачужэлых нетрах, зьвернеш праз хмызьняк — і згубісься ў восеньскай прасторы. Спружына-сьлімак полацкага лябірынту ахіне навакольле, і ты зробісься яе рухомым цэнтрам.

Павароткі вірам зацягваюць горад у барокавыя сны. Горад-запаведнік. Калідоры, выпісваючы формулу ракако, зьвіваюцца ў пакручастым стылі рымска-бізантыйскіх палемік, тупікі прымаюцца за выбаўленьне ад закальцаваных васьмёркай мэйнстрымаў. Але блукаць па выгінах Вялікага стылю абрыдае нават зацятым краязнаўцам — музэйны сындром, вядомы таксама і аматарам школьных чытанак. Шукаеш на заседжаных мухамі скрыжалях знаёмыя імёны: Баярыны, Бельскія, Булаўскія, Лагуны, Лапіцкія, Лісоўскія, Маеўскія, Маркевічы, Марковічы, Плаксы, Садкоўскія, Славінскія, Сівыя, Трыпукі, Шыкі — музыка прадмесьця. Пункцір іх лёсаў акрэсьліваў абрысы краю. Каб выбавіцца адсюль, трэба ўхапіць лёгіку экспазыцыі: сховаў-

спратаў, пантэонаў, герархій, крушняў сьвятога каменьня. Праінтэрпрэтаваўшы чарговую паваротку, упіраесься ў тупік. Варта было б згадаць вывучку, атрыманую ў калідорах Палацу піянэраў. Засланы акцябрацкай зорачкай у гурток палітінфарматараў, на працягу чатырох гадоў па чацьвяргах пашыраў кругагляд, дасьпяваў да Клюбу інтэрнацыянальнай дружбы і паездкі на Балатон. Вопыт быў карысны — вывучыў, напрыклад, усе афрыканскія сталіцы. На чацьверты год замест афрыканскіх краінаў адкрыў для сябе чароўны сьвет райцэнтраў Бацькаўшчыны. Родныя балоты сталі бліжэй чужых Балатонаў. Зрэшты, на асобных контурных мапах межы Бацькаўшчыны дасягалі і возера Балатон.

Зь лябірынту Полацку вывалісься ў менскія катакомбы пад пляцам Перамогі. Старая роспач — ад былой раскошы застаўся адзін жэтон на мэтро, білет на цягнік да дому і сем хвілін, каб на яго пасьпець. Не знаходзіцца ўваход, блытаесься ў паваротках. Знайсьці ўваход у мэтро на Плошчы Перамогі — непасільнае заданьне для стомленых мазгоў. Прачынаесься — ізноў жаўтаватыя купы, не прасьветленыя ліставеяй, суцяшальная гульня. Прысады доўжацца. У анкляве вечнасьці не істотна — на пяць стагоддзяў менш ці больш, пакуль гісторыкі спрачаюцца наконт даты заснаваньня места, у горад штораз прыходзіць усе тая ж тысяча пяцісотая восень. Што будзе — было, што было — будзе.

*Наша Ніва, лістапад–сьнежань 2000*

## РАСА ПАТРЫЯРХАЎ

На кухні хоць сякеру вешай — не прадыхнуць. Зраньня і да ночы смаляць усе чатыры фаеркі. І так — у сем'ях безьлічы патрыётаў, каму калябаранцкая ўлада яшчэ не паставіла газавы лічыльнік. За нейкі год гэтая прыгожая акцыя зьмяніла ў краіне клімат, на вуліцах пачалі высьпяваць каштаны і супрацію. Прынёс вынік і транспартны байкот. Скарыстоўваючы натуральную нелюбоў моладзі да аплаты праезду, рух мэтадычна падрываў інфраструктуру імпэрыі. Шэрагі «Зайцоў Адраджэньня» памнажаліся з трусінай плоднасьцю.

*Вось, калі пункцірна, кантэкст эпохі. Падрабязнасьці таго, сынку, як змагаўся твой бацька, ты знойдзеш у падручніках гісторыі, яна замерла зараз у шматкроп'і, пакуль натуюцца для цябе гэтыя радкі. Слухай «Psycho Attack Over Europe» і адчуеш, як бушаваў адрэналін у нашых жылах, і мамку слухай — яна ў нас будзе прыгожая. Не — мінула, што ж, мамак не выбіраюць.*

Аднаразовага квітка хапае дня на тры. Самае большае — на тыдзень. Усё залежыць ад сэзону. Зімой пачуваесься нахабней, трымаючы напагатове непракампасьціраваны талён у пальчатцы. У восеньскую ж слату — хаморысься, раскісаеш і набываеш, урэшце, месячны абанэмэнт. Пад імжу марыцца аб ахоўнай скурцы колеру вогкага асфальту. Восеньню я ня вешаю яе нават на цьвічок, бавячы вечары за мачылавам плахіх на форумах.

Трымаюцца апошнія дні бабінага лета — неба як з калодзежа, на зьдзек сьляпучае. Паэты ў такія дні лепяць конікаў, а самыя датклівыя — шукаюць мінулы дзень, як вынік — перабоі зь півам, трывожна.

Лішні гук — і крышталь ранку рассыпаецца аскепкамі табе на галаву. Лепш не ўзьнімаць яе, не адказваючы на прывітаньні знаёмых.

Каб спраўдзіць, ці няма сочкі, прысеў забарсаць барэткі. Пустэльня — дзікі ўсход, цені на плытах, нейкі алёша цурболіць пад шапік. Гэта я — маскіруюся пад аўтахтона.

Гады кансьпірацыі і гульні ў «зарніцу» абвастрылі інтуіцыю, з такім ювэлірным інструмэнтам лепш сядзець у падмосьце Прагі, а ня шлындаць па тубыльных завулках, дзе маўклівы натоўп паныла сьмярдзіць цыбуляй, прафануючы ўрачыстасьць эпохі.

Вось нейкая абвестка на слупе — папера ў краткі, нарэзаная пасмачкамі для тэлефонных нумароў, але зусім пустая. Што гэта — звыклая тутэйшая неабавязковасьць? Нейкі знак? Глюкі?

Вуркатаньне страўніка адгукаецца рэхам у нетрах двароў. З касавурым позіркам і трэмарам левага пляча, што разьвіўся з-за сыстэматычнага дыханьня прадуктамі гарэньня мэтану, я тут як вашывая блыха на плешыне дыктатуры. Сіеста. Ня сьпяць толькі кансьпіратары і тыя, каму трэба гэта знаць ведаюць аб гэтым. І я ведаю, што яны знают. Трывожна, але я не баюся, заварочваю за рог, каб прасоўвацца далей закаморкамі, і апынаюся абезрухоўлены на зямлі. Шнурок.

У чарговым чапку замест піва — «Жыгулёўскае». Праверка на вашывасьць. Будучы ў вобразе вахлакааўтахтона, іду дзеля кансьпірацыі на павадку ў правакатараў і набываю іх пойла, загадзя прадчуваючы пякотку. Ня будзь дурнем, помшчу не адыходзячы ад касы, дэманстратыўна прыкупіўшы тры блёкі запалак і два кілі солі. Прыгожая акцыя! Бабулькі так і пырснулі да паліцы з сольлю — за гадзіну разь-

мятуць. Мяркую, пад вечар хваля панічнага попыту захлыне ўвесь горад.

Як і дамаўляліся, іду зь півам у правай руцэ і «Калосьсем» у левай да альтанкі пад глогам. Падобныя моманты акупляюць усе выдаткі змаганьня: у соннай варожасьці акупаванага месца сустракаюцца два камбатанты. Дзе два камбатанты — там свабодная зямля, і гэты глог за нас, ён з намі ў змове, і альтанка, і піва, горкае як пачуцьцё патрыёта.

Глог сасьпеў — флюарэсцэнтныя плады зацерушылі зямлю навокал. На іх глядзяць і ня бачаць, топчуцца абцасамі, як па Бацькаўшчыне, — пазнаюць толькі бярозу, а на мапе могуць паказаць хіба СССР. Дык жа карт такіх ужо няма. Выпхне лёс іх з тубыльнай восені — і ня знойдуць дарогі назад, распусьцяцца ў чужым як парашковая кава.

Вітаўт затрымліваўся. Каб не марнаваць дня, адкаркаваў бутэльку. Для гэтай працэдуры маю адкрывачку — калі зьбіваеш корак рукой, задавальненьне губляецца, — варта бачыць, як вадкасьць падаецца табе насустрач і з адкаркаванай пляшкі ўздымаецца белая пара. Шмат значыць першы каўток — лепш рабіць яго з празрыстай шклянкі, не забіваючы галаву сумненьнямі ў ахайнасьці мыйшчыкаў бутэлек, і назіраць, як паўзуць па шклу бурбалкі, зрынаючыся ў неба. На добры лад трэба абмежавацца першым каўтком — наступныя не дадаюць анічога, акрамя пякоткі.

Я не заўважыў, як Вітаўт матэрыялізаваўся аднекуль з-за сьпіны.

— Фёдара зьнялі з маршрута, — манкіруючы тарашкевіцай, паролямі і псэўданімамі, выдаў ён замест прывітаньня, — Ты паразумеў?

— Варта казаць «зразумеў», — паправіў яго я.

— «Зразумеў» занадта фармальна, калі таварыша катуюць.

— Грузі пра катаваньні буржуйскіх журналістаў, нічога яму ня зробіцца, возьмуць штрап і адпусьцяць да мамкі. Паразумеў?

— Хіба гэтым пераможам? — азваўся Вітаўт у роспачы.

— Не падабаюцца нашы мэтады, так і быць, скінемся табе на добрую зброю і помнік потым бронзавы паставім.

— Ішоў бы ты... Так правільна?

— То-та, Каліноўскі! — кінуў я ў адказ, але Вітаўт растаў ужо ў паветры.

Трэба звальваць па ідэі. Вясёлага сапраўды мала. Другая бутэлька не хацела адкрывацца. Падрапаў далонь. Але першы каўток ня схібіў.

*Сынку, а можа і не расчытаць табе ненароджанаму, што напісаў тут кірыліцай твой татка, вырасьцеш ты ў свабодным сьвеце касмапалітам. Каму тады пішу?*

На прыпынку сабраліся ўсе нашы. Звычайныя размовы, пра зьнікненьне Хведара нават не ішлося, але зайсьці ў аўтобусы ніхто не сьпяшаўся — хіба па гэтаму і можна было ўцяміць, што нешта ня так.

— Чулі пра новы загад? — гукнуў хтосьці з натоўпу, — на аўтобусных прыпынках больш, чым траім зьбірацца забаронена!

Нас тут было блізу дзесяцера і ніхто ня ведаў, як адрэагаваць на гэтыя словы. Нехта хіхікнуў, але таварыша не падтрымалі. Вецер неверагодна хутка гнаў па небу аблокі.

— Мая бабка, — зьмяніў тэму Базыль, — ніколі не набывала праязных талёнаў.

— Бо езьдзіла на дзедзе, — адтала грамада.

— Бо кампасьціравала грашовыя купюры, — не паддаўся на правакацыі Базыль, — заўжды спрацоўвала, кантора не магла нічога ёй давесьці.

— А што яна рабіла з пракампасьціраванымі грашыма? — пацікавіўся нехта.

— Набывала ў царкве сьвечку: Цэзару — канфэці ў кампосьцеры, а Богу — богава.

— Прыгожа!

— Эстэтна!

— Сюр!..

Не згадаю, хто прапанаваў сесьці гуртам у адзін аўтобус, маўляў, разам аніякая кантора будзе ня страшная. Падыходзіла акурат «двойка» — усе і ўціснуліся.

На наступным прыпынку аўтобус не спыніўся, — праскочыў разьвілку і пахістваючы гармонікам-модулем выехаў на хуткасную шашу.

— У гараж, — выказаў агульную надзею Вітаўт.

— У кантору, — данеслася з хрыпатага аўтобуснага дынаміка.

— На лініі кантора? — перапытаў у немаведама каго Вітаўт.

— Варта казаць «кантралёр», — адказаў немаведама хто Вітаўту.

Базыль пачаў крэмзаць і сьціраць, крэмзаць і сьціраць, графіціст хрэнаў, на запыленым акне аўтобуса.

— Я маю харызму, — трызьніў Пратэй, задохлік гадоў дваццаці, — дастаткова мне сказаць у чарзе за малаком «хачу піва», як усю чаргу апаноўвае піўная смага.

— Пра што ты, табе і да сарака піва бяз пашпарту даваць ня будуць, — пажартаваў нехта.

— Я пра тое, можа мне паспрабаваць пажадаць услых спыніць аўтобус?

— Дык пажадай, толькі вельмі моцна пажадай, калдун!

— Хачу спыніць аўтобус, хачу спыніць, хачу...

— Прыгожая акцыя! — паіранізаваў па звычцы Базыль, — нешта мне піва захацелася, ты што пажадаў?

— Толькі «хачу піва» атрымліваецца, — апраўдваўся Пратэй, ляскаючы на выбоінах зубамі.

Выяжджаючы з гарадзкой мяжы, аўтобус напасьледак страсянула — змоўклі ўсе.

*Можа ўсё было па-іншаму — напэўна не скажу, на нашае шчасьце, дзеці, ваш тата ня сеў у той аўтобус — адышоў на хвіліну да ветру. Піва выратавала жыцьцё. Гэта ў герояў і прарокаў не бывае нашчадкаў — мы ж, патрыярхі, мусім жыць доўга.*

Бабіна лета мінулася, як хто адцяў, — назаўтра ўжо імжэла. Неба зацягнула, думкі пацяклі ў звыклым рэчышчы восеньскага сну-явы — да Каляд. Бабка абяцала выдзеліць чвэрць кабанчыка — значыць будзем зь бялком на зіму. Заляжам да вясны, завеямся да шыбаў сумётамі, накрапаем кілбас з кмінам. Кантора не чапае — прабіваю талёны.

*Усё хвігня, дачушка мая ненароджаная, глядзі за брацікам, слухай мамку — бацькаўшчыну не выбіраюць.*

*Правінцыя, 2000*

# ШАРАІ

Аматараў мэнтолавых гісторый зь любошчамі на эўраляндшафце варта папярэдзіць — героі дадзенага аповеду, калі і бавяцца за бугром, дык толькі гандлюючы сьмятанай, у жылах іх цячэ піва. Карацей, гэты яйцашчымлівы аповед пра мальцаў Шарая. Кажуць, што Шарай дастаў у калёніі сухоты, — выглядаў ён сапраўды не жыльцом. Калі бачыў яго апошнім разам у «Жар-птушцы», кароль мікрухі дужа зьмяніўся. Нейкая п’яная ела яго поедам. Шарай кашляў ды мружыўся. У каго верыць пасьля гэтага пасажырам прыгараднага дызэля «Полацк-Бігосава»? Перабраўшы лішак яны б’юць сябе ў грудак: «Мы бегалі за Шарая!» Даўся ён у знакі.

Каб піць піва на дывідэнды з гэтай сэнтымэнтальнасьці, ад яго патрабавалася трохі рэспэкту, але Шарая ўжо абыходзілі фармальнасьці, — піўны крэдыт яму адкрыла сьмерць. Лёня ў адрозьненьне ад большасьці шараёў быў не дзюдаістам, аваднальжнікам. Мы сябравалі зь сёмай клясы. Нас было пяцёра, і апошнія парты заставаліся за намі да самага выпускнога. Калі гулялі не на грошы, Лёня дазваляў сабе нават пройгрышы. За аўтарытэт па драбязе ён не хваляваўся, бо здольны быў падцягнуцца трыццаць разоў. Без рыўкоў. Значным этапам у лёневай біяграфіі была гісторыя зь іконкай. Падзеі разгортваліся на тле азёрных краявідаў у падшэфным калгасе ў другой палове 80-х. Мы паехалі туды ўсім клясам на лён. Па прыезьдзе нашу сяброўскую пяцёрку падсялілі да бабулькі. Яна лічыла сябе полькай, што ніяк не псавала яе беларускую мову. Толькі зрэдчас, згадаўшы пра польскасьць, яна хапалася спраўджваць свой небагаты рэпэртуар касьцельнай пальшчызны.

Аднойчы, абыходзячы пад ноч зь ліхтаром уласныя ўладаньні, нашая гаспадыня ўгледзела ў прорвіне сваёй прыбіральні пакамечаную іконку — абразок таннай паліграфіі.

Аб яе знаходцы зараз жа стала вядома і нам. Яна ўплыла ў хату, трымаючы ў выпрастаных руках загнюшаную сьвятыню. Бабка насунулася на Лёню, нібы адразу ведала, скуль «гарыць». Але насуперак яе чаканьням серны дым зь піянэра не шугануў. Шараі траплялі і не ў такія калатнечы. «Я вам новую на ксэраксе зраблю», — супакоіў цемрашалку Лёня, які адзіны захоўваў мэлянхолію ў гэтай гамэрні, шчыра не разумеючы — адкуль столькі зьвягі з-за кавалка мулкай паперыны... Справу замялі, адзіным яе пасьледкам была рулька гігіенічнай паперы, ахвяраванай нам куратаркай практыкі.

— Вам гэта не пасуе, Лёня, — сказала яна, паставіўшы яго тварам да клясы, калі мы вярнуліся з практыкі.

— А каму цяпер лёгка, — азваўся ён, каб неяк падтрымаць душэўную размову.

Па сканчэньні школы шляхі нашы разышліся. Я сустрэў неяк Лёню як раз перад яго ад'ездам на гістарычную радзіму. За кухлем цёмнага мы і спамянулі, як нам бегалася за Шараём.

*Наша Ніва, 1999*

## БАЛОТНЫ ВАГМЕНЬ

Балота — гэта адхланьне. Забалочаная глеба адпачывае пасьля баёў за ўраджай.

Балота — гэта спакуса. Балацянік спакушае ня яблыкам, а журавінамі.

НАЯЎНАСЬЦЬ ДРЫГВЫ — ПРЫКМЕТА ХАРАКТАРА

Лес без балота — гэта парк — несамавітае штукарства, пазбаўленае жыцьцёвай трываласьці. Калі гарыць навакольле, жывое шукае паратунку ў вільготным сутоньні. Дрогкая глеба балота — ім апірышча.

НЯВАРТА ПЛІШЧЫЦЦА Ў АДНО БАЛОТА ДВОЙЧЫ

Забалочваюцца азёры й палеткі, забалочваюцца гарадзкія пляцы. Цэлыя краіны ператвараюцца ў Вужовыя гаспадарствы. Чаротавым шоргатам поўняцца тэксты. У затоках іржавай моўкнасьці захрасае плынь часу.

БАЛОТА НАРАДЖАЕ КУЛЬТУРУ Й ПАГЛЫНАЕ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

Твань дрыгвы цёплым Гальфстрымам ахутвае ды абкуртвае мацярык беларускай гісторыі. У пасе іх узаемапранікненьня — злучэньня казачнага й гістарычнага — адбываецца будзённае жыцьцё. Палітыкі абяцаюць тут цуда, а казачнікі дэкляруюць палітычныя маніфэсты.

НА НАШ КОН ХОПІЦЬ БАЛОТА

Калі забіваюць балота, цяжарнае жыцьцём, плоцьцю, ваўком, — на месцы дэміюргічнага гармідару ўтвараюцца мёртвыя плехі суладнасьці. Здані казак блукаюць па-над здранцьвеньнем зямлі.

БАЛОТА РЭГУЛЮЕ КЛІМАТ І СПРАСТОЎВАЕ ЛЯНДШАФТ

Мангольская жарсьць знайшла заспакаеньне ў беларускіх балотах. Дрыгва ўраўнаважвае пасыянарныя выбухі — апраметная глыб яе замінае экспансіі ўшыркі.

БЕЛАРУС ЗНОЙДЗЕ ВЫЙСЬЦЕ З БАЛОТА

Замест візыту да псыхааналітыка беларус выпраўляецца за журавінамі. Навучаны балотам спакмячаць, ён прыкладае свой шлях не нацянькі, а на цямкі.

БЕЛАРУСКАЕ БАЛОТА ГАРЫЦЬ ПАД НАГАМІ Ў ВОРАГА

Балота — радовішча паданьняў і торфу. Тарфяныя пажары апаноўваюць вялікія абшары й характарызуюцца падступнай суцішнасьцю. Падземны агонь цяжка лякалізаваць ды тушыць.

Што б не казалі Сусаніны —

ЧУЖЫХ НАМ БАЛОТАЎ НЯ ТРЭБА.

*Ксэракс Беларускі, верасень 1996*

# MAGNUS DUX

> У Гаспадарстве Скошаных Мурогаў
> заблыталіся сьцежкі, атавелі.
> Ужо ня травень і яшчэ не лістапад.

Гаварыў ён ціхмяна й словы яго былі цьмянымі. Хто хацеў пачуць, — услухоўваліся ў маўчаньне. Гэта Magnus Dux. Гаспадар неабмежаваны.

Ён не здабыў уладу ў бітвах і не ўзяў пасад ані гвалтам, ані розумам. Ён ня браў — яму было дадзена. Яшчэ не народжаны, ён быў Magnus Dux — Гаспадар неабмежаваны.

Ён не будаваў замкаў — яны паўставалі самі, сьцераглі яго веліч. Ён ставіў на пагорках ветракі. Пагоркаў бракавала, і ствараліся новыя на сьпінах тванлівых балот. Ветракі ды пагоркі былі князеўскім бзікам — ён не любіў ані плашчыні, ані роўнасьці. Але паспалітыя яго любілі — веліч уладара лесьціла іх балотам, у крывым люстэрку яго дзівацтваў праглядала нешта большае, чым наканаванае ім жыцьцё.

Неяк сумна зрабілася ў княстве — кудысьці зьніклі сьвяты. Ня стала падставы, каб сказаць — «нам весела, хоць мы галодныя й баімся»: пляцы — забрукаваныя, паходні — палаюць ноччу, сьцерагуць ад злодзеяў і прымхаў. Тады Вялікі князь збудаваў на пляцы палац, увёў туды прыгожую дзяўчыну, казалі, ведзьму, атачыў палац паходнямі ды падпаліў перад вачыма асалавелых месьцічаў — і выцьвіла неба, дзень стаў як ноч ад шуганьня полымя. Той агонь доўга асьвячаў сны тубыльцаў, ім захацелася ізноў сьвятаў, жыць стала ня лепей, жыць стала ве-

сялей, кожны пазіраў з асьцярогаю на забрукаваныя пляцы й паходні.

За яго княжаньнем блазны ня здольныя былі зарабіць сваім штукарствам на хлеб — ён сам умеў і любіў жартаваць, штонядзелі блазнаваў на кірмашы. Ніхто ня мог паспрачацца зь ім у гэтым майстэрстве. Ён любіў кірмашы й часта ладзіў іх, але збольшага ня ў горадзе, а дзесьці ў пушчы, ці на возеры — у стругах.

Сьвятары ўвязьлі ў грахах і народ набрыняў ерасьсю. Але й сьвятары, і паспалітыя так любілі свайго князя, што хавалі ў сабе гэтыя бядоты. Князь, як добры гаспадар, вырашыў дапамагчы народу адужаць сваю немач. Ерэтыкі ня хочуць рушыць яго спакою? Тады ён сам узначаліць ерэтыкоў. Калі палова кляштараў было спалена, ён скінуў кажух інсургента, і запалалі ерэтыкі. Вось так у адзіным абліччы — Ерасіярх ды Інквізытар — ён шчасна кіраваў сваёю краінаю.

Край, улагоджаны яго добрай воляй, квітнеў бездакорна й шчасьліва, і тут схацеў князь зладзіць далёкую вандроўку. Ён доўга рыхтаваўся да яе і паміж клопатамі сканаў.

*Ксэракс Беларускі, 1994*

# ВАНДАЛЫ: ШАНЕЦ АБНАЎЛЕНЬНЯ

Літаратурны экспэрымэнт «Тутэйшых» зрабіўся адной з прыкметных падзеяў другой паловы 80-х. Зрэшты, плён быў невялікі, бо вытокі стагнацыйных працэсаў у беларускай літаратуры бачыліся «тутэйшым» адно ў спадчыне сацрэалізму.

Ад «Нашай Нівы», адноўленай напачатку 90-х, чакалася больш радыкальнага працягу справы, распачатай «Тутэйшымі», прынамсі зьяўленьне на старонках выданьня тэкстаў кшталту артыкулу С. Паўлоўскага «Ідэя Мёртвага Дому» дазваляе на гэта спадзявацца.

Беларускі ідэалягічны тэкст традыцыйна складаецца з пошуку адказу на два адвечныя пытаньні: «Што гарыць?» і «За што?» Эсэ С. Паўлоўскага ў гэтым пляне можна лічыць традыцыйным, але за радыкальнасьцю высноваў аўтара бачыцца спроба новай пераацэнкі. Айчынная рэфлексія дасягнула таго ўзроўню, каб зрабіць прадметам аналізу сваю веру — адраджанізм.

Адраджанізм — гэта тактыка выжываньня, што злучыла ў адно палітычны ды культурніцкі чын. Гэта практыка дазволіла беларушчыне выжыць, але не ў разгорнутым выглядзе Парадку, а ў якасьці сымбаля веры, альтэрнатыўнай рэальнасьці для абраных.

У беларускім руху на генэтычным узроўні закладзеная патрэба самаўзнаўленьня — адсюль шматлікія рэпрынтныя перавыданьні, самапаўторы культуры: «Не пакідайма мовы беларускай...», што ператвараюцца ў элемэнт дэкору, аздобы школьнае клясы, кнігарні, музэйнай экспазыцыі. Складваецца ўражаньне, нібыта беларускі рух ператварыўся ў музэйна-архіў-

нае таварыства, і будучыня разглядаецца ім адно з гледзішча, наколькі поўна ў ёй будзе прадстаўленая мінуўшчына: не ствараць новае, але бясконца ўзнаўляць старое.

Мінулае — сувэнір, самае большае — талісман. Калі мы заваюем будучыню, бліскучае мінулае будзе дадзена нам само — як трафэй.

Зьяўленьне ТВЛ (Таварыства Вольных Літаратараў, ці, калі хочаце, Таварыствам Вандалаў Літаратараў) — прыкмета новых часоў. Колькі існуе Захад, недзе фігуруе «рым» з паквапамі зрабіць увесь сьвет сабою, і прысутнічае «барбарская пэрыфэрыя». Беларусь знаходзіцца ў сьне-нірване. Калі нам пашэнціць ня трапіць у апошні вагон «цывілізаванага сьвету», то высілкамі новай генэрацыі маладых вандалаў мы маем шанс вярнуцца да зыходнага становішча — барбарызму — й спазнаем танізуючы подых «новага сярэднявечча».

*Наша Ніва, 1994*

## ЦЯГНІКІ Й НЕБА

Цягнік разарваў прыцягненьне часу — разорай паміж учора й заўтра лёг рэйкавы шлях. І мы пасунулі насустрач ночы. Усё хутчэй — хвіліну за хвілінай, мэтар за мэтрам — паглынае жалезны салітэр, а ўверсе — бясконцасьць.

Дождж за бруднымі шыбамі — немы й ня мае паху. Потныя целы спадарожнікаў хаваюць пустэчу вачэй у цяжкі сон — кожны, хто прыходзіць сюды, пакідае душу пад небам.

Бездакорная роўнасьць рэек, безупынны цокат жалезных колаў. Цягнік — прылада дзеля катаваньня — вязьніца на колах, крэмсае бясконцасьць кілямэтрамі. Апошняя надзея — стоп-кран.

Правінцыйныя вакзалы падобныя як блізьнюкі. Нудліва гойдаюцца шкляныя дзьверы. Зялёныя хвіліны адлічвае электронны гадзіньнік.

Чужое месца сустракае калатнечай цыганскага табара. Ад сталічнага вопыту тхне казённым смуродам вакзалаў. Сьцюдзёная слота віруе над мармуровымі сходамі. Чорныя лужыны зеўраюць безданьню. Мінакі не прамінуць штурхануць цябе локцем. Нэрвы трымцяць — прагнуць цяпла й прытулку.

*Ксэракс Беларускі, 1993*

# ПАРТОВЫ ГОРАД ЭКІМАНЬ

## СВІНТАРЬ

«*Свінтарь*» — менавіта так мы вымаўлялі гэтае слова, бо не засталося нікога, хто б растлумачыў нам яго сэнс. Цьвінтар быў часткай гістарычнай Экімані — сярэднявечнага прадмесьця Полацку. Яшчэ ў пракаветныя часы збурылі бажніцу, якая дала мястэчку імя, а ў савецкі час зладзілі на цьвінтарных кладах брацкую магілу палеглых у апошнюю сусьветную вайну салдат, вызваляўшых Полацк. Цьвінтару ня шэнціла. Праз яго цягнулі нітку водаправоду. Водаправод сыстэматычна псаваўся, яго рамантавалі, раскідваючы чалавечыя косткі і старажытную кераміку па мястэчку. Падцьвінтарнікі пачуваліся як у аблозе, ад чаго іх выспачка экіманскасьці рабілася больш згуртаванай — на Каляды талакой калолі кабаноў, а на Купальле палілі вогнішчы на Цьвінтары і выстаўлялі ўздоўж вуліцы з тузін сталоў — бяседа доўжылася ўсю ноч.

Мястэчка называлі жартам партовым горадам — колішняй прыстані не захавалася, і амаль сьцерлася памяць аб знакамітых па ўсёй Дзьвіне лодках-экіманках, але экіманскія сядзібы па ранейшаму выходзілі на бераг Дзьвіны — навідавоку Сафіі. Як мае быць, існавалі легенды аб лёхах, якія пад Дзьвіной нітуюць Сафійку зь Цьвінтаром. Многія экіманцы мелі лодкі і паказвалі, разводзячы ўшыркі рукі, даўжыню вылаўленых імі дзьвінскіх самоў. Напрыканцы 80-х падцьвінтарную Экімань напаткаў злы лёс — мястэчка разрэзаў новы мост праз Дзьвіну.

## ЛІЗА

Ліза паказала музэйшчыкам месца, дзе быў затоплены ў Дзьвіне Барысаў камень — цяпер ён стаіць ля Сафійкі. Лізіна адлюднасьць, яе дзіўныя апранахі, штодзённае корпаньне на сьметніках ды няздатнасьць старэць — нітаваліся ў адзін вобраз, алегорыю з пантэону местачковых цнот, дзе побач з постацьцю пэнсійнай Кунегі яна сымбалізавала сабой сакральную Бзікаватасьць. Зь няўзоркімі вачамі за тоўстымі дыёптрамі, у расшлэпках-чаравіках са сьметніку, з пульхнымі рукамі, што клеіліся да кожнай ламачыны, — была Ліза як ніхто падрыхтаваная, каб перахаваць таямніцу Барысавага каменя. Жыла Ліза пад Цьвінтаром — зь некарыснага агародчыка, які месьціўся на тэрыторыі колішніх ганчарных вытворчасьцяў старажытных экіманцаў — зямля тут была чырвоная ад керамічных аскепкаў. Ліза змагалася зь імі штодня, выносячы вёдры друзу на вуліцу — падсыпаць калдобіны. Часам разам з чарапкамі яна выкідала сапраўдныя нумізматычныя пэрліны. Мела яна гламаздаватага братушку, падобнага да палоннага эсэсаўца. Можа ён ім і быў — бо ніколі ж уцямна не размаўляў.

## ТОСЯ

Прыбышы прыжываліся тут блага, але Тося паставіла рэкорд, ня вытрымаўшы і лета таварышаваньня з экіманкамі. Яна любіла, седзячы ў ружовым пэньюары сярод местачковых баб, распавядаць аб сваім гераічным немаўляцтве, праведзеным з бацькам-камісарам у Туркестане. Гэтыя кіношныя камісары-туркестаны абуджалі ў экіманках басмачы дух. Яны яе не панаравілі — тут быў вырак — напрыканцы лета яна адваліла.

## ЛАГУНІХА

Лагуніха — баламуціла суседзяў, ладзіла Купальле, ставіла «рагаткі» вясельлям, вызначала накірунак грамадзкай думкі. Яна не задавальнялася камэнтарамі з лаўкі, ствараючы гісторыі сама, лепячы конікаў ды кулі з падножнага матэрыялу, па той бок дабра і плоту мераючы сьмехам кожнага сустрэчнага. Перахілы яе жартаў былі хібаю стылю, а не характару. Дзяцей у яе не было, мела ружовы куст, які квітнеў увесну.

## ЗЯМЛЯЧКА З УРАЛУ

«Як у маскаля сьнег зімой пазычаць» — улюбёнае выслоўе Міхайлаўны. Дваццацігадовае прабываньне сярод чалдонаў умацавала яе антымаскоўскі зацін. З Сыбіры яна вывезла пасыянарнасьць ды кучу дзяцей, якія бавіліся разводамі, судзіліся, хлабысталі воцат. У адно надзвычай сьпякотнае лета другой паловы 80-х XX стагодзьдзя загарэўся Міхайлаўны дом, а разам зь ім — і яшчэ пяцёра, дамы так і не адбудаваліся.

## ВЕДЗЬМА ТОНЬКА

Усе здохлыя куры былі на яе сумленьні. Крэйдавыя крыжыкі па-над дзьвярыма хлявоў не дапамагалі — куры фатальна здыхалі. Тонька хадзіла гледзячы скрозь экіманскіх баб. Аб тым, што яна іх усё ж заўважала, сьведчыла шавяленьне яе вуснаў. Бабы адплачвалі шчыра, разьвіваючы тэмы вядзьмарства ды курвельства з фашыстамі. Палітыку яны прыклепвалі, не давяраючы эфэктыўнасьці абвінавачваньняў у вядзьмарстве. Рэгулярна баб апаноўвала паранойя, разьвярэджаная згрызотамі пляткарскага сумленьня,

і тады яны пачыналі замятаць за сабою сьляды на вуліцы, асьцерагаючыся Тоньчынага суроку.

## ЧАГО ТУТ НЯМА

У гэтых згадках няма курыцы Хахлаткі, якая каўкала як котка. Ані знаку тут ад выбітых роварных сьпіц, латвійскіх гумак ды кукурузных палачак з цытрынавай глазурай, як няма і Агашкі, Арсеньніхі, Фрузкі ды Іваніхі зь яе кабачковымі аладкамі. Няма піратэхнічных досьледаў, якія калечылі не адно пакаленьне экіманцаў, уталентаваных ня толькі чуйнасьцю на езуіцкія скарбы, але і на тол. Тут няма пахаваньняў — духавых аркестраў ды цюлевых гардзінаў, над якімі вытыркаліся вострыя насы наўцоў.

## АБ КРЫВІЧОХ

Хто яны, жыхары Экімані, — местачкоўцы, вяскоўцы?

Хай не крыўдуюць мае сапляменьнікі, але дзеля азначэньня іх сацыяльнага статусу на язык просіцца адзінае слова — куркулі.

Экіманец ня скажа на сябе, што ён куркуль. Але пра суседа абавязкова: «Вунь які палац адбухаў. У-у, куркуль!» А сусед тое ж самае будзе сьцьвярджаць пра яго: «Вы пагладзіце на гэтага куркуля — ва ўсіх сыноў і зяцёў — па машыне».

Крый Божа сказаць ім гэта ў вочы, але калі поголас дойдзе да іх ускосна, то будзе ўспрыняты як камплімэнт. Бо вядома, што кожны экіманец перад сном усьцешана думае пра сябе: «Ну і куркуль я!»

*Arche, 2000*
*(Аб крывічох: Наша Ніва, 1994)*

# ВЯРТАНЬНЕ ВЕРШНІКА

Прыцемкі ў лесе пахлі дажджом. На затравелай сьцежцы пасярод лесу вершнік слухаў у адзіноце жывую цішыню. Жвавыя птушкі цьвіркалі, што тыя званочкі, цешылі сэрца чалавека. Дзень спыніў свой рух да ночы й таксама слухаў, адпачываў. Аднае вада азёрная болей і болей нэрвавалася й брыняла барвай.

* * *

Пасохлы трысьнёг рыпіць у халоднай твані — выкляты й адлучаны ад агню — трызьніць нязбытным цяплом. Побач сябра стары — вужака сьцюдзёнакроўны — чорным скруткам бавіцца бяз руху немаведама ўжо колькі часу — есьці ня хоча. Два бервяны на беразе ляжаць — маркотна ліжа іх вада. Ногі, звыклыя ўтаймоўваць шалёных коней, трывала крочаць па сьлізкім мастку. Вось і сонца выйшла з хмараў на разьвітаньне — яно нас памятае й спагадае.

Да вады схіліў вершнік нізка галаву дабрародную й зірнуў усутыч на лапік сьвятла з вачыма змoранымі. Ад возера патыхала сьпячай цішынёю. Ноч не прынесла ані цішыні, ані цемры. Неба буяла зорамі. Зьнічкі абрыналіся ціха ў вусьцішнае вухканьне лесу. Сузор'і, што тыя словы, складаліся ў таемныя сказы — марна карцела вызнаць іх сэнс. Лес павеяў зьдзекліва ружай. Пасярод ночы на сярэдзіне возера — там, дзе холад гусьцее, — заквітнеў чарот.

* * *

Будзень атуліў цела авоглай апраткай — зраньня імжэла туга. Грыбы спрасоньня талакою пацягнуліся да неба, поўнячы лес шамаценьнем сьпелай лістоты.

Абрысы дрэваў паглынае дым. Агмень сіпка шэпча старасьвецкія байкі. Вершнік і дрымота — удзячныя слухачы — баўтыхаюцца ў імжы, трохі вышэй ад зямлі, акурат на ўзроўні асалавелых вочак зайцашарачка, што сядзіць воддаль асьцярожліва ды ўсьміхаецца прыязна госьцю.

*Ксэракс Беларускі, 1993*

# ПАКАХАЦЬ

З маленства мне падабаліся розныя старажытнасьці. Я ішоў па жыцьці тварам да зіхоткіх глыбінь мінуўшчыны. Так і павінен жыць сапраўдны археоляг, пакліканы гісторыяй. Водар даўніны — моцны наркотык.

Кожная справа, нават бязглуздая, калі зьдзейсьніць яе пасьлядоўна й да рэшты, зробіць цябе вялікім. Максім Багдановіч ня мог гэтага ня ведаць, калі пісаў: «Не пакідайма ніводнай кроплі на донцы!»

Гэтак я капаў свае скарбы, утароплена ўглядаючыся ў земляныя разоры, пакуль не дайшоў да свае кроплі. Апошняй.

Гэта сумная гісторыя. Як сапраўдная гісторыя пра каханьне. Жыцьцё такое кароткае — не заўважыш, як страціш магу выбіраць. Сьмерць — таксама апошняя кропля. Толькі ня мы выпіваем яе, але нехта, не спытаўшы, — выплюхвае.

Гісторыя адбывалася ў Эгіпце. Невытлумачальная туга, падобная на прадчуваньне, зьмяшаная зь невыноснаю эгіпэцкай гарачынёй, вярэдзіла, выцягвала душу — спакойную, засяроджаную душу археоляга. Археоляг не павінен адчуваць ані тугі, ані сьпёкі — на тое ён і археоляг, лыцар навукі з рыдлёўкамі замест рук. Можа даліся ў знакі гены якога продка ў дзесятым калене, верагодна археоляганенавісьніка? Я сьцяў зубы і, не зважаючы на тугу, сьпёку ды бунтоўныя гены, капаў сваю разорыну, усе шчыльней набліжаючыся да апошняе кроплі. Археалягічныя раскопкі падобныя да працы скульптара. Скульптар адсякае ад мармуру лішку, каб перад гледачамі паўстаў шэдэўр, Галятэя. Гэтак

і археоляг — ён толькі здымае вонкавыя напластаваньні.

Хто яна была — Клеапатра? Нэфэрціці? Багіня гісторыі Кліо? У яе былі вочы сырэны — адны зрэнкі — пакахаць, паланіць, забіць. Туга, сьпёка і я — вочы ў вочы зь ёю, зрэнкі сырэны. Апошняя кропля. Хто яна — Клеапатра, Нэфэрціці, Кліо? Чорныя, вялізныя зрэнкі казалі: «Я твая Галятэя, археоляг. Будзь пасьлядоўны, выпі апошнюю кроплю».

Акалець у разорыне, назаўсёды падпасьці наркатычнаму водару гісторыі, зданям мінулага? Не. І я пабег, кінуўшы рыдлёўку, — празь пяскі Эгіпэцкай зямлі, за мора. Чаму пішу цяпер пра гэты ганебны момант майго жыцьця? Я зноў наблізіўся да апошняе кроплі. Ня ведаю — буду пасьлядоўны да апошняга ці зноў зьбягу? Пішу на раздарожжы. Я знайшоў ідэал — з плоці й крыві, па гэты бок мармуру. Я знайшоў ідэал. У яе вочы сырэны — пакахаць, паланіць, забіць. Дзьве чорныя разорыны.

*Наша Ніва, 1994*

# АДРАДЖЭНЬНЕ Й КАНКІСТА

Гэты сьвяты чын, што ўжо стагодзьдзе вядомы ў Беларусі пад назваю Адраджэньне, лепш было б менаваць іншым словам, менш паэтычным, але больш дакладным, — Самаўзнаўленьне. Бо Адраджэньне — гэта не ідэалёгія й не культурны працэс, якія пад ім часта разумеюць, але барацьба за існаваньне беларускай культуры.

Адраджаецца не дзяржава, а грамадзтва. Адраджэньне фармуе летуценьнікаў, што мараць пра Сьветлую Будучыню Беларушчыны. Мэта Адраджэньня — падтрымліваць колькасны балянс носьбітаў нацыянальнае сьвядомасьці. Галоўнае тут ня якасьць, а колькасьць. Таму дух Адраджэньня не спрыяе фармаваньню індывідуалізму, Адраджэньню бракуе авантурыстаў.

Сродак Адраджэньня — літаратура. Па сваёй сутнасьці яна — літаратура сэнтымэнталізму, які прадыктаваны інстынктам самазахаваньня. Тут культывуюцца пачуцьці гаротнасьці, ахвярнасьці ды пакутніцтва. Дзеля эстэтыкі Адраджэньня Хатынь мае большую вартасьць, чым Грунвальд. Адраджэнскі сэнтымэнталізм здольны ня толькі намаўляць нэафітаў («агульная крыўда»), але, у нейкай ступені, ён здольны і бараніць («ляжачага ня б’юць»).

Сучасны гістарычны этап характарызуецца больш спрыяльнымі ўмовамі. Прысьпеў час Новай Культурнай Сытуацыі, ці Канкісты. Канкіста фармуе новую літаратурную мову ды эстэтыку (найбольш шчыра гэта выяўляецца ў перакладчыцкім працэсе). І галоўнае, яна фармуе Новы Патас — Патас Канкісты. Пасьля стагодзьдзяў засяроджанасьці Беларушчына памкнулася вонкі.

Напярэймы сэнтымэнталізму ідзе рамантызм — ня столькі літаратурны стыль, колькі новая форма грамадзкай сьвядомасьці.

Канкіста скіраваная не на стварэньне новае формы, але на авалоданьне незасвоенай — не дзеля формы, а дзеля Канкісты, — засваеньня большага жыцьцёвага абсягу дзеля сваёй культуры. Канкіста — не дзеля самасьцьвярджэньня, а дзеля жыцьцесьцьвярджэньня. Канкіста — зьява дзёрзкая ды імпэтная.

Сучаснае культурнае жыцьцё знаходзіцца збольшага ў рэчышчы Адраджэньня. Гэта аб'ектыўная патрэба сучаснасьці, бо насельніцтва Беларусі ня стала пакуль беларускім грамадзтвам. Таму мэтады Адраджэньня дзейсныя й цяпер.

Тая ж частка айчыннай інтэлігенцыі, што крочыць сёньня пад сьцягам Канкісты, павінна падрыхтаваць глебу дзеля непазьбежнага пераходу грамадзтва ў новую якасьць. Але як далёка ні сягаў бы кожны ў сваёй Канкісьце, трэба памятаць запавет бацькі Адраджэньня: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!»

*Наша Ніва, 1993*

# КРЫНІЧКА

Напрыканцы 80-х у прыдзьвінскім парку Наваполацку закрынічыла глейкая строма. Экалёгія была незвычайна папулярнай тэмай у гэты час — на наваполацкай плошчы зьбіраліся шматтысячныя мітынгі алергікаў, уладальнікаў гастрыту і бяссоньня, якія патрабавалі ад уладаў чыстага паветра. Непакоілі ў першую чаргу небясьпечныя выкіды мясцовых хімічных гігантаў, але якасьць пітной вады таксама ўзмацняла агульны настрой іпахондрыі. Мітынгі і чэргі — прыкмета гарбачоўскай перабудовы, — каб набыць малако і хлеб, трэба было стаяць гадзінамі. Вось і каля крынічкі пачалі зьбірацца чэргі аматараў нехляраванай вады — ліхтарыкі бліскалі да глухой ночы. Зрэшты, «глухая ноч» — анахранізм для Наваполацка — кіслотнае неба гораду па-над галовамі людзей са слоікамі расквечвалася сполахамі нафтахімічных заводаў.

Нішто не псавала гумору крынічнай чаргі. Гэтая нечуваная дасюль супольнасьць людзей у пузырыстых трыко дыхала волкім рачным паветрам, а выдыхала «Водар мяты». Чарга хутка расла і паглынула б неўзабаве ўсіх алергікаў гораду, каб не маразы. Да таго ж было апублікавана заключэньне санэпідэмстанцыі — карысьць крынічнай вады выклікала цяпер вялікія сумненьні. Жыцьцё ішло сваёй хадой. Мода на паходы за прыдзьвінскай аквай мінула, але крынічка працягвала спataляць прагу навапалачан, цяпер ужо на духовае, — аднойчы стаў сьведкам, як каля струменя вады ўкленчыла старая кабета, стоячы каленамі на цыраце.

*Наша Ніва, 1999*

# ВЯСНА 1216

У красавіку 1216 года па нараджэньню Хрыста на крывіцка-дрыгвіцкай прастрані — ад Балтыкі да Дняпра, між Прыпяцьцю й Дзьвіною — была сьнежна й завейна.

Вясна забавілася недзе ў дарозе. Дарогі ж ператварыліся ў сьняговыя рэкі ды імкнулі разьліцца па навакольных вёсках — бухматыя хвалі атачылі хаты тубыльцаў.

Тубыльцы ж бліжэй туляцца да свойскіх цяпельцаў. Смуродлівы куродым уядаўся ім у косьці, мазгі — спараджаў трызьненьне на яве, трызьненьне аб леце.

Аб леце...

Улетку багата лебяды й дзьмухаўцоў. Улетку на стрэхах паглядна зелянее мох. Далей ад ліха хаваюцца дарогі ў буяньне мурожных дзірваноў. На прызбах дзяды сівыя чыняць казань аб рацэ Дунай, дзе рыбна было й цёпла... Уздыхаюць кабеты: «Навошта зьвялі іх продкі з раю зямнога». Ківаюць згодна слухачы.

Ды ня ўсе дзядоў слухаюць. А калі й слухаюць неслухі гэтыя, то вярзуць непатрэбнае — карціць ім ведаць неадменна — куды вялі іх продкі, а галоўнае — чаму спыніліся, чаму не пайшлі далей. І касавурацца на лес — семя воўчае – не сядзіцца ім па хатах, — гэта яны не даюць зусім атавец сьцежкам. На злом галавы сваёй мераюцца гартам з зубрам, імпэтам зь ветрам. Даходныя — сьвярбіць ім спасьцігнуць, адкуль усходзіць і куды садзіцца сонца. Ані лясуна, ані вадзяніка не баяцца пракуды...

Гэтак трызьняць на яве тубыльцы, покуль тыя, каму не па нораву цяпло куродыма, гойсаюць па пушчах — мкнуць напярэймы вясьне...

То лепшыя людзі. Няшмат у іх грыўняў, але багатыя яны сьвітанкамі ды вёснамі. Няма прыдатку ім на палёх: коней зморацць да змогі, касу сатруць ушчэнт. Бо сэрцы прагнуць ня справы, а чыну — вочы ўзораны ў далеч.

Аднае палёгка ім у пушчы, калі сам-насам з зубрам: дыхт на гарт, імпэт на апантанасьць. Меншае ў лесе зуброў, меншае й спавесьнікаў Вясны. Мала іх пад сонцам, ды яны разам з сонцам. Сьвята зьнічак — Купальле — гэта іх сьвята.

Пад зорным дажджом на крылах вогненных мкнуць яны да неба.

Папарацьь-кветка — пасаг валошказорым, папарацьь-кветка — знак маладосьці.

*Ксэракс Беларускі, 1993*

# ЭПОХА МАНІХВЭСТАЎ

## (ЗАМЕСТ УСТУПУ)

Літаратурны маніхвэст — любае дзіця гэтак званай літаратуры для літаратараў — надзвычай запатрабаваны ў беларускім прыгожым пісьменстве апошніх часоў. Ён пасьпеў зрабіцца самадастатковай літаратурнай практыкай, ці не найбольш дынамічнай з усяго жанравага спэктру, даступнага нашым сучасьнікам. Можна ўжо казаць аб існаваньні айчыннай літаратуры маніхвэсту, якая кампэнсуе нам брак добрай сацыяльнай фантастыкі. «Баявік», як называе найлепшыя ўзоры падобнай творчасьці Юры Гумянюк, мае шэраг выдатных якасьцяў. Па-першае, маніхвэст не стамляе чытача, бо мае зазвычай невялікі аб’ём. Па-другое, ён не расчароўвае, а наадварот — інтрыгуе, пакідае чытача з пачуцьцём лёгкага літаратурнага голаду. І па-трэцяе, літаратурны маніхвэст прыносіць шмат імгненьняў шчырай уцехі самому аўтару — сьпярша калі ён яго піша, а потым калі перачытвае. Такім чынам, маніхвэст...

## ДА ТРАДЫЦЫІ БЕЛАРУСКАГА РАМАНТЫЗМУ

Гэты абразок ня ёсьць ані літаратурным дасьледаваньнем, ані літаратурнай дэкляярацыяй. Яго спарадзілі тры стыхіі.

Па-першае, гэта маладосьць з уласьціваю ёй прагаю авантурызму. Па-другое, наш час, дакладней, бязьлецьце, цяжарнае нечым безназоўным, што

з роўным посьпехам можа быць постмадэрнізмам і пострамантызмам, Новай Культурнай Сытуацыяй і Канкістай. І, нарэшце, гэта жыцьцёвы й творчы чын Джорджа Гордана Ноэля Байрана, напярэдадні 206-х угодкаў зь дня нараджэньня якога й пішуцца гэтыя радкі.

Лёрд Байран — чужаніца для беларускай культуры. У нас яго добра ня ведаюць і ня любяць. Гэта нешта большае, чым звычайнае абыякавае стаўленьне да клясыкі. Байран — арыстакрат па паходжаньню й па чыну — быў і застаецца пятым колам у сьветабудове беларускай культуры, спачатку зарыентаванай на местачковыя рэакцыі. Ды й як можа апостал абсалютнай волі быць хаўрусьнікам народу, які няўрокам кажучы падсядзе на гіпатэчнае крэдытаваньне. Мы маем парадаксальную сытуацыю — у нас ёсьць творцы з выразна акрэсьленым рамантычным сьветаадчуваньнем (Купала, Караткевіч), але рамантычнай літаратуры — няма. Тое, што маем, лепш называць асьветніцкім сэнтымэнталізмам. Рамантызм — перадусім дух, стыхія, экспансіўная, экстэнсіўная й дэструктыўная, што імкне ад тэмы да тэмы, ад формы да формы — разбураючы закасьцянелае.

Аніхто акрамя Байрана ня здолеў гэтак пасьлядоўна ўвасобіць у жыцьці і ў творчасьці ідэалы рамантызму. Таму ня дзіва, што заганы характару Байрана пачалі атаясамлівацца з рамантызмам, а ўсе слабасьці рамантызму прыпісваліся самому Байрану. Беларусаў, якія толькі зьбіраюцца людзьмі звацца, трохі палохае т. зв. дэманізм натуры лёрда Байрана: натуральны адбор у гістарычных варунках Беларусі спрыяў рахманым ды памяркоўным. Зрэшты, гістарычная традыцыя беларусаў захавала і пару радыкальных стратыгем: «Нас мала, — не чакайце літасьці» і «Пачнём, а там паглядзім».

Такім чынам, асноўнай задачай рамантызму ў Беларусі, які зусім яшчэ ня вычарпаў сябе на мясцовай глебе, зьяўляецца ўзнаўленьне, рэканструкцыя, актуалізацыя ды папулярызацыя (апцыянальна — архівізацыя) Густу да Годнага Жыцьця. Кахаймася.

*Калосьсе, 1995*

# ВЕСНАВОЕ

Люблю паліць вясной зімова-асеньні плён — папяровыя сумёты сьцюдзёнага шматслоўя і слотных думак. Люблю ўвесну забываць старыя абяцаньні. А таксама ўлюбёныя кнігі. Сябры цікавяцца, дзе мая бібліятэка. Як растлумачыць, што свае кнігі я пакідаю зіме — сумётам і занядбаным сьнежным паркам.

Пасьля чалавека не застаецца анічога, але захоўваецца бібліятэка — як летапіс другога прывіднага жыцьця — жыцьця сярод кніжнага чыну і кніжных пачуцьцяў. Я не хацеў бы пакідаць наступнікам гербарыяў і бібліятэк. Яны самі мусяць шукаюць і знаходзяць свае ўлюбёныя кнігі, а потым губляюць — абавязкова — пакідаюць іх сумётам ды занядбаным сьнежным паркам.

Архівы я зьнішчаю ў самым зародку. Яшчэ невядома, калі атрымліваеш большае задавальненьне — тады, калі пішаш, ці калі зьнішчаеш напісанае.

Навошта пакідаць па сабе нататкі, лісты ды чарнавікі — папяровае сьмецьце, сьведчаньне незваротнасьці часу — і павялічваць энтрапію ў Сусьвеце?

Добра пішацца восеньню, калі дрэвы скідаюць лістоту. Напісаныя восеньню словы трэба правяраць вясною — жывыя яны або збуцьвелі.

Зімою добра чытаецца, але нават зімою карціць сагрэцца над агеньчыкам з тэкстаў. Вясной, калі сьнег сыходзіць і на фоне жывой зялянiны зімовы бруд робіцца яшчэ больш агідны, — ад тэкстаў патыхае цьвільлю. Разумееш, полымя — знак пунктуацыі, што тая кропка.

*Наша Ніва, 1994*

# ЧАРОЎНАЯ ХАТКА

Мы ходзім сярод зданяў літаратурных і мітычных герояў, а краявіды чужых краін бачым вачыма іх пісьменьнікаў. Можна сказаць — Францыя Бальзака, Расія Дастаеўскага. Трохі іншыя законы дзейнічаюць у Беларусі. Ніхто не расказаў яшчэ так поўна і трапна аб нас, як зрабіў гэта сам народ. Насуперак літаратарам і навукоўцам народныя казкі пакінулі нам вобраз не пацяўпешкі-бедака з каўтуном у валасах, а дасьціпнага добрага чалавека.

Беларусь — што тая казачная хатка з сыру ды бліноў. Стаіць яна на сонечнай паляне, сьцеражэ яе пушча. Трапіў аднойчы туды чалавек і застаўся назаўсёды — упадабаў, бо была тая хатка пупам зямлі і адначасова яе ўскрайкам.

Гэта Беларусь — пуп зямлі і яе ўскраек — пункт пэўнасьці, Беларусь ідэальная, а іншай няма — такой пакінулі нам яе ў спадчыну дзяды.

Гісторыя гэтай Беларусі не патрабуе бразготнай ды бліскучай аздобы а ля «Залаты век» — казку можна пачуць у цішы штодзённасьці.

*Наша Ніва, 1995*

# АБЗАЦЫ

Ціхія Віры празрыстых тэкстаў нам не пагражаюць. Мы кулдыячым, сьпяшаючыся зрэзаніраваць у гіпэрманіфэсьце свайго пакаленьня. Мы захліпваемся словамі, бо нам жа так многа трэба чаго сказаць. Мы заўжды пераканаўчыя ў сваіх цямраных мэдытацыях, поўных паэзіі некантралюемага сэнсу. Цягнікі нас чакаюць.

Нацыянальныя праекты, рана ці позна, рэалізуюцца. Але нацыянальнае пачуцьцё сатысфакцыі ня ведае. Мо таму нат і самыя выбранецкія праекты не абыходзяцца ў нас бяз чыннага ўдзелу бажаволкаў, пустадомкаў ды дзяцей. Усе свае жарсныя маналёгі, відзежы ды бзікі мы культывуем ад імя «прастаты, дабраты і праўды», гэта значыць адэкватнасьці, пазытыўнасьці ды рацыяналізму. «Рэспэкт» бажаволкаў, «грунтоўнасьць» пустадомкаў ды «здаровы сэнс» дзяцей надаюць патрыятычным пачынаньням сьцішнаватае хараство. Бог Адраджэньня пэўны сабе, пасылаючы гэтых упадабаных ім пэрсанажаў на восем літар — у Беларусь.

Мы выяўляем вітальнасьць плянктону, павялічваючы свае шэрагі між катастрофамі. З кожным новым падобным цыклям беларускі рух усё больш маладзее. Імпэт нэафітаў у гэтых варунках робіцца галоўным рэсурсам культуры. На лядах беларушчыны ўтульна толькі «падлеску» — пэрманэнтнаму «маладняку». Гэта дэкаданс квітнеючай маладосьці ў буяньні марцовых тэкстаў. Усе б'юць у бубны і падгоцваюць — адвечны «маладняк», багема змаганьня, — свайго мы яшчэ не дапракудзілі, не далюбілі, не дабылі.

*Калосьсе, 1999*

# ЗЬМЕСТ

## Імпрэсіі

*На вокладцы — малюнак праэкта рэканструкцыі Полацкай акадэміі айтарства Габрыэля Грубэра.*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Шыдлоўскі** Сяргей

МУЗЭЮМ

*Эсэ, імпрэсіі*

Адказны за выпуск *Алесь Аркуш*
Рэдактар *Алесь Аркуш*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Віктар Іваноў*

Падпісана ў друк 16.09.2016. Фармат 84x108 $^1/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ул.-выд. арк. 4,96. Ум. друк. арк. 8,19.

Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда».

Printed in Poland